Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

№ 5 (44) Май 1929

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# Культурная рэволюцыя і краязнаўства.

„Сутнасьць культурнай рэволюцыі,— кажа Клемм у „Диалектике в культурной революции“,—у шырокім абхопе гэтага паняцьця заключаецца ў двуадзіным процэсе: 1) зьмены сьвету для таго, каб з грамадзкіх вытворчых сіл, якія дзейнічаюць сьлепа, нагла і руйнуюча, зрабіць пакорных слугаў і 2) зьмены прыроды мас і, у першую чаргу, пролетарыяту, якая ў аснове сваёй павінна выявіцца ў навучаньні і набываньні навыкаў дыялектычна думаць,—таму ў аснове, што без дыялектычнага думаньня ня можа быць запраўднага пазнаньня дзейнічаючых у сьвеце прыродных законаў, а без запраўднага пазнаньня немагчыма такая зьмена сьвету, якая патрэбна для пераходу з царства неабходнасьці ў царства волі“.

Такім чынам асноўнаю задачаю культурнай рэволюцыі зьяўляецца пазнаньне прыроды сьвету і прыроды мас, якое павінна выконвацца ў першую чаргу ў маштабе навакольнага жыцьця, у маштабе мясцовага краю. Такую працу і выконвае масавы краязнаўчы рух, дапамагаючы сваёй працай перабудове жыцьця на новы соцыялістычны лад. Мясцовыя работнікі, сяляне, моладзь і г. д. вывучаюць шляхам зьбіраньня адпаведных матар'ялаў, клясыфікацыі іх і вывадаў, а таксама прычыны, якія перашкаджаюць і якія спрыяюць нашаму росту і далейшаму разьвіцьцю. Штабамі гэтай вялікай масавай краязнаўчай працы зьяўляюцца праўленьні мясцовых краязнаўчых організацый.

Пад іх кіраўніцтвам мясцовыя комсамольцы, аграномы, настаўнікі, дактары, лістаношы і інш. працаўнікі злучаюць сваю краязнаўчую працу для ўсебаковага пазнаньня мясцовай прыроды і жыцьця, каб зьмяняць іх на карысьць працоўнага насяленьня. Асноўным прынцыпам чыннасьці мясцовага краязнаўчага руху становіцца яго масавасьць. Калі праца агранома ў вёсцы па падвышэньні ўраджайнасьці і павялічэньні прыбытковасьці сельскай гаспадаркі зьяўляецца толькі яго працаю, яго абавязкам, калі над гэтым працуе ён адзін, то такая праца хоць і дасьць некаторыя вынікі, але далёка не такія, якія можна было-б атрымаць пры масавай колектыўнай працы. Калі праца настаўніка ў вёсцы па зьнішчэньні цемры і няпісьменнасьці, па змаганьні з рэлігійным дурманам будзе толькі працаю яго самога, дык і ён вялікіх дасягненьняў адзін ня зробіць. Калі зноў-жа толькі доктар будзе працаваць па палепшаньні санітарнага і гігіенічнага быту вёскі, дык вынікі працы яго аднаго будуць зусім нязначныя ў параўнаньні з тым, што мы жадаем мець. Словам, ва ўсіх галінах мясцовай гаспадарчай і культурнай дзейнасьці павінен прымаць удзел магчыма большы лік насельнікаў.

Разам з тым необходна клапаціцца аб ажыцьцяўленьні другой асноўнай якасьці мясцовага краязнаўчага руху, а ўласна аб якасным па-

лепшаньні самой краязнаўчай працы. Ад апошняга, зразумела, палепшацца і вынікі яе. Для гэтага, побач з уцягненьнем шырокіх мас у краязнаўчую працу, трэба клапаціцца аб спэцыялізаваньні кожнага краязнаўцы ў пэўнай галіне краязнаўчай працы. Калі кожны краязнаўца будзе займацца вывучэньнем самых розных пытаньняў—праца яго будзе мець дылетанскі павярхоўны характар. Таму трэба дамагацца, каб мясцовыя краязнаўцы спэцыялізаваліся спачатку па трох асноўных галінах краязнаўчай працы: прыродна-географічнай, грамадзка-экономічнай, культурна-гістарычнай. З часам гэтая спэцыялізацыя павінна будзе звузіцца да яшчэ больш вузкіх галін навукі. Лепш даць добрую глыбокую і дасканалую працу аб прамысловасьці мясцовага краю, чым павярхоўныя агульныя сказы аб усіх баках яго. Трэба спадзявацца, што ў самы бліжэйшы час праўленьні мясцовых краязнаўчых організацый дапамогуць мясцовым краязнаўцам зрабіць першыя крокі ў галіне спэцыялізаваньня і належнай мэтодычнай самападрыхтоўкі краязнаўцаў.

Такая праца краязнаўцы ў аднэй галіне дасьледваньня мясцовага краю, якая супадае з яго спэцыяльнасьцю: сельская гаспадарка—аграномам, мэдычна-санітарны стан—доктарам і г. д. палегчыць хутчэйшае скарыстаньне вынікаў данай краязнаўчай працы ў справе выкананьня чарговых задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Калі мясцовы краязнаўчы рух, побач з іншымі сваімі задачамі, будзе ажыцьцяўляць самым актыўным чынам гэтыя асноўныя дзьве: масавасьць і спэцыялізаваньне—ён можа сваім пазнаньнем прыроды і жыцьця мясцовага краю дапамагчы зьмене яго, аб чым было сказана ў пачатку.

Т. Шыбко.

---

**М. Касьпяровіч.**

# Ліквідаваньне краязнаўчай няпісьменнасьці і падрыхтоўка краязнаўцаў.

Зьменнасьць чарговасьці задач складае галоўную адзнаку нашага, як і ўсякага іншага, краязнаўства. Тое, што лічылася неабходным учора — становіцца другарадным сёньня; сёньнешняе — можа стаць пазачарговым заўтра. І калі краязнаўчы рух ня будзе строга орыентавацца ў дыялектычным разьвіцьці свае дзейнасьці, то можа хутка стацца няжыцьцёвым або стрымліваючым, а не ўзмацняючым краябудаўніцтва.

Гэтая зьменнасьць задач, а значыць і формаў, асабліва яскрава выявілася на самым пачатку беларускага савецкага краязнаўчага руху. Ён, пасьля вялікай Кастрычнікавай перамогі, у процівагу расійскаму і польскаму дарэволюцыйнаму краязнаўству, стаў магутным масавым рухам на карысьць адбудовы краіны, на карысьць працоўных.

Калі мы разглядаем асноўныя ўласьцівасьці дарэволюцыйнага краязнаўства на Беларусі і нашага пасьлярэволюцыйнага краязнаўства, дык бачым, што ўсе ўласьцівасьці першага процілеглы ўласьцівасьцям другога. Дарэволюцыйнае краязнаўства мела задачай вывучэньне асобных галін краю (пад краем разумеючы б. паўночна-заходні край, г. зн. этногра-

фічную Беларусь). Усе галіны этнографічнай Беларусі вывучаліся ў розных краязнаўчых організацыях з розных бакоў. Такім чынам у аснове сваёй дарэволюцыйнае краязнаўства імкнулася да ўсебаковага пазнаньня Беларусі, але кожная організацыя выбірала для сябе найбольш прыемную ёй галіну дасьледваньня і аб'еднывала аматараў данай галіны. Значыць, дарэволюцыйнае краязнаўства, у сваім аб'яднаньні краязнаўчых сіл, трымалася цалкам на індывідуалістычным прынцыпе організацыі краязнаўчага руху. Пасьлярэволюцыйнае беларускае краязнаўства мае задачай — усебаковае вывучэньне краю кожнай краязнаўчай організацыяй. У нас няма архіўных камісій, у нас няма таварыстваў вывучэньня прыроды, у нас няма царкоўна-археолёгічных камітэтаў і г. д. У нас ёсьць комплексныя організацыі краязнаўцаў, якія маюць мэтаю ўсебаковае вывучэньне данай краіны. Да таго дарэволюцыйныя краязнаўчыя організацыі былі пераважна організацыямі беларусазнаўчымі, у той час як пасьлярэволюцыйныя зьяўляюцца выключна організацыямі краязнаўчымі, якія вывучаюць ня ўсю краіну, а кожны асобны край.

Нашы краязнаўчыя організацыі імкнуцца да концэнтраваньня ўвагі сваіх колектываў на ўсебаковым дасьледваньні краю, а не на тых пытаньнях, якія падабаюцца тым ці іншым аматарам. Праўда, наша краязнаўства, як і дарэволюцыйнае, цалкам дабраахвотнае: кожны выбірае тое, што яму падабаецца, але кожны ведае, што выконвае толькі частку вялікай усебаковай працы, усебаковага вывучэньня краю, а ня імкнецца выплысьці наверх, як дарэволюцыйная інтэлігенцыя, вывучаючы археолёгію, іконапіс і д. т. п. Індывідуальнасьці дарэволюцыйнага краязнаўства процістаўлена колектыўнасьць пасьлярэволюцыйнага.

У той час як у некаторых іншых губэрнях б. Расіі краязнаўства было ў значнай меры тэорэтычным, на Беларусі краязнаўства было цалкам практычным. Менскі царкоўна-археолёгічны камітэт імкнуўся сваёй дзейнасьцю паказаць мясцоваму насельніцтву, чым яно было ў асобе сваіх продкаў у мінулыя часы, якія гістарычныя і рэлігійныя фазы перажывала на працягу сваёй шматвяковай гісторыі і адсюль — *чым яно павінна быць у цяперашні час.* Такім чынам задача цалкам практычная як з боку расійскага краязнаўства на Беларусі, якое імкнулася падняволіць Беларусь пад рускіх дваран, так, праўда ў іншых формулёўках, і з боку польскага краязнаўства, якое хацела падняволіць Беларусь пад уладу польскага пана.

Наша краязнаўства таксама практычнае, але мае задачай вывучэньне краю для перабудовы яго на карысьць працоўных, якія яго насяляюць. Калі паўночна-заходняе аддзяленьне імпэратарскага рускага географічнага таварыства лічыла, што трэба падкрэсьліваць няправільнасьць польскіх поглядаў на гэты край, як на край польскі, ці па меншай меры, як ня рускі край (г. зн. беларускі), дык нашы краязнаўчыя організацыі ня імкнуцца ні русіфікаваць, ні полёнізаваць ні наогул асыміляваць, а зьяўляюцца вольнымі організацыямі, у якіх знаходзяць працу ўсе нацыянальныя меншасьці Беларусі, пачынаючы ад палякаў, яўрэяў, латышоў і нават татар, якія ў апошні час вывучаюцца ў Менску, і вывучаюцца людзьмі ня чужымі данай нацыянальнасьці, а самымі татарскімі працаўнікамі. Гэта надзвычайна важна, каб кожны об'ект краязнаўчага руху быў і суб'ектам яго.

Далей, некаторыя дарэволюцыйныя організацыі, напр., Беларускае вольна-экономічнае таварыства, што, як давялі досьледы тав. Васілеўскага, выконвала часамі і краязнаўчую працу, у статуце сваім мелі

пункт, які забараняў прымаць членамі ў гэтае таварыства не дваран. Такім чынам, дарэволюцыйнае краязнаўства было ня толькі клясавым, але нават часамі і саслоўным. Наша пасьлярэволюцыйнае краязнаўства таксама клясавае: статуты нашых краязнаўчых організацый гавораць, што ў іх ня могуць быць абраны асобы, пазбаўленыя выбарчага права. Гэтая ўласьцівасьць ясна вымагаецца тым, што нашы організацыі павінны працаваць на карысьць працоўнага насельніцтва данага краю, а не для эксплёатаваньня яго.

Пры дабраахвотнасьці дарэволюцыйнага краязнаўства яно грунтавалася на зацікаўленасьці вузкага кола аматараў. Наша пасьлярэволюцыйнае краязнаўства концэнтруе зацікаўленасьць краязнаўцаў не на асобных галінах, якія любяць асобныя краязнаўцы, а на цікавасьці нашага краю, як об'екту соцыялістычнага будаўніцтва.

Дарэволюцыйнае краязнаўства імкнулася знайсьці для свайго вывучэньня наогул найбольш рэдкае нябывалае, нячуванае. Менскі археолёгічны камітэт доўга траціў час і сродкі (і меў дапамогу акадэміі) на раскопкі саркафагу ў Тураве. Наша-ж краязнаўства концэнтруе сваю ўвагу на ўсім звычайным, на тым, што можна сустрэць на кожным кроку, на самым звычайным жыцьці, якое трэба перабудаваць. Ня трэба спыняцца на іншых уласьцівасьцях пасьлярэволюцыйнага краязнаўства, каб паказаць, што яго задачы і ўласьцівасьці цалкам процілеглы задачам дарэволюцыйнага краязнаўства. Але гэта зьменнасьць краязнаўчых задач ня толькі абмяжоўваецца гэтым часам, яна заўважваецца штодзень і штočас.

Пры азначаных уласьцівасьцях беларускага краязнаўчага руху галоўнымі і першачарговымі задачамі пачатку яго разьвіцьця было організацыйнае афармленьне і ўмацаваньне краязнаўчых організацый. На працягу 2 апошніх год беларускі краязнаўчы рух вырас і ўмацаваўся організацыйна. Вызначаныя папярэднімі ўсебеларускімі зьездамі організацыйныя задачы ў галіне ўласна організацыйнай, навукова-дасьледчай і мэтодычна-кіраўнічай у асноўным выкананы. Перад краязнаўчым рухам на Беларусі стаяць новыя задачы, асяродак якіх складаецца з ліквідаваньня краязнаўчай няпісьменнасьці і мэтодычнай падрыхтоўкі краязнаўцаў.

У апошні час усе нашы дасягненьні, пачыняючы ад самых вышэйшых тэхнічных вынайдзеньняў і канчаючы ліквідацыяй звычайнай пяпісьменнасьці, шмат хто лічыць культурнай рэволюцыяй. І запраўды — кожнае наша дасягненьне за апошні час складае чтстку культурнай рэволюцыі. Але нам здаецца, што концэнтрацыя ўвагі на ліквідацыі няпісьменнасьці павінна быць угрунтавана як першачарговая і няўхільная прадпасылка самой культурнай рэволюцыі. „Раней увесь чалавечы розум, увесь яго гэні тварыў толькі дзеля таго, каб даць аднаму ўсё дабро тэхнікі і культуры, а другога пазбавіць самага неабходнага–асьветы і разьвіцьця. Цяпер-жа ўсе цуды тэхнікі, усе заваёвы культуры стануць агульнанародным здабыткам“ — сказаў Ленін. Ня толькі тэхнічная пісьменнасьць, ня толькі ўменьне расьпісацца, ня толькі ўменьне прачытаць газэту, але і асалода творчасьці, асалода дасьледваньня жыцьця, вялікае культурнае задаваленьне ў хацяб элементарным вывучэньні краю павінна быць здабыткам усіх працоўных Беларусі.

Такім чынам, у нашых умовах галоўнай уласьцівасьцю культурнай рэволюцыі, па маёй думцы, зьяўляецца беларускі краязнаўчы рух. У краіне, дзе ня было ня толькі ніводнай краязнаўчай інстытуцыі да Кастрычнікавай рэволюцыі, дзе ня было нават ніводнай урадавай

беларускай народнай школы, — зараз мы маем дзесяткі тысяч краяведаў, з якіх 2300 чалавек зрабілі якую-небудзь працу, акрамя выплаты членскіх складак. Гэта ў нашых умовах зьяўляецца вялікім дасягненьнем і адным з галоўных дасягненьняў культурнай рэволюцыі, на пашырэньне якога павінны зьвярнуць самую вялікую ўвагу як мясцовыя культурнікі, так і ўсе ўстановы.

Але нават само павялічэньне радоў краязнаўцаў людзьмі несьвядомымі ў краязнаўчым стасунку нічога ня дасьць. Нам патрэбна такое павялічэньне за кошт людзей, якія могуць быць краязнаўцамі на справе. Наш другі ўсебеларускі краязнаўчы зьезд адзначыў, што „слабая папулярызаванасьць краязнаўства сярод шырокіх мас працоўных цягне за сабою і слабое ўцягваньне іх у дзейнасьць краязнаўчай сеткі". Там, дзе ня ведаюць, што такое краязнаўства, для чаго яно патрэбна, ці трэба ім цікавіцца, — там ня можа быць нормальнага павялічэньня ліку краязнаўчых організацый. Таму гэты зьезд пастанавіў усім краязнаўчым організацыям узмацніць популярызаваньне краязнаўства з тым, каб ідэю краязнаўства прасунуць у шырокія гуршчы працоўных мас з мэтай уцягненьня іх усправу па непасрэдным вывучэньні і дасьледваньні краю. Гэта правільная пастанова II ўсебеларускага краязнаўчага зьезду выконвалася ў нас пакуль што ў малой меры. Лік сяброў краязнаўчай сеткі павялічваўся не заўсёды з шэрагаў людзей, якія ўсьвядомілі задачы краязнаўчага руху. Але нават сама чыннасьць краязнаўчых організацый, дзе яна адбывалася ў атмосфэры краязнаўчай несьвядомасьці і неразуменьня важнасьці краязнаўчай працы не магла разгарнуцца да гэтага часу і ня можа разгортвацца наогул. На зьезьдзе гаварылі, што ў некаторых мясцох людзі — філёзофы задумваюцца над тым ці краязнаўства ёсьць грамадзкая справа. Спрабуйце ўявіць сабе: краязнаўства, якое складае аснову культурнай рэволюцыі, лічыцца справай неграмадзкай! Да такой філёзофіі маглі дайсьці толькі ў самых блізкіх да сталіцы раёнах; у далёкіх раёнах, зразумела, да гэтага трудна дадумацца. І вось гэта краязнаўчая несьвядомасьць рабіла вельмі шкодны ўплыў на мясцовую краязнаўчую працу.

Возьмем справаздачы краязнаўчых організацый. З Сьмілавіч пішуць, што адносіны да краязнаўчай справы няўважлівыя; чакаюць бач, загаду ад начальства. На кожны ўсім вядомы крок загаду не дачакаешся, умовы для працы ня створаны і краязнаўчая організацыя не змагла сябе выявіць.

Другі прыклад з Гарадку Віцебскай акругі. Політычнае значэньне яго надзвычайна вялікае. Селянін знайшоў кавалак руды. Ён чуў, што гэтым цікавяцца краязнаўцы і таму ён бярэ руду, піша ліст у раённы выканаўчы камітэт і просіць: „зьвярнеце на сябе ўвагу" (хацеў напісаць на маю працу, але памыліўся і напісаў „на сябе"). Ён ня ведаў да каго зьвярнуцца, акрамя райвыканкому, і таму напісаў туды ліст. У лісьце ён пісаў, што, калі гэтая руда цікавая, дык ён можа яшчэ прыслаць узораў яе. Райвынканком не пажадаў „зьвярнуць на сябе ўвагу" і гэтая папера без адказу ляжыць два гады. Трэці прыклад з Асіпавіч. Адзін краязнаўца піша, што няма ніводнай установы, якая цікавілася-б краязнаўствам. Таму і краязнаўчай організацыі там няма. Ёсьць толькі тав. Немцаў, які выконвае вялікую работу. Чацьверты прыклад з Менску: тав. Ляўчук на адчыненым пасяджэньні ячэйкі КП(б)Б працаўнікоў асьветы расказаў, што калі ён зьвярнуўся да старшыні менскага АВК па справах краязнаўства, дык старшыня яму адказаў: „пакіньце мяне, у мяне ёсьць шмат важных спраў, а ня гэтая дрэбядзень".

і менская організацыя, як вядома, сваёй дзейнасьці яшчэ ня здолела паказаць. Можна-б яшчэ прывесьці шэраг прыкладаў, дзе няпісьменнасьць у краязнаўчай справе зьяўлялася перашкодай для разьвіцьця гэтага руху. Але я падам яшчэ толькі адзін прыклад крымінальнай несьвядомасьці. У „Зьвязьдзе“ за № 255 3-XI-28 г. была зьмешчана тэлеграма такога зьместу: „Барбар-асвётнік. Бабруйск. У Гарадзецкай сямігодцы, Рагачэўскага раёну, яшчэ два гады таму назад існаваў краязнаўчы школьны музэй. Ён займаў у школе невялікі асобны пакой і добра адбіваў быт мясцовага насельніцтва. У ім можна было знайсьці выдатныя модэлі ўсіх бяз выключэньня рэчаў, якія ўжывае сялянства ў сваёй рабоце, удалыя модэлі будынкаў і г. д. Але прыехаў новы загадчык Паўлаў. Замест таго, каб яшчэ больш разгарнуць краязнаўчую працу ён зьнішчыў музэй, папаліўшы ўсе музэйныя экспонаты ў печы і цяпер замест музэю засталося пустое месца. Краязнаўчая праца зусім спынілася, а ад папярэдняй працы іншых таксама няма і сьледу. Адпаведным організацыям неабходна зьвярнуць увагу на гэтага самадура і барбара. Асьветнік“[1]). Толькі што я атрымаў запіску з паведамленьнем, што Амсьціслаўскія „асьветнікі“ зьнішчылі тамашні краязнаўчы музэй. Такім чынам краязнаўчая няпісьменнасьць зьяўляецца ня толькі перашкодай, а нават шкоднікам краязнаўчай працы на мясцох.

Але ліквідаваньне краязнаўчай няпісьменнасьці ўсіх членаў профэсыянальных саюзаў, моладзі і наогул самых шырокіх колаў насяленьня БССР вымагаецца ня толькі як галоўны сродак пашырэньня краязнаўчага руху ў запраўды масавы рух і ня толькі як самая важная ўмова пасьпяховай чыннасьці мясцовых краязнаўчых організацый, але і як адна з найгалоўных умоў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва наогул. Я гавару — гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, абапіраючыся на аўторытэт У. І. Леніна, які сказаў, што толькі на падставе дэталёвага веданьня самых малых куткоў краіны магчыма правільнае організаваньне вытворчасьці і працы, пастаноўка школьнай і пазашкольнай асьветы, аховы здароўя і соцыяльнага забясьпечаньня і ўсіх пытаньняў новага быту. Калі апірацца на аўторытэты, дык можна прывесьці яшчэ адну цытату з Энгельса, якая сьведчыць аб тым што будаваць новае жыцьцё немагчыма без папярэдніх ведаў, як грамады, так і прыроды: „Грамадзкія сілы, падобна сілам прыроды, дзейнічаюць сьлепа, нагла, разбураюча, пакуль мы не разумеем і ня лічымся з імі, але раз мы ўведалі іх, вывучылі іх дзейнічаньне,—ад нассаміх залежыць падпарадкаваць іх нашай волі і праз гэта дасягнуць нашай мэты“.

Якія конкрэтныя шляхі ў справе ліквідаваньня краязнаўчай няпісьменнасьці? Гэта павінна адбывацца ў двох напрамках: папершае набываньнем ведаў і навыкаў з галіны гісторыі і тэорыі краязнаўства і падругое набываньнем ужо вядомых ведаў аб сваім краі. Мы павінны дабіцца, каб у Рагачэўскім раёне, напр., усе працаўнікі ведалі свой раён, яго гістарычнае мінулае, узаемаадносіны пластоў насельніцтва да Кастрычніка і цяпер, яго культурныя заваёвы, яго музэй і г. д. У першую чаргу трэба ведаць усё, што ўжо здабыта краязнаўствам аб даным краі, а пасьля можна гаварыць і аб набываньні ведаў з галіны мэтодыкі дасьледваньня краю.

Найбольш даступным відам ліквідаваньня краязнаўчай няпісьменнасьці зьяўляюцца даклады, лекцыі і цыклі лекцый у школах, хатахчытальнях і клюбах, на сходах сялян, партыйных і іншых грамадзкіх

[1]) За гэта Паўлаў ужо зволены. *Рэд.*

організацый, на конфэрэнцыях, зьездах і г. д., краязнаўчыя вечарыны, а таксама экскурсіі адпаведнага характару і ўхілу. На значэньне гэтых лекцый была зьвернута ўвага мясцовых краязнаўцаў яшчэ першым усебеларускім краязнаўчым зьездам[1]). Быць можа, асобныя бюро і ня варта ствараць у сёньнешні дзень у кожнай організацыі, але гэтую пастанову першага ўсебеларускага зьезду трэба праводзіць у жыцьцё да таго часу, пакуль насельніцтва раёну ня будзе ведаць сваіх задач у краязнаўчай справе. Тут трэба скарыстаць розныя аднадзённыя конфэрэнцыі. Мы ведаем вельмі добрую практыку Полацкага акруговага таварыства краязнаўства, якое даволі часта склікае агульнагарадзкія школьныя краязнаўчыя конфэрэнцыі. Мы ведаем такія конфэрэнцыі і ў Менскай акрузе. На гэтых конфэрэнцыях вучні ня столькі падрыхтоўваюцца да непасрэднай краязнаўчай працы, колькі зьнішчаюць сваю краязнаўчую няпісьменнасьць. Такія конфэрэнцыі варта практыкаваць у кожным месцы, пашыраючы іх склад да піонэрорганізацый і комсамольскіх організацый. Яны зьявяцца галоўным сродкам зьнішчэньня краязнаўчай няпісьменнасьці сярод нашай моладзі, а моладзь, трэба сказаць праўду, да гэтага часу складала і сёньня складае самы галоўны кадр краязнаўцаў. Разам з тым, трэба будзе, каб пры Цэнтральным камітэце ЛКСМБ былі організаваны адпаведныя курсы для падрыхтоўкі краязнаўцаў-організатараў сярод моладзі. Побач з гэтым неабходна сталая праца ў гэтай галіне мясцовага друку.

У справе ліквідаваньня краязнаўчай няпісьменнасьці газэты павінны прыняць актыўны ўдзел. „Газэты ня толькі колектыўныя пропагандыстыя і колектыўныя агітатары, але таксама і колектыўныя організатары",—казаў Ленін. „Трэба ўзмацніць увагу партыйных організацый да краязнаўства",—пастанавіў адзін з пленумаў ЦККП(б)Б. А наш друк не зьвяртае ўвагі на краязнаўства. Ён ня толькі мала ўважае за сур'ёзную справу мэтодыку краязнаўства, але мала ўважае і на задачы зьмяшчэньня артыкулаў і інш. матар'ялаў ужо вядомых аб даным краі: аб мясцовых балотах, аб колектыўных формах гаспадаркі, аб сур'ёзным вывучэньні коопэрацыі і г. д. Усё, што можа быць вынікам працы краязнаўства, у кароткіх рысах можа знайсьці і павінна знайсьці адлюстраваньне на старонках нашага мясцовага і цэнтральнага друку. Да гэтага часу мы гэтага ня ведаем, за выключэньнем рэдкіх выпадкаў газэты „Савецкая Беларусь", якая часамі ідзе насустрэч.

Другою важнаю задачаю зьяўляецца падрыхтоўка краязнаўцаў. Не выключаючы і ў гэтым кірунку патрэбы азнаямленьня з ведамі,

---

[1]) „1. У мэтах пашырэньня краязнаўчых ведаў сярод шырокіх мас трэба зьвярнуць увагу на разьвіцьцё лектарска-экскурсыйнай працы краязнаўчых організацый. Кожная краязнаўчая організацыя павінна вылучыць з сябе лектарска-экскурсыйнае бюро, у склад якога запрашаюцца прадстаўнікі ад райкомпартаў, культаддзелу РВК і мясцкомаў. 2. Лектарска-экскурсыйныя быро павінны распрацаваць пляны сваёй працы ў сельсаветах, прадпрыемствах, чырвонаармейскіх частках, клюбах і г. д. і ўвязаць працу, якую вядуць у гэтым кірунку працаўнікі Саюзу Працасьветы, Працзямлесу, Мэдсанпрацы і інш., 3. Лектарская дзейнасьць павінна асьвятляць пытаньні прыроды, гісторыі і гаспадаркі краю, бытавыя асаблівасьці насельнікаў, пэрспэктывы разьвіцьця сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, пэрспэктывы грамадзкай працы і іншыя пытаньні мясцовага значэньня. 4. Пры лекцыях і экскурсіях павінны быць выкарыстаны мясцовыя музэйныя матар'ялы. 5. ЦБК даручаецца выдаць дыяпозытывы па краязнаўстве, якія маглі-б быць выкарыстаны лектарскімі сіламі краязнаўчых організацый, і пашырыць іх сярод мясцовых організацый. 6. Краязнаўчыя організацыі павінны організоўваць экскурсіі па сваім раёне з мэтамі азнаямленьня з вынікамі краязнаўчай працы, з помнікамі прыроды, з гаспадарчымі дасягненьнямі і прыкладамі архаічных форм гаспадаркі, з прамысловасьцю і з хатнімі вырабамі".

ужо вядомымі аб даным краі, тут на першы плян высоўваецца дакладнае вывучэньне тэорыі і гісторыі краязнаўства з ухілам у спэцыялізаваньне, каб кожны краявед дасканала ведаў што і як ён будзе вывучаць. Калі ён будзе сёньня вывучаць фабрыкі, заўтра—расьліны, а пасьлязаўтра—мясцовую літаратуру, дык яго вывучэньне ня дасьць творчай асалоды яму і творчых вынікаў для нашай культуры і нашага будаўніцтва. Трэба, каб ён спэцыялізаваўся хаця-б на такіх разьдзелах, як культурна-гістарычнае, прырода-географічнае дасьледваньне і г. д., а пасьля перад ім паўстануць задачы яшчэ больш вузкай спэцыялізацыі.

Першае месца ў справе падрыхтоўкі краязнаўцаў павінна займаць увядзеньне курсу краязнаўства ва ўсе вышэйшыя школы і тыя тэхнікумы, у якіх ён яшчэ ня ўведзены, а таксама ўмацаваньне выкладаньня яго ва ўсіх гэтых школах. Калі курс краязнаўства быў Навукова-мэтодолёгічным камітэтам НКА ўключаны ў навучальныя пляны ўсіх гэтых школ, дык мы ня лічылі, што ўсе іншыя дысцыпліны ад гэтага перастануць быць краязнаўчымі. Тэхнікум пэдагогічны ў першую чаргу рыхтуе пэдагогаў, коопэрацыйны—коопэратараў, аграномічны—аграномаў і г. д. Але ён ня можа падрыхтаваць добрага пэдагога, коопэратара і агранома, калі, напрыклад, будзе навучаць батаніцы толькі на афрыканскіх расьлінах, глебазнаўству—на канадзкіх глебах або пачынаючы ад іх і г. д. Нават пэдагогіка і матэматыка павінны знаёміць з мясцовай народнай пэдагогікай, з мясцовымі спосабамі лічэньня і д. т. п. Інакш гэтыя тэхнікумы не падрыхтуюць тое, што павінны падрыхтаваць. Значыць, усе дысцыпліны павінны быць прасякнуты краязнаўчымі матар'яламі, але разам з гэтым ва ўсіх тэхнікумах і ва ўсіх вышэйшых школах павінен выкладацца курс мэтодыкі краязнаўства.

Гэты курс краязнаўства мае наступныя задачы: у першую чаргу ён мае мэтаю падрыхтаваць настаўніка, які на справе зможа ажыцьцяўляць програму нашых школ, пабудаваную на падставах прапрацоўкі мясцовых матар'ялаў. Гэта значыць, што сам настаўнік будзе ўмець дасьледваць край, бо гатовых вынікаў досьледаў яшчэ няма і ён будзе мець гэтыя вынікі ад уласнай працы і на іх падставе зможа організаваць працу першай, другой і трэцяй групы свае школы. Калі настаўнік будзе сьвядомы ў мэтодах вывучэньня краю—яго вучні ня будуць бегаць за сяло для таго, каб убачыць камень, які можна прынесьці ў школу, ня будуць бегаць у сельсавет і перашкаджаць працы сакратара, патрабуючы даведкі колькі ў сельсавеце мужчын і жанчын і г. д. Словам, дзеці ня будуць займацца саматужнымі спосабамі, якія можа адносяцца да эпохі раней Скарыны, а будуць займацца запраўднай краязнаўчай справай і адукацыяй на аснове краязнаўчага матар'ялу. Падругое, гэты курс краязнаўства павінен падрыхтаваць грамадзкага працаўніка. Напрыклад, настаўнік можа быць і старшынёй мясцкому, але калі ён гаворыць, што краязнаўчая праца—не грамадзкая праца, дык ён яшчэ не грамадзкі працаўнік. Такім чынам курс краязнаўства павінен падрыхтаваць пэдагогаў, аграномаў, фэльчароў, дактароў, і г. д., якія здолелі-б організаваць працу краязнаўчага гуртка, організаваць краязнаўчыя выстаўкі, музэі і г. д. і здолелі-б наогул кіраваць мясцовай краязнаўчай працай. Мала гэтага. Кожны наш спэцыялісты, тэхнік, пэдагог, агранparam і г. д. павінен умець зьбіраць усе матар'ялы наогул, якія могуць запатрабавацца для ўсебаковага вывучэньня краю і разам з тым, умець апрацоўваць матар'ялы з галіны свае

спэцыяльнасьці. Зьбіраючы матар'ялы, ён павінен умець апрацоўваць іх: калі ён доктар, дык з галіны мэдыцынска-санітарнай; калі аграном—з боку дзейнасьці агранома і г. д. Зразумела, аднэй з задач курсу краязнаўства зьяўляецца падрыхтоўка тэхнікаў розных спэцыяльнасьцяй, якія маглі-б арганізаваць і пропагандаваць ахову помнікаў культуры і прыроды. Наогул, у нашых тэхнікумах і вышэйшых школах павінна рыхтавацца краязнаўчая зьмена, высокакваліфікаваныя працаўнікі-краязнаўцы, якія маглі-б выконваць глыбокія мясцовыя краязнаўчыя досьледы. Дзякуючы гэтаму нашы тэхнікумы і вышэйшыя школы пры прапрацоўцы курсу краязнаўства павінны асаблівую ўвагу зьвярнуць на мэтодолёгічную частку, на краязнаўчае крыніцазнаўства: бібліографію, статыстыку справаздачы, кругабегавы друк і г. д., а таксама на мэтоды краязнаўчай працы. На жаль, у нашых тэхнікумах, у якіх вучацца студэнты з усіх бакоў БССР немагчыма даць хоць-бы невялікі курс аб кожным краі. Калі-б нашы тэхнікумы былі раёнаванымі, то напр., Мазырскі тэхнікум мог-бы пазнаёміць сваіх студэнтаў з комплексам вядомых ведаў пра Мазыршчыну.

Наша програма курсу краязнаўства складаецца з агульнай часткі, якая вырашае пытаньні агульнай мэтодыкі краязнаўства, з часткі, якая высьвятляе краязнаўства як грамадзкі рух і трэцяй часткі, што складаецца з спэцыяльнай мэтодыкі ўсебаковага вывучэньня раёну. Але, як сказана вышэй, кожны працаўнік павінен умець апрацоўваць краязнаўчы матар'ял па сваёй спэцыяльнасьці. Таму для кожнага тэхнікуму дадзедна яшчэ практычная частка програмы, якая складаецца з пытаньняў адпаведных для данага тэхнікуму: адна практычная частка для пэдагогічных школ, другая — для сельска-гаспадарчых, трэцяя — для мэдычных чацьвертая—для індустрыяльных і г. д.

Але, зразумела, гэтыя, такім чынам падрыхтаваныя кадры краязнаўцаў, прыдуць яшчэ ня хутка. Таму Цэнтральнае бюро краязнаўства і мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны з свайго боку паклапаціцца аб падрыхтоўцы новых краязнаўцаў, а таксама павышэньні кваліфікацыі нашых краязнаўцаў-самавукаў.

Надышоў час організацыі доўгатэрміновых курсаў краязнаўства, якія-б далі добра падрыхтаваных выкладчыкаў курсу краязнаўства для тэхнікумаў, краязнаўцаў-організатараў, практыкаў, музэябудаўнічых і архівістых. Можа ўзьнікне супярэчнасьць, што на адну гадзіну выкладаньня курсу краязнаўства ня варта адчыняць курсы па падрыхтоўцы спэцыялістых-краязнаўцаў. Мы глядзім ня так. Летась скончылі працу курсы грамадазнаўства, якія падрыхтавалі працаўнікоў для належнага выкладаньня, у той час як на грамадазнаўства дадзена таксама не асабліва шмат акадэмічных гадзін. Калі нашы працаўнікі зараз выкладаюць толькі адну гадзіну, дык яны, каб жыць, яшчэ штонебудзь робяць. І разумела, што пасьля сканчэньня курсаў яны змогуць лепш працаваць у тых галінах, у якіх працуюць, і зусім добра выкладаць курс краязнаўства. Акрамя таго, ні для каго не сакрэт, што нашы дзяржаўныя і краязнаўчыя музэі ня маюць падрыхтаваных спэцыялістых музэязнаўцаў, а асабліва музэязнаўцаў краязнаўча-думаючых. Разам з тым вядома, што наша архіўная справа ня мае добрых архівістых. Зразумела, гэтыя вышэйшыя курсы краязнаўства могуць і павінны даць падрыхтаваных працаўнікоў краязнаўцаў, якія маглі-б працаваць ва ўсіх гэтых галінах. Вядомы артыкул „Савецкай Беларусі", які расказвае аб адным працаўніку Гомельскага музэю, што ён ні ў якай меры не зьяўляецца падрыхтаваным для правядзеньня

экскурсій, але дзякуючы таму, што ён у музэі і яго няма кім падмяніць—ён кіруе экскурсіямі і расказвае ўсялякае глупства пра экспонаты. Такім чынам для курсаў ёсьць пэўная патрэба і пэўная глеба. Цэнтральнае бюро краязнаўства павінна паставіць задачу організаваньня курсаў перад НКА і дамагчыся адчыненьня іх не пазьней восені 1929 году.

Але акрамя курсаў, самым галоўным відам працы па падрыхтоўцы краязнаўцаў павінна быць організаваньне мэтодычна-краязнаўчых студый у больш моцных краязнаўчых організацыях, а таксама пры Цэнтральным бюро краязнаўства, якія былі вызначаны яшчэ другім усебеларускім краязнаўчым зьездам, але нідзе не практыкаваліся. Курсы краязнаўства, організаваныя Цэнтральным бюро краязнаўства разам з Таварыствам краязнаўства пры Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, зьяўляліся курсамі па ліквідацыі краязнаўчай няпісьменнасьці, а ня курсамі падрыхтоўкі краязнаўцаў. Студыя можа мець прытулак пры таварыстве краязнаўства або ў музэі ў такіх цэнтрах, як Гомель, Віцебск, Менск, Магілеў, Бабруйск, Слуцак, Полацк і інш. Слухачамі будуць звычайныя краязнаўцы, пераважна з моладзі, а выкладчыкамі ў такіх студыях могуць быць выкладчыкі нашых вышэйшых школ і працаўнікі Беларускай акадэміі навук, бо іх сходы і праўленьні ня раз дакляравалі, што іх профэсура будзе выяжджаць для лекцый на месцы. Мы павінны ўсе гэтыя дэклярацыі скарыстаць. Галоўнымі выкладчыкамі будуць, зразумела, мясцовыя краязнаўцы, найбольш падрыхтаваныя сярод усіх магчымых выкладчыкаў да гэтай справы, а таксама самі слухачы. Справа ў тым, што нераспрацаванасьць некаторых пытаньняў краязнаўства прымусіць аддаць перавагу сэмінарскай працы саміх слухачоў. Сродкі трэба будзе браць з дапамогі ад мясцовых установаў і організацый. Літаратура павінна быць рэкомэндавана Цэнтральным бюро краязнаўства, і выслана Беларускай дзяржаўнай бібліотэкай з спэцыяльна вылучанага для мясцовых краязнаўцаў фонду.

Якая можа быць програма для такой студыі? Програма павінна кіравацца на спэцыялізаваньне краязнаўцы ў пэўнай галіне дасьледваньня краю. Такой можа быць, напр., наступная програма этнолёгічнай студыі, укладзеная мной на аснове програмы Жукава і Максімава для адпаведных курсаў. Папершае, у програме павінны быць агульныя дысцыпліны: а) геолёгія і палеонтолёгія — апошнія кругабегі; б) антрополёгія і палеонтрополёгія; в) гісторыя культуры; г) народазнаўства; д) палеэтнолёгія; е) уводзіны ў гісторыю мастацтва; э) музэязнаўства; ё) ахова помнікаў; ж) мэтоды этнолёгічнага зьбіраньня і дасьледваньня; з) мэтоды палеэтнолёгічных досьледаў і раскопак. Акрамя агульных дысцыплін, павінны быць беларусазнаўчыя дысцыпліны, якія павінны ўвесьці ў курс дасягненьняў агульнабеларускай культуры. Да такіх я залічаю: і) антропогеографія; й) гісторыя быту; к) этнографія; л) археолёгія; м) народная вусная творчасьць (або народная музыка, выяўленчае мастацтва, звычаёвае права: гісторыя вераваньняў). Апрача ўсіх гэтых, неабходна ўключыць у програмы краязнаўчыя дысцыпліны; п) географію краю; р) гісторыю краю; с) этнографію краю. Адначасна павінна быць практычная праца; т) па геолёгіі і палеонтолёгіі; у) антрополёгіі; ф) па палеэтнолёгіі; х) па музэязнаўству; ц) бытавых старажытнасьцях нашых. Далей павінны ісьці палявыя дасьледчыя працы, г. зн. практычныя досьледы на мясцох. Урэшце робіцца праверачны курс па зьбіраньні і апрацоўцы этнографічных і палеэтнолёгічных ма-

тар‘ялаў. Калі прапрацаваць такую програму, дык можна мець падрыхтаваных краязнаўцаў, якія змогуць весьці самастойныя этнолёгічныя досьледы.

На трэцяй усерасійскай конфэрэнцыі па краязнаўству адзін з дакладчыкаў прапанаваў наступную прыкладную програму курсу музэязнаўства, якая можа быць годнай і для прапрацоўкі ў студыі: а) агляд літаратуры па музэязнаўству; б) гісторыя і разьвіцьцё музэяў; в) прызначэньне музэяў наогул; г) задачы мясцовых музэяў; д) выставачная частка (прынцыпы падбору экспонатаў; прыёмы экспозыцыі; ілюстрацыйны матар‘ял); е) прынцыпы пабудовы музэяў і падзелу на аддзелы; сыстэматычны і сынтэтычны прынцып; прынцыпы пабудовы паасобных спэцыяльных частак музэю; немясцовыя колекцыі ў мясцовым музэі; ж) дасьледчая праца музэяў (палявая дасьледчая праца; асноўны фонд, яго прызначэньне, хаваньне і скарыстаньне; дасьледчыя габінэты ў музэі; навуковая бібліотэка і архіў музэю); з) прыёмы падліку колекцый, абсталяваньня і матар‘ялаў; і) асьветная праца музэю (праца з наведвальнікамі; экскурсіі; лекцыі і гутаркі; выстаўкі; музэйны плякат); к) падлік працы музэю (дзеньнік, статыстыка, справаздачы і д. т. п.); л) пэрсональ музэю; м) сувязь музэю з навакольным; н) падрыхтоўка музэйных працаўнікоў; о) памяшканьне музэю; п) музэйная мэбля і монтыроўка экспонатаў; р) дапаможныя ўстановы (дзялянкі і куткі жывой прыроды пры музэях; „жывыя“ об‘екты музэю ў прыродзе і быце; обсэрваторыі і мэт. станцыі пры музэях; дасьледныя ўстановы, станцыі, дзялянкі; фотограф. і інш. ляборатрыі, майстэрні, каморы, канцэлярыі і д. т. п.); с) кіраваньне музэям (музэйныя рады і іх прызначэньне; цэнтральнае кіраўніцтва музеямі; інструктаж і інспэктура музэяў); т) міжмузэйная сувязь (узаемаадносіны музэяў паміж сабой; сувязь з цэнтральнымі музэемі; музэйныя конфэрэнцыі і нарады; агульна-музэйныя журналы); у) сродкі музэяў; ф) заканадаўства аб музэях; х) тыпы спэцыяльных мясцовых музэяў і асаблівасьці іх працы (школьныя музэі; музэі пры клюбах; вясковыя музэі; музэі па спэцыяльных мясцовых пытаньнях і г. д.).

Адначасна з організаваньнем падобных студый на мясцох і пры ЦБК, апошняе павінна праз часопіс „Наш Край“ зьмяшчэньнем адпаведных матар‘ялаў наладзіць кіраўніцтва самаадукацыяй па краязнаўству, а таксама заснаваць у часопісе аддзел консультацыі, адказаў краязнаўцам на розныя запытаньні і ліставаньня краязнаўцаў паміж сабой аб абмене матар‘яламі і д. т. п.

На ўсім працягу працы краязнаўца павінен перапісвацца з часопісам, які будзе даваць парады, потым праверыць працу і, быць можа, накіруе для пераапрацоўкі, але праца будзе напісана ўрэшце і краязнаўца навучыцца працаваць. Такім чынам „Наш Край“ будзе дапамагаць павышэньню кваліфікацыі краязнаўцаў пры выкананьні пэўнай тэматычнай працы. Апрача таго, у часопісе трэба організаваць аддзел адказаў на ўсялякія запітаньні краязнаўцаў. Да гэтага часу гэты аддзел не організаваны з тае прычыны, што, быць можа, знойдуцца некаторыя краязнаўцы, якія ня хочуць каб ім сказалі, што яны павінны зрабіць тое і тое. Для такіх краязнаўцаў можна організаваць адказы закрытымі лістамі. Але, напрыклад, краязнаўца пытае ці трэба дасьледваць тэхніку пляценьня лапцёў. Гэтае пытаньне цікавіць ня толькі нашых, але і іншакраёвых вучоных. І наш адказ, замест таго каб пасылаць закрытым лістом аднаму краязнаўцу, трэба надрукаваць у часопісе для ўсіх.

Нарэшце, трэба будзе заснаваць аддзел ліставаньня краязнаўцаў паміж сабой, ня гледзячы на тое, якое месца ён зойме ў часопісе. Але да організацыі гэтага аддзелу, я-б сказаў, трэба аднесьціся асьцярожна. Пры правільнай організацыі ён можа быць вельмі карысным. Напрыклад, краязнаўца зьбірае гэрбар і яму цікава атрымаць некаторыя расьліны з іншых месц у парадку абмену. Толькі шляхам адпаведнага лісту праз часопіс ён зможа апавясьціць аб сваім жаданьні іншым сталым краязнаўцам і знайсьці належны водгук. Прынамсі абмен значна дапамог Плюшчыку-Плюшчэўскаму сабраць свае выдатныя колекцыі з энтомолёгіі. Перадапошняе пытаньне аб тым, каб Цэнтральнае бюро краязнаўства паставіла перад Галоўнавукай пытаньне аб кароткатэрміновым і доўгатэрміновым прыкамандыраваньні краязнаўцаў да Беларускай акадэміі навук, Навуков-дасьледчага інстытуту, Дзяржаўнага музэю і інш. установ для павышэньня сваёй кваліфікацыі. Мы ведаем, што Галоўнавука мае ў гэтківх адносінах вялікія посьпехі. Дзесяткі людзей з Беларусі пасланы на Украіну, РСФСР, некаторыя атрымалі камандыроўкі за мяжу, дзеля таго, каб спэцыялізавацца і ёсьць весткі, што частка гэтых людзей скарыстала свае камандыроўкі, як спосаб выезду з Беларусі назаўсёды. Трэба дамагчыся, каб, папершае, Цэнтральнае бюро краязнаўства прымала ўдзел у вырашэньні пытаньня—каго камандыраваць з наяўных кандыдатаў. У гэтай справе ЦБК абавязкова павінна сказаць сваё слова каго варта пасылаць, каго не. Падругое, Цэнтральнае бюро краязнаўства павінна дабіцца, каб у ліку гэтых прыкамандыраваньняў быў значны процант мясцовых краязнаўцаў.

Нарэшце трэба, каб Дзяржаўная бібліотэка, якая даўно пачала гэтую працу і шмат гаварыла аб гэтым, скончыла адбіраньне адпаведнага фонду кніг, з якога апошнія павінны дармова высылацца мясцовым краязнаўцам у часовае карыстаньне. Згодна вестак загадчыка бібліотэкі гэтага можна дабіцца. Пэўныя сьпісы такіх кніг можна рассылаць мясцовым краязнаўцам або друкаваць на вокладцы часопісу. Такім чынам бібліотэка будзе абслугоўваць ня толькі сталіцу Беларусі, як гэта рабілі да рэволюцыі ўсе цэнтральныя бібліотэкі, але і ўсю Беларусь, наогул. Я лічу, што ня трэба баяцца, што адна ці дзьве кнігі прападуць: гэта бывае і на месцы ў дзяржаўных бібліотэках і падругое, наколькі вядома, у Беларусі такіх выпадкаў злоўжываньняў ня мелі.

Апошняе гэта тое, што Цэнтральнае бюро краязнаўства павінна выканаць сваю задачу ў справе выданьня мэтодычнай літаратуры. Да гэтага часу апрача „Нашага Краю“ ня выдана ніводнай кнігі[1]). Я бяру на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць, што калі Цэнтральнае бюро краязнаўства добра возьмецца за гэтую справу і калі Акадэмія навук выканае свае абяцаньні, дык грашовыя магчымасьці для выданьня мэтодычнай літаратуры знойдуцца ў больш чым выстарчальнай колькасьці. Уся справа толькі ў тым каб захацець наогул выканаць сваё абяцаньне і каб захацець выканаць задачу, якая пастаўлена першым і другім усебеларускімі зьездамі, якія адзначалі, што для краязнаўчай працы не хапае інструкцыйнага матар'ялу.

Разам з тым Цэнтральнае бюро краязнаўства павінна стаць навуковым цэнтрам у справе мэтодолёгіі краязнаўства; яно павінна быць ня

---

[1]) Пасьля конфэрэнцыі вышла з друку і прадаецца ва ўсіх кнігарнях Дзяржаўнага выдавецтва першая беларуская кніжка па краязнаўству пад назвай „Краязнаўства“. М. Касьпяровіча і „Краязнаўства. Зборнік программ“, вып. I. *Рэд.*

толькі ўстановай, якая падагульвае працу краяведаў, організуе яе і кіруе ёю, але, разам з тым, павінна выпрацоўваць мэтоды інтэнсыўных краязнаўчых досьледаў і мэтоды спрошчанай працы, даступныя шырокім масам насельніцтва. Гэтым Цэнтральнае бюро краязнаўства пяройдзе да аднэй надзвычайна важнай задачы — да абслугоўваньня мясцовага краязнаўства кіраваньнем палявымі досьледамі.

Гэтыя новыя задачы, настойліва высунутыя сучасным станам краязнаўчага руху, пад ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнай партыі будуць выкананы з такім посьпехам, як організацыйныя задачы ў мінулы кругабег.

---

**Д-р Ів. Цьвікевіч.**

# Мэдычна-санітарнае вывучэньне раёну.

Зрабіць мэдыка-краязнаўчае абсьледваньне раёну магчыма толькі на працягу некалькіх год працы. Вялізарная колькасьць об'ектаў вывучэньня, складанасьць і, самае галоўнае, навізна гэтае справы ўжо самі за сябе гавораць аб тым, што гэтую працу можна выканаць толькі колектыўным шляхам. Апроч таго, колектыў гэты павінен складацца ня толькі з працаўнікоў мэдычных. Тут павінны дапамагчы спэцыялістыя розных галін навукі — гісторыкі, этнографы, філёлёгі, прыродазнаўцы, экономісты, пэдагогі, інжынэры і інш. Мала таго, трэба каб існаваў пэўны організуючы цэнтр, які-б кіраваў гэтай складанай працай, распрацоўваў мэтодолёгію гэтага пытаньня, складаў дэталізаваныя схэмы вывучэньня, даваў аўторытэтную навуковую консультацыю ў процэсе працы, зьбіраў усе матар'ялы выкананых досьледаў і г. д. Здавалься-б нельга знайсьці ці стварыць такую організацыю, якая-б адпавядала ўсім гэтым вымаганьням. А між тым гэтая організацыя, колектыўная масавая грамадзкая організацыя, ёсьць. Гэта — наша краязнаўчая організацыя на чале з Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук.

На першы погляд можа каму і здасца, што справа мэдыка-санітарнага вывучэньня раёну не такая ўжо складаная і цяжкая. І запраўды: любы раённы доктар, каб пасьлаць справаздачу аб санітарным становішчы свайго раёну, піша яе на адным аркушы паперы і траціць на гэта мо' з гадзіну часу. У вышэйшых інстанцыях Нар. Кам. Аховы Здароўя чытаюць гэтую санітарную характарыстыку і бываюць надта здаволены, бо там апроч „літаратуры", ёсьць дакладныя статыстычныя даныя і наогул усё, што трэба па ведамсьцевай лініі.

У чым-жа справа? Пашто казаць аб складанасьці працы, аб некалькіх гадох яе, аб колектыве з розных спэцыялістых, калі адзін чалавек на адным аркушы паперы, за адну гадзіну і ў любы момант дае санітарную характарыстыку цэлага раёну.

А сутнасьць у тым, што гэтая характарыстыка варта толькі таго, каб яе падшыць у канцылярскія справаздачныя паперы. Яна мёртвая, формальная, як і ўсе канцэлярскія справаздачы. Там няма і атаму ад таго, што мы, краязнаўцы, лічым навуковым дасьледаваньнем мясцовага матар'ялу. Ад такой санітарнай характарыстыкі ня пахне навукай, бо там ня ўбачыце прычыннай сувязі паміж санітарна-гігіенічным станам раёну і яго прыроднымі ўмовамі, яго эканомікай, культурным станам насельніцтва. Там няма ні гістарычнай

пэрспэктывы, ні дынамікі насельніцтва, ні яго быту, ні запраўднага твару раёну, ні конкрэтных вывадаў аб магчымасьці палепшыць санітарнае яго становішча. Можна ўзяць сотню такіх справаздач з розных раёнаў і вам будзе здавацца, што ўсе яны напісаны з аднаго і таго самага.

Краязнаўча-санітарная характарыстыка раёну павінна быць такой, каб раён меў свой асаблівы санітарны твар, каб можна было акрэсьліць яго месца ў агульным санітарным малюнку акругі і рэспублікі. Краязнаўчае мэдыка-санітарнае апісаньне раёну мусіць быць нагэтулькі дэтальным і конкрэтным, каб яго, фігурна кажучы, можна было памацаць пальцамі. А галоўнае, каб яно было навуковым, абгрунтаваным на вывучэньні, на бясспрэчных матар'ялах і лічбах.

У чым-жа навізна працы па санітарным вывучэньні раёну? Папершае, у тым, што такім вывучэньнем Беларусі да гэтых часоў ніхто не займаўся і краязнаўча-мэдычнай літаратуры па гэтым пытаньні няма. Трэба пачынаць на чыстым месцы, пачынаць з укладаньня пляпаў і схэм дасьледваньня, з распрацоўкі мэтодолёгіі. гэтых досьледаў.

Навізна ў тым, што краязнаўча-мэдычная літаратура наогул бедная. Ці-ж ня дзіўным здаецца факт, што ў краязнаўчых часопісах, якія выдаюцца ўжо многа год, вы не адшукаеце аніводнага артыкула з мэдыка-санітарным зьместам?! Так у польскім замежным краязнаўчым часопісе „Ziemja", які выдаецца ўжо 22 гады, няма аніводнага артыкулу на мэдыка-краязнаўчую тэму. Пра санітарнае вывучэньне краю няма нічога і ў нашых савецкіх краязнаўчых часопісах, якія таксама існуюць па некалькі год: ні ў расійскай „Краеведение" (8 год), ні ў украінскай „Краезнавство" (3 гады), ні ў туркменістанскай „Туркменоведение" (3 гады). Толькі наш часопіс „Наш Край" зьмяшчаў і зьмяшчае матар'ялы мэдычна-краязнаўчага характару. Гэтым „Наш Край" закладае фундамант для разьвіцьця мэдычнай краязнаўчай літаратуры, без якой ня можа існаваць і само санітарнае вывучэньне краю.

Працу па мэдыка-краязнаўчым вывучэньні раёну трэба праводзіць двума шляхамі: 1) зьбіраньне, апрацоўка і скарыстаньне ўжо гатовых, сабраных папярэднімі дасьледчыкамі матар'ялаў, 2) непасрэднае, асабістае абсьледваньне раёну. Гэты другі шлях, бязумоўна, будзе пад сілу толькі колектыву дасьледчыкаў. Тут праца можа падзяляцца напрыклад, такім чынам, што адна частка колектыву вядзе абсьледваньне населеных пунктаў вясковага тыпу, другая — мястэчак, трэцяя — гарадоў. Або так, што адна частка дасьледчыкаў дае мэдыка-санітарную характарыстыку прыродных умоў цэлага раёну (санітарна-геаграфічны нарыс раёну — топографія, геолёгія, гідролёгія, клімат, флёра, фаўна, глеба і г. д.), другая частка дасьледчыкаў дае санітарна-экономічную характарыстыку раёну (абавязкова з паказаньнем прычыннай сувязі з санітарным станам насельніцтва), трэцяя — грамадзка-культурную характарыстыку насельніцтва і г. д.

Раён, як об'ект мэдыка-краязнаўчага вывучэньня, складаецца з трох элемэнтаў: а) паселішчаў вясковага тыпу (вёскі, хутары, засьценкі, савгасы), б) мястэчак і в) гарадоў.

Абсьледваньне і апісаньне паселішч вясковага тыпу можна рабіць паводле „Схэмы санітарна-бытавога дасьледваньня вёскі", уложанай д-рам З. Магілеўчыкам і д-рам Ів. Цьвікевічам (выданьне Інстытуту Беларускае Культуры). Гэтую „Схэму" можна скарыстаць цалкам, калі ідзе абсьледваньне вёскі старога тыпу. Для характарыстыкі новых

тыпаў сельскае гаспадаркі — колектыўнае і (комуна) савецкае — трэба дадаць у „Схэму“ новыя разьдзелы.

Колектыўная і савецкая сельская гаспадарка — гэта новыя, маладыя расткі соцыялістычнае сельскае гаспадаркі. Ім аддаецца шмат увагі з боку партыі, улады і савецкай грамадзкасьці. На іх нормальны рост, іх пашырэньне і посьпех ускладаюцца вялікія надзеі ў сэнсе соцыялістычнай перабудовы ўсяе нашае сялянскае гаспадаркі. З роскквітам гэтых гаспадарак будзе паляпшацца экономічнае становішча, як самай сялянск. гаспадаркі, так усяе дзяржавы. Колектыўная і савецкая гаспадарка на вёсцы павінны быць прыкладнымі, бездакорнымі ва ўсіх сэнсах, павінны вабіць і захапляць сялянскую грамадзкасьць. Зразумела, што і ў сэнсе мэдыка-санітарным гэтыя гаспадаркі мусяць быць узорамі для наўкольнага насельніцтва. Праз іх мы павінны праводзіць ідэі новага культурнага быту, ідэі санітарыі і гігіены.

Новай соцыялістычнай гаспадарцы трэба даць у „Схэме“ асобнае месца і праводзіць усебаковае мэдыка-санітарнае абсьледваньне іх з асаблівай увагай, асаблівай дакладнасьцю і даваць ацэнку з поўнай об‘ектыўнасьцю, грунтуючыся на правераных, абгрунтованых статыстычных даных. Падаючы санітарную характарыстыку колектыўнай і сав. гаспадарак (прырода, экономіка, культурна-грамадзкі і бытавы стан), трэба абавязкова адзначыць іх становішча ў мінулым, г. зн. чым яны зьяўляліся ў пачатку свайго існаваньня, як расьлі, якія прычыны спрыялі або перашкаджалі іх разьвіцьцю і г. д. Таксама абавязкова ўвесь час даваць параўнаўчыя санітарныя характарыстыкі бліжэйшых сялянскіх гаспадарак старога тыпу, каб высьветліць ці пашлі наперад новыя гаспадаркі ў мэдыка-санітарным сэнсе ці не.

Ёсьць вядома, што ў кол. гаспад. і ў сав. гаспад. ўмовы жыльлёвыя і вадазабясьпека з боку санітарнага пастаўлены дужа дрэнна і таму мэдыка-санітарны аналіз гэтых бакоў новых гаспадарак павінен быць найбольш падрабязным. У санітарным апісаньні трэба паказаць як забясьпечаны работнікі новай гаспадаркі мэдычнай дапамогай, ці ёсьць там элемэнты новага грамадзкага быту — як дзіцячыя ясьлі, дзіцячыя пляцоўкі, гурткі фізкультуры, санітарныя тройкі, санасьветная літаратура і г. д.

У вывадах трэба пералічыць усе мерапрыемствы па паляпшэньні мэдычна-санітарнага стану новай гаспадаркі, прычым мерапрыемствы мусяць быць конкрэтнымі, рэальнымі, каб іх можна было правесьці без вялікіх матар‘яльных страт пры дапамозе самадзейнасьці самога насельніцтва.

Мы знарок робім акцэнт на мэдыка-санітарным вывучэньні новай соцыялістычнай гаспадаркі, бо нам трэба дасканала ведаць што мы будуем на вёсцы. Нам важна, каб гэтае новае было новым ня ў голым значэньні гэтага слова, але новым і лепшым. Каб новая гаспадарка навучала сялянства ня толькі таму, як організоўваць сельскую гаспадарку, але і таму як організаваць новы быт, як змагацца за культуру наогул і за санітарную культуру ў прыватнасьці. Спэцыяльнымі досьледамі санітарнага стану колект. і савецк. гаспадарак мы павінны разварушыць грамадзкую думку і праканаць усіх, што і тым соцыялістычным гаспадаркам трэба даваць і дапамагаць ня толькі адсартаваным першагатунковым насеньнем, племенным быдлам, малатарнямі і трактарамі, але трэба даць туды кваліфікаваную мэдычную дапамогу, амбуляторыі, акушэрскія пункты, ясьлі, даць гігіенічныя ўмовы жыльля і быту вясковым рабочым і іх сем‘ям. Соцыялістычны сельска-гас-

падарчы асяродак мусіць быць культурным ва ўсіх сэнсах—тады ён будзе жыцьцяздольным і апраўдае ўсе нашы надзеі.

Дзеля таго, каб улажыць санітарную характарыстыку вясковых паселішч данага раёну, няма патрэбы вывучаць усе вёскі, засьценкі, хутары, савецк. гаспадаркі гэтага раёну. Даволі дасьледваць мэдыка-санітарны стан найбольш тыповых паселішч, якія яскрава адлюстроўваюць санітарны твар вёскі. Калі розныя куткі раёну па прыродна-геаграфічных, экономічных і культурных умовах моцна адрозьніваюцца паміж сабой, тады апроч агульнай санітарнай характарыстыкі трэба даць паасобнае апісаньне вёскі (засьценку, сав. гаспадаркі, колект. гаспадаркі)—найбольш экономічна адсталай, глухой, закінутай ад прамысловых і культурных цэнтраў, пастаўленай у найгоршыя ў даным раёне прыродныя ўмовы і г. д., а таксама апісаньне вёскі—з найлепшымі ў даным раёне прыроднымі, экономічнымі і культурнымі ўмовамі.

Скончыўшы вывучэньне і апрацоўку матар'ялаў першага элемэнта раёну, трэба, калі ёсьць магчымасьць, даць, хаця-б кароткую, параўнаўчую мэдыка-санітарную ацэнку аналёгічнага элемэнта ў іншых раёнах акругі і ўсяе рэспублікі. Такім чынам мы акрэсьлім пэўнае месца данага раёну ў санітарнай карце акругі або рэспублікі. Адзначым тут да рэчы, што ў „Схэме па абсьледваньні вёскі" няма ўказаньняў адносна зьбіраньня матар'ялаў для санітарна-бытавога кутка ў раённы краязнаўчы музэй.

У раённым краязнаўчым музэі павінны быць экспонаты, якія характарызуюць санітарны быт вёскі. Напрыклад, санітарныя ўмовы выхаваньня дзяцей можна паказаць экспонатамі рознага віду сысак—з каровінага вымя, з шматочкаў, у якія завінуты пажаваны хлеб або каша (сусла), экспонатам „бутэлечкі" для малака—з каровінага рогу, экспонатам калыскі, экспонатамі розных цацак і г. д.

Сюды можна дадаць экспонаты дзіцячай вопраткі ў розныя гады жыцьця, экспонат пасудзіны, у якой мыюць дзіцё (начоўкі), фотографічныя здымкі розных абставін жыцьця, пры якіх гадуюцца вясковыя дзеці.

Мэдыка-санітарнае вывучэньне другога элемэнту раёну—мястэчка можна рабіць таксама паводле „Схэмы санітарна-бытавога абсьледваньня вёскі", прычым скарыстаць „Програму вывучэньня мястэчка" Г. Аляксандрава („Наш Край" № 2 1928 г. Там-жа ў канцы нумару паданы сьпіс літаратуры пра беларускія мястэчкі).

Калі ў мястэчку ёсьць большы ці меншы лік рамесьнікаў або саматужныя прадпрыемствы, то тут на адно з першых месц выступае санітарнае абсьледваньне гэтых груп насельніцтва і гэтых прадпрыемстваў. Об'ектамі вывучэньня павінны быць:

1) *самі прадпрыемствы* ў сэнсе санітарна-гігіенічнай характарыстыкі—памяшканьне, двор, умовы працы рабочых, асобна жанчын і падлеткаў, мерапрыемствы па ахове працы, шкоднасьці тае ці іншае працы;

2) *рабочая сіла*—фізычны стан рабочых (асобна жанчын і падлеткаў), захворваемасьць і пастаноўка мэдычнай дапамогі, гігіенічныя і санітарныя ўмовы жыльля рабочых, санітарна-гігіенічная характарыстыка грамадзкага і сямейнага быту рабочых (фізычны і культурны адпачынак, харчаваньне, партыйная і грамадзкая нагрузка ў рабочых, алькоголізм, становішча жанчыны і дзяцей у рабочай сям'і). Усе гэтыя характарыстыкі павінны быць цесна ўвязаны з экономікай, абгрунто-

ваны статыстычнымі данымі. Тут трэба паказаць абароты прадпрыемства, чысты прыбытак яго, памер сродкаў, якія адлічаюцца на паляпшэньне быту рабочых, які від працы пераважае—ручны ці машынны, заработная плата рабочых розных кваліфікацый, бюджэт гэтых рабочых, якая частка бюджэту ідзе на культурныя патрэбы рабочай сям'і, культурны ўзровень рабочых і г. д.

З тае прычыны, што ў мястэчку ёсьць доктарскі пункт, дзе концэнтруюцца ўсе даныя мэдыка-санітарнага характару, па разьдзелу XII памянёнае „Схэмы" трэба зрабіць дасьледваньне больш падрабязнае, больш шырокае, абгрунтованае на лічбовых даных, скарыстаўшы для гэтага мясцовую мэдыцынскую сілу.

Мястэчка зьяўляецца месцам гандлю і кірмашоў для наўкольных вёсак. Як вядома, гандаль у крамах, асабліва спажывецкіх, а яшчэ болей гандаль на кірмашох—спрыяе пашырэньню розных хвароб, эпідэмій. Дзеля гэтага пры мэдыка-санітарным абсьледваньні мястэчка трэба пільную ўвагу зьвярнуць на санітарна-гігіенічныя ўмовы гандлю. Тут трэба даць санітарныя характарыстыкі прыватных коопэрацыйных крам, кірмашовых ятак і ручнога гандлю каля фурманак на рынку.

Трэцім і апошнім асноўным элемэнтам, які павінен падлягаць абсьледваньню пры мэдыка-санітарным вывучэньні раёну—будзе горад.

Санітарна-гігіенічная характарыстыка гораду павінна будзе складацца з аддзелаў географічнага, экономічнага і культурна-бытавога. Ĭ ўмовы прыродныя (геолёгія, клімат, гідролёгія, флёра), шляхі зносін, насельніцтва і яго быт, прамысловасьць і гандаль, дабрабыт гораду і гарадзкая гаспадарка цалкам—усё гэта трэба абсьледваць у санітарна-гігіенічным разрэзе.

Усюды пажадана адзначаць былы, дорэволюцыйны дабрабыт гораду і пасьлярэволюцыйныя дасягненьні ў галіне дабрабыту.

Асобнае месца ў вывучэньні павінна мець санітарна-гігіенічнае абсьледваньне новых (калі яны ёсьць) рабочых пасёлкаў і новых будынкаў з кватэрамі для рабочых. Характарыстыка гэтых об'ектаў дасьледваньня мусіць быць дэталізаванай і дужа дакладнай, каб паказаць грамадзкасьці як ідзе нашае пролетарскае будаўніцтва: адпавядаюць будынкі і кватэры для рабочых апошняму слову санітарнае тэхнікі ці мы будуемся пастарасьвецку, паўтараючы агідныя памылкі, а часам і тэндэнцыі старых дарэволюцыйных інжынэраў-архітэктараў.

Ня менш увагі і месца трэба аддаць санітарна-гігіенічнаму абсьледваньню фабрык і заводаў, якія ёсьць у горадзе. Калі прамысловае прадпрыемства вялікае, прыдзецца даваць санітарную характарыстыку па кожным цэху асобна, перш чымся зрабіць агульную ацэнку ўсяго прадпрыемства. Абсьледваньне рабочае сілы як у сэнсе ўмоў працы на прадпрыемстве, так і ў сэнсе жыльлёвых умоў рабочых трэба рабіць таксама па цэхавым прынцыпе, каб атрымаць больш дакладныя, навуковыя рэзультаты.

На падставе санітарных характарыстык паасобных элемэнтаў раёну—паселішч вясковага тыпу, мястэчак і гораду—можна ўжо даць агульны мэдыка-санітарны малюнак раёну, як цэлага. У гэтым падсумаваньні санітарных даных трэба дасканала выявіць прычынную залежнасьць мэдыка-санітарнага стану раёну з вытворчымі сіламі прыроды, з экономікай і культурным узроўнем насельніцтва гэтага раёну.

У вывадах трэба даць у конкрэтнай форме пералічэньне мясцовых і агульна-дзяржаўных (каштарысных) мерапрыемстваў, якія маглі-б палепшыць санітарна-бытавы стан вывучанага раёну.

Д. М. Васілеўскі.

# Поэма „Тарас на Парнасе“ ў краязнаўчым асьвятленьні.

Поэма „Тарас на Паранасе“ найбольш вядомы ў народзе мастацкі твор, ён пашыраўся пераказным і рукапісным способам. У 90-х гадох XIX стагодзьдзя гэта быў адзіны твор, які прарываў ланцугі панаваньня ў нас расійскае школы. Поэма пашыралася ў тысячах сьпіскаў сярод вучняў і будзіла пачуцьцё краёвасьці, сузнаньне нашых асаблівасьцяй у мове, быце. Праз школу поэма трапляла ў хату селяніна і цьвёрда там асядала.

У той час, калі расійскія шовіністыя пашыралі думку, што беларусы—няздольнае, выміраючае племя, што для яго актывізацыі неабходна памяшаць кроў беларуса і расійца шляхам колёнізацыі апошніх на Беларусь, поэма нейкай сваёй сонечнасьцю разганяла сумныя думкі мужыка, падтрымлівала веру ў народныя здольнасьці сярод мясцовай інтэлігенцыі.

Праслухаўшы „Тараса“, селянін думаў: няхай сабе сьмяюцца з мужыка паны, але наш просты палясоўшык заслужыў павагу „багоў“; якія там былі багі—хто іх ведае. Але нашы скокі—шануюць самі багі. Мы ня горш за людзей! Інтэлігенту беларусу падабалася лёгкасьць узьбіраньня Тараса на Парнас: калі розныя там пісакі „друг дружыцы выціскаюць кішкі, аж нехта з прамеж іх пішчыць“, ён „чуць ня чуць прабраўся“ і ўзьлез на гару, зайшоў у хату багоў. Ёсьць здольнасьці і сілы сярод сялянства!

Рос дабрабыт краіны, шырылася поэма ў друку. Першы раз поэма была надрукавана ў 1889 г., у 37 № газэты „Минский Листок“. Акадэмік Карскі зазначае, што мова гэтага выданьня ўзята „з гаворкі Віцебскае губэрні“. (Белорусы т. III, в 3. ст. 79. увага).

У 1890 годзе поэма была перадрукавана ў № 37 газэты „Смоленский Вестник“. У 1896 г. вышла паасобным выданьнем: „Тарас на Парнасе“. Віцебск, стр. 15. У гэтым-жа годзе М. В. Доўнар-Запольскі зьмясьціў у „Витебских Губернских Ведомостях“ артыкул „В. Дунин-Марцынкевич и его поэма „Тарас на Парнасе“. Цікавасьць да поэмы асабліва праявілася ў Віцебску. У гэтым-жа 1896 г. Е. Радзіміч (Раманаў) перадрукаваў поэму ў зборніку „Из міра русских народных преданий. Милостивый Осип, или милости хочу а не жертвы“. У 1898 г. поэма „Тарас на Парнасе“ вышла ў Віцебску другім, а 1910 г. — трэцім выданьнем пад рэдакцыяй А. Р. Пшчолко. У 1902 г. поэма надрукавана Е. Раманавым у г. Магілеве. У гэты-ж час В. Шадурскі напісаў на Віцебшчыне опэру „Тарас на Парнасе“. У 1909 г. поэма зьявілася ў некалькіх выданьнях: лацінкай і кірыліцай у выданьні „Нашае Хаты“, ў Вільні, а ў Кіеве ў зборніку „Довнар-Запольский М. В. Изследования и Статьи т. I“, выданьне А. П. Сапунова Перадрукаваны артыкул аб прыналежнасьці поэмы В. Дуніну-Марцынкевічу. У 1910 годзе поэма надрукавана ў газэце „Наша Ніва“, а ў 1917 г. вышла ў Менску асобнае выданьне поэмы ў выдавецтве „Вольная Беларусь“. У 1919 г. ў Вільні поэма надрукавана ў „Выпісах з Беларускае Літаратуры“ М. Гарэцкага. У 1920 г. зьявілася асобнае выданьне поэмы ў Коўне. З 1923 г. поэма вельмі пашырана ў школах БССР праз „Выпісы з

Беларускае Літаратуры". Такім чынам, поэма паводле свайго пашырэньня сярод насельніцтва Беларусі займае першае месца ў нашай літаратуры.

Да 1909 году поэма мела пераважнае пашырэньне ў Віцебскай губэрні: тут яна вытрымала 3 асобныя выданьні, асобнымі адбіткамі: з газэты „Витебскія Губернскія Ведомости" з артыкулу Доўнар-Запольскага і ў зборніку Е. Раманова — „Милостивый Осип". У Магілеве, Менску, Вільні, Смаленску за гэты час поэма ня мела асабліва шырокага пашырэньня ў друку. У рукапісных сьпісках поэма разышлася па ўсёй Беларусі, але найбольшае пашырэньне поэма мела на Віцебшчыне: рэдка знаходзіўся грамацей на вёсцы, які-б ня знаў поэмы напамяць. З фальварку і сяла поэма перайшла і абсталявалася ў хаце селяніна.

Аўтар поэмы вельмі цікавіў дасьледчыкаў. Пад рукапіснымі сьпіскамі поэмы стаялі прозьвішчы: А. Міцкевіча, В. Дуніна-Марцынкевіча, В. Сыракомлі, Равінскага.

Проф. Доўнар-Запольскі, а ўсьлед за ім М. Гарэцкі гатовы прызнать аўтарам поэмы В. Дуніна-Марцынкевіча. Акадэмік Карскі зусім слушна зазначае, што паводле свайго зьместу і галоўнае стылю поэма не падобна да вядомых нам твораў Марцынкевіча. Е. Раманаў выказаў думку, што поэму напісалі студэнты Горы-Гарэцкага Земляробчага Інстытуту, мовай з магілеўскімі асаблівасьцямі. Гэтыя погляды дагэтуль яшчэ існуюць у гісторыі беларускае літаратуры.

Е. Раманаў зусім правільна лічыў мову поэмы галоўнай адзнакай месца нараджэньня яе аўтара.

Дарэволюцыйны стан мовазнаўства на Беларусі не даваў дасьледчыкам мажлівасьці дасканала падыйсьці да разьвязаньня пытаньня аб тым, на мове якой губэрні напісана поэма. „Словарь Белорусского Наречия" Насовіча зьмяшчае пераважна моўнае багацьце заходняе часткі б. Магілеўскай, Менскай губ. і старадаўных актаў. Цяпер з выданьнем „Віцебскага Краёвага Слоўніка" М. Касьпяровіча ёсьць пэўная мажлівасьць дакладна вызначыць мову поэмы. „Смоленский Областной Словарь" Дабравольскага добра вычэрпвае мову беларусоў Смаленшчыны.

За аснову мы ўзялі тэкст поэмы ў „Выпісах з Беларускае Літаратуры", 1923 г.

Параўнаўшы моўнік поэмы з трыма гэтымі слоўнікамі беларускай мовы, можна будзе вызначыць географічна мясцовасьць Беларусі, дзе ўжываюцца дасюль тыя словы, якія ёсьць у поэме.

„Ці знаў хто, братцы з вас Тараса,
У палясоўшчыках што быў?
На Пуцявішчы, у Апанаса
Ён там ля лазьні блізка жыў".

Географічнае пашырэньне „лазьні" выключае цэлы шэраг мясьцін з нашага разгляду. Лазьні пашыраны вельмі густа на паўночным усходзе Беларусі, дужа рэдкі на поўдні нашага краю.

„І войт ні разу ня збрахаў, —
Затоя-ж ён балота зраньня
Да цёмнай ночы пільнаваў".

Два словы: „збрахаў" у сэнсе аблаяў і „балота" — лес маюць такое значэньне, як у поэме, толькі ў „Віцебскім Краёвым Слоўніку", прычым тут гэтыя словы запісаны ў Сіроцінскім і Сеньненскім раёнах,

Віцеб. акругі (ВКС ст. 32, 42). У Слоўніках Насовіча і Дабравольскага гэтыя словы маюць іншае сэнсавае адценьне.

„На самага Кузьму-Дзям'яна
Пайшоў я ў пушчу паміж мхоў"

„Пушчы паміж мхоў" таксама вельмі часта сустракаюцца на поўначы Беларусі. На паўдні Беларусі балоты часьцей бываюць травяныя, а не амшары. У Слоўніку Насовіча слова „пушче" зусім няма, а ў „Віцебскім Краёвым Слоўніку" яно мае такі-ж самы сэнс, як і ў поэме.

„Аж тут—Лоп-лоп! Цераз дарогу
Як быццам цецярук зляцеў.
Злажыўся стрэльбай — кляпсь! —
Ня паліць, Крамзель з другога — не пячэ!".

Такія напоўпрыказкі, напоўпрыслаўі, як: „Лоп-лоп, ляцеў-ляцеў, крамзель, бразь, авохці мне!" зьяўляюцца самай пэўнай адзнакай гаворкі беларуса б. Віцебскай губэрні. Вядомы этнограф М. Нікіфароўскі запісаў іх вельмі многа [1]), ёсьць гэтакія слоўцы ў слоўніку Касьпяровіча. У Насовіча і Добравольскага такіх злучэньняў слоў няма.

„Ляцеў ці доўга я, ці мала
таго ніяк не ўцямлю".

Слова „ўцяміць" ёсьць толькі ў „Краёвым Слоўніку" і запісана ў в. Пожынкі, Сеньненскага раёну (ст. 325), у Насовіча запісана слова „цяміць" у такім сэнсе, як у поэме. У „абласным" слоўніку гэтага слова няма.

„Рукой паскробшы каля вуха,
Дабыў з табакай рагавень,
І храпы напіхаў цяртухай".

Рагавень—выраб з рогу, вельмі пашыраны прадмет ужытку сярод паляўнічых, курцоў і табаканюхаў. „Цяртуха" — гэта слова папала ў „Краёвы Слоўнік" з Кузьняцоўскага раёну (341). У Насовіча гэтае слова не запісана.

„Стаяў я доўга і дзівіўся,
Разявіў зяпу і глядзеў!
Аж вось аткулёка зьявіўся—...
Хлапчына.

Усе гэтыя сказы і слоўцы паходзяць з Віцебшчыны. Слова „зяпа" ўжываецца толькі на Віцебшчыне, запісана ў Сеньненскім раёне, у слоўніку Насовіча гэтага слова няма.

„А не, дык, дадушы, у газэце
Я вас аблаю на ўвесь сьвет"

„Дадушы"—тыповая бажба сялян Віцеб. губ.: У „Краёвы Слоўнік" трапіла з вескі Сіроцінскага раёну, Віцеб. акругі, у слоўніку Насовіча няма, а ёсьць—„далібог",—аднасэнсавае слова.

На грошы ў тронкі тут гуляюць
Парнаскі хлопцы-дзяцюкі.

---

[1]) Працы Катэдры Этнографіі, т. І, сш. І—81. Записки С. З. О. Н. Р. Г. О. т. 1, 2, 3, 4; „Крывіч" № 1 (7) 13—23, 1924 г.

Вядомая гульня ў „тронкі“ вельмі пашырана ў Віцебскай губэрні; на Магілеўшчыне гэтая гульня была вядома ў Сеньненскім і Аршанскім паветах. Далей, на поўдзень, відаць, гэтая гульня ня так вядома, бо Насовіч ня ведаў гэтае гульні, у яго Слоўніку гэтага слова няма. У „Слоўніку“ М. Касьпяровіча гэтае слова запісана ў Межаўскім і Чашніцкім раёнах. Прычым самае слова ня дужа знаёма было ўкладальніку: „Тронка 1) плод картофеля, 2) ручка перочинного ножа“. „У маім нажы касьцяная тронка“: гэта ня ўся аправа нажа, а кулька на канцы аправы. Плод бульбы сталі зваць гэтым словам пазьней за яго падабенства да тронка—галькі, якімі гуляюць на грошы ў „цот і лішку“. Гэтая гульня, здаецца, апісана ў нашай этнографічнай літаратуры, загэтым мы ня станем яе апісваць. Цяпяр гэтая гульня ўжо выходзіць з ужытку.

„Хто піпку, хто сьмяецца,
А іншы песьню бурузьдзіць“

Слова „бурузьдзіць“ запісана ў в. Стралкі, Беш. раёну („В. К. С“ ст. 46).

Цэлы шэраг іншых слоў: „хадакі, сьпіца, восьці жур, атопак“, якія мы сустракаем у поэме, ёсьць у „Віцебскім Краевым Слоўніку“ і няма ў „Словаре белорусского наречия“. Усе гэтыя словы запісаны ў раёнах, якія ляжаць каля г. Віцебску. Дзеля гэтага зусім натуральна дапушчэньне, што аўтар поэмы „Тарас на Парнасе“ быў родам з Віцебшчыны.

Некаторыя стравы, якія паднасілі багом на Парнасе, вельмі пашыраны ў Віцебскай губэрні: Кулеш з скваркамі—у Полацкім і Дрысенскім павеце; а „з пастаялкай жур сьцюдзёны“—у Віцебскім і Бельскім павеце. „Казака і Плясуха“—вельмі пашыраныя скокі на Віцебшчыне. Сучасны стан беларускай этнографіі не дае нам акрэсьленых межаў ужываньня страў, скокаў і гульняў на Беларусі. Дзеля гэтага на падставе толькі моўнага і этнографічнага матар‘ялу, нельга сказаць, упэўнена, што поэма напісана ў Віцебску. Але на падставе гэтага матар‘ялу трэба адхіліць існаваўшыя дагэтуль думкі аб аўтарах поэмы. Акадэмік Карскі зусім правільна адзначыў, што мова першага выданьня поэмы ўзята з гаворкі Віцебскае губэрні. У аснаўным мова поэмы носіць вопратку віцяблянкі пасьля прыгонных часоў.

Вёска Пуцявішча ў межах этнографічнае Беларусі сустракаецца толькі ў б. Віцебскай губэрні. Варта толькі прагледзець сьпіскі паселішчаў Віленскай, Віцебскай, Менскай, Магілеўскай губэрань дарэволюцыйных часоў. У б. Менскай губэрні мы адшукаем: Пуцяты, Пуцілава, Пуцілкавічы, Пуцікава, Пуціна, а ў б. Магілеўскай губэрні: в. Пуцяціна, Пуцятаўку, Путнікі, Пуцімель, Пуціцу.

А в. Пуцявішча ляжыць у 18 кілёмэтрах на поўнач ад г. Віцебску. Можна думаць, што аўтар поэмы добра ведаў ваколіцы г. Віцебску. У сучасны момант гэтая вёска налічвае да 9 двароў, а ў палове XIX стагодзьдзя тут павінна была быць 1-2 хаты. Ведаць такую дробную вёску маглі толькі суседзі. Гэтым самым падмацоўваецца думка, што поэма напісана асобай, якая добра ведала мову, быт і вёскі Віцебшчыны.

Зразумела, гэта ня былі ні Міцкевіч, ні Сыракомля, ні Равінскі, ні Дунін-Марцынкевіч. Гэтыя аўтары пасялілі-б Тараса ў знаёмай вёсцы сваёй мясцовасьці, уклалі-б яму мову сваёй ваколіцы. Зусім беспадстаўная думка аб тым, нібы аўтарамі поэмы былі студэнты Горы-

Гарэцкага земляробчага інстытуту. У інстытуце вучыліся панічы з усяе Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі. Чаму-ж гэтая моладзь павінна была пісаць, як думаў Е. Раманаў, поэму на гутарцы Магілеўскае вёскі? За час навучаньня ў Горках яны не вывучалі мову сялян Магілеўскай губэрні; іх цікавіла толькі глеба, гаспадарка. Вёска перш за ўсё прываблівала іх станам сваёй гаспадаркі. Як нараджэнцы розных краін, студэнты ведалі гаворкі сваёй старонкі. Мінчук, смалянцы, віленец, украінец ужываў-бы мову сваёй радзімы. Так што аўтарства студэнтаў беспадстаўна. Краязнаўцы, якія дасьледвалі жыцьцё студэнтаў у Горках перад паўстаньнем, не напалі на яўныя сьляды беларускіх гурткоў сярод студэнтаў. Былі гурткі вывучэньня нямецкае, францускае, ангельскае мовы, розныя агронамічныя гурткі мелі краязнаўчы ўхіл. Былі палітычныя, нацыянальныя гурткі. Але беларускіх літаратурных гурткоў ня знойдзена. Такім чынам, аўтар „Тараса на Парнасе“ ў сьвятле краязнаўства ўяўляецца такім: знаў добра мову вёскі Віцебшчаны часоў скасаваньня прыгону: „аўсяныя бліны“ хутка па вызваленьні ад прыгону сталі выціскацца з ужытку прыварачнымі блінамі. Бываў у ваколіцах г. Віцебску—Пуцявішча відаў. Добра разьбіраўся ў спляценьнях асабістых адносін расійскіх і польскіх літаратараў. Але самая поэма пісалася ім у далёкім ад Беларусі краі, дзе ня было тых жудасных малюнкаў прыгоннага быту, якія на кожным кроку сустракаліся ў нас.

Калі перабраць па адным усіх пісьменьнікаў і поэтаў, якія пісалі беларускія вершы і жылі ў Віцебску каля 60 гадоў XIX стагодзьдзя, то ўвага дасьледчыка спыняецца на 2 асобах: Арцеме Дарэўскім-Вярызе і Гераніме Марцынкевічу. Г. Марцынкевіч пісаў вершы на польскай мове, але прабаваў свае сілы і ў беларускай камэдыі. У 1861 г. яго камэдыя „Аказія пад Палкаўніцамі“ была пастаўлена на сцэне дваранскага клюбу Віцебску. Ставіў камэдыю гурток аматараў пад кіраўніцтвам другога вядомага тады пісьменьніка Арцёма Вярыгі [1]). Да нас дайшло некалькі зборнікаў польскіх вершаў Г. Марцынкевіча, польская мова яму была зручней беларускай. Геранім Францавіч Марцынкевіч служыў памоцнікам начальніка стала ў Віцебскім Губэрскім дэпутацкім сабраньні, па роду сваёй службы не сустракаўся з сялянамі, дзеля чаго прыходзіцца адкінуць думку аб яго аўтарстве.

Арцём Ігнатавіч Вярыга-Дарэўскі, радзіўся, выгадваўся і да 47 год жыў на Віцебшчыне. Добра ведаў жыцьцё і мову беларускага селяніна, быў вядомы шырокаму колу інтэлігенцыі сваімі народніцкімі спачуваньнямі і палкімі вершамі аб народнай волі. Сучасьнікі звалі яго—„Наддзьвінскі Дудар“. За організацыю і шчыры ўдзел у паўстаньні з мэтамі адраджэньня Беларусі А. Вярыга быў высланы царскім урадам у Забайкальле, адбыў 8 год у катаржных работах і памёр у Іркуцку ў 1884 г. Вядомы беларускі бібліограф Р. Зямкевіч адшукаў успаміны этнографа М. Маркса—віцебляніна. Маркс паведамляе, што ён прывёз з Сібіры, па сьмерці А. Вярыгі, рукапіс яго твору „Тарас на Парнасе“ і надрукаваў яго ў газэце „Минский Листок“ за 1889 г. № 37. Акадэмік Карскі адзначае мову гэтага выданьня поэмы, як узятую з гаворкі Віцебскае губэрні. Такім чынам гэтыя весткі пацьвярджаюцца адзнакамі мовы выданьня. У лісьце да А. Шлюбскага ад 11/V 1928 г. Рамуальд Зямкевіч піша: „Раней 1884 г. гэты твор нідзе ў друку не ўспамінаецца. Усе вэтэраны-паўстанцы 1864 г.,

[1]) З лісту б. Зямкевіча—А. Шлюбскаму ад 25/VII 1927 г.

якія вярнуліся з Сібіры і якіх я тут у Варшаве пытаўся аб К. Каліноўскім ды Арцёме Вярызе-Дарэўскім у адзін голас кажуць, што „Тарас на Парнасе“ яго (Вярыгі) твор і дэклямуюць: „Міцкевіч, Пушкін, Каханоўскі і Гогаль шпарка каля нас прайшлі, „як павы, на Парнас“.

Ясна, што поэма напісана А. Вярыгай-Дарэўскім. Можна думаць, што канчаткова апрацавана поэма ў Сібіры, гэта адлюстравалася ў багатым жыцьці, ежы, быту сялян, якія выведзены ў поэме пад відам багоў. Такі сялянскі дабрабыт Арцём Ігнатавіч бачыў толькі ў Сібірскай вёсцы, дзе ня было прыгону. За час доўгага пакутваньня на катарзе і ў высылцы Арцем Ігнатавіч адарваўся ад жыцьця беларускае вёскі і думаў, што, пасьля скасаваньня прыгону селянін зажыў на Беларусі так багата, як і сібірак.

—

**Выкарыстаная літаратура.**

Е. Карский. Белорусы т. III, в. 3.
М. Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры.
Проф. М. Піотуховіч. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры.
Слоўнікі: „Словарь белорусскаго наречия“ И. Носовіча, „Віцебскі Краёвы Слоўнік“ М. Касьпяровіча, „Смоленский Областной Словарь“ Добровольскаго.
Сьпіскі паселішчаў Віленскай, Менскай, Магілеўскай, Віцебскай, Смаленскай губэрань, выданьні Губ. Статыст. Камітэтаў да рэволюцыі.
Памятная кніжка Віцебскай губ. за 1861 г.
Працы катэдры этнографіі т. I, ІБК.
Записки СЗОИРГО № 1, 2, 3 і 4.
Крывіч № 1. 1924 г.
Асобныя выданьні поэмы „Тарас на Парнасе“. Вільня 1909, Віцебск 1910, Менск. 1917 г. Выпісы з беларускае літаратуры 1923 г.
Газэта „Савецкая Беларусь“ ад 1/IV 1928 г.
Лісты Р. Зямкевіча да А. Шлюбскага ад 25/VII 1927, 11/V 1928 г.

---

С. Баркоўскі.

# Аб краязнаўстве ў дзіцячым малюнку.

Дзіцячая творчасьць ва ўсёй сваёй featнастайнасьці складае вялікую цікавасьць для розных навуковых нагляданьняў і вывадаў. Над яе вывучэньнем працуе шмат работнікаў розных навуковых галін. Паказчыкам гэтага можа служыць шматлікая літаратура па псыхолёгіі дзіцячага ўзросту, творы пісьменьнікаў (Талстога, Горкага, Верасаева, Веч. Іванова і інш.), творы мастакоў і г. д.

Але з усіх відаў дзіцячае творчасьці асабліва шмат увагі ў сучасны момант зварачаецца на дзіцячыя малюнкі. На дзіцячыя малюнкі ніхто ўжо не глядзіць цяпер як на мазьню, якая не заслугоўвае ўвагі дарослых людзей. Наадварот, цяпер дзіцячыя малюнкі зьбіраюць і іх вывучэньнем займаюцца прадстаўнікі самых розных галін—пэдолёгіі, этыолёгіі, біолёгіі, фізыолёгіі, соцыолёгіі, гісторыі ды інш.

Паасобныя віды дзіцячай творчасьці і, у прыватнасьці, дзіцячы малюнак нязвычайна цікавы і для краязнаўцы. Запраўды, дзеля таго, каб лепш і ўсебакова абмаляваць свой край, краязнаўца не павінен грэбаваць чым-небудзь, не заслугоўваючым увагі, гэта папершае; падругое—у сваёй працы краязнаўца ёсьць амаль гэткі-ж навуковы працаўнік, як і спэцыяліст і вучоны, а калі яно так, то для яго дзіцячая творчасьць ня ёсьць некаштоўны матар‘ял.

Важнасьць вывучэньня краязнаўцамі аднаго з бакоў дзіцячае творчасьці, і якраз дзіцячае этнографіі, добра даказвае Г. Вінаградаў, аўтар цікавай кнігі: „Дзіцячы фольклёр і быт“, (Іркуцк. 1925). Аб неабходнасьці вывучэньня краязнаўцамі дзіцячай этнографіі кажа і Селінаў, аўтар каштоўнай працы: „Культуразнаўства ў краязнаўчай працы“ (археолёгія, гісторыя, музэйная справа). (Ленінград. Выд. Брокгауз-Эфрона. 1928). Што-ж тычыцца дзіцячага малюнку непасрэдна, то і тут ёсьць навучальная праца. П. Ф. Трэбухоўскага: „Краязнаўства ў дзіцячым малюнку“ (Іркуцк. Выд. Сэкцыі навуковых працаўнікоў Працасьветы. 1925). Гэты беглы нарыс літаратуры сьведчыць, што дзіцячая творчасьць можа і павінна быць об‘ектам вывучэньня для краязнаўцы.

Ці адбываецца падобная праца краязнаўцамі на Беларусі? Судзячы па матар‘ялах, зьмешчаных у часопісе „Наш Край“ і па выданай у Беларусі літаратуры трэба адказаць адмоўна. Ці зьяўляецца гэта нормальным зьявішчам?—Зразумела, не. Дзеля гэтага мы і заклікаем краязнаўцаў Беларусі, асабліва краязнаўцаў-настаўнікаў узяцца за вывучэньне творчасьці беларускага, яўрэйскага, польскага і расійскага дзіцяці. Хаця законы разьвіцьця душэўнага жыцьця дзіцяці і расійскага і беларускага аднолькавы, усё-ж між імі ёсьць некаторая розьніца. Болей ад таго ёсьць розьніца між дзяцьмі розных мясцовасьцяй тэй-жа Беларусі. Гэтая розьніца ня ёсьць вынікам нацыянальных асаблівасьцяй, а ёсьць вынік уплыву прыродных мясцова-бытавых умоў. (Соцыяльнае становішча дзіцяці адыгрывае таксама не апошнюю ролю, але адзнакі яго на дзіцячай творчасьці для ўсіх мясцовасьцяй аднолькавы). Краязнаўчы ўхіл сучасных програм прымушае быць краязнаўцам ня толькі настаўніка, але ў некаторай меры і вучня. Робячы цэлы шэраг экскурсій пры прапрацоўцы розных комплексаў і пытаньняў, вучні часта свае ўражаньні і нагляданьні фіксуюць у малюнку. Дзякуючы гэтаму, у руках настаўніка штогодна зьбіраецца шмат цікавых дзіцячых малюнкаў, якія паказваюць прыроду, быт, грамадзкія падзеі і г. д. данай мясцовасьці. Гэты каштоўны для краязнаўцаў матар‘ял, як відаць, гіне задарма, калі ня лічыць тую невялікую колькасьць дзіцячых малюнкаў, што захоўваюцца ў Пэдагогічным габінэце Менскай Акруговай Інспэктуры Нарасьветы (пры цэнтральным Доме Працасьветы ў Менску). Ня кажучы ўжо аб тым, што кожны пэдагог павінен ведаць і разумець дзіцячы малюнак, бо праз яго зможа лепей зразумець даволі значны круг зьяваў дзіцячай псыхікі, настаўнік павінен хаваць і любіць дзіцячы малюнак і ў інтарэсах краязнаўства. Праўда, школьны дзіцячы малюнак мае на сабе адбітак уплыву настаўніка і школьнай програмы, і найбольш каштоўным зьяўляюцца тыя дзіцячыя малюнкі, якія выкананы дзяцьмі самастойна ці ў межах школы, ці па-за ёю, усё-ж і школьныя малюнкі дзяцей маюць каштоўнасьць, як сыры краязнаўчы матар‘ял. Доказам правільнасьці гэтага палажэньня можа служыць хаця-б вышэйназваная праца Трэбухоўскага.

Пададзеныя Трэбухоўскім 10 малюнкаў дзяцей ва ўзросьце ад 10 да 14 год аднэй з Іркуцкіх школ яскрава пацьвярджаюць правільнасьць высунутуга ім палажэньня, што „дзіцячы малюнак ёсьць для краязнаўцы вялізарная скарбніца, у якой могуць быць такія каштоўнасьці, якіх у іншым месцы краязнаўца не сустрэне“. Усе гэтыя малюнкі былі зроблены пад кіраўніцтвам Трэбухоўскага і пры яго бліжэйшым удзеле, як працаўніка катэдры графічных мастацтваў пэдфаку Іркуц-

кага Унівэрсытэту і былі зьмешчаны на краязнаўчай выстаўцы ў Іркуцку, дзе яны былі разьмяркованы па наступных 20 сэрыях: 1) Розныя здарэньні; 2) прадстаўленьні і забавы; 3) гульні і спорт; 4) рэчы хатняга ўжываньня; 5) хатні быт; 6) хатняя жывёла; 7) рынак; 8) чалавек; 9) фізвыхаваньне; 10) памяшканьне чалавека; 11) установы і прадпрыемствы; 12) жыцьцё вуліцы; 13) жыцьцё ракі; 14) сьвята працы; 15) сьмерць У. І. Леніна; 16) шляхі зносін; 17) рэчы вартыя ўвагі; 18) чалавек у прыродзе; 19) досьлед псыхолёгіі; 20) аналіз формы. Пададзеная разьмеркаваньне дзіцячых малюнкаў паводле названых сэрый можа служыць узорам і для краязнаўцы-настаўніка пры яго клясыфікацыі дзіцячых малюнкаў. Гэты падзел з некаторымі зьменамі, менавіта зьнішчэньнем сэрый 19 і 20, як чыста пэдолёгічных і дадаткам новай сэры: „10 год кастрычніка“, нельга ня прызнаць удалым і можна цалкам ужыць. Настаўнік-краязнаўца павінен зразумець іх каштоўнасьць і пачаць зьбіраньне і вывучэньне дзіцячых малюнкаў, а гэта ў сваю чаргу дапаможа лепш паставіць справу барацьбы з графічнаю няпісьменнасьцю. Дзеля таго, каб павесьці працу па вывучэньні дзіцячых малюнкаў, настаўнік-краязнаўца мае патрэбу ў падручніках: кнізе і програме. Апрача вышэйназваных кніг вельмі карысна для яго будзе пазнаёміцца яшчэ з кнігаю. І. Рыбнікава: „Дзіцячыя малюнкі і іх вывучэньне“ (Дзяржвыдат, 1926), якая пакажа на важнасьць дзіцячых малюнкаў і дасьць уяўленьне аб існуючых мэтодах вывучэньня дзіцячых малюнкаў. Дык вось, больш увагі дзіцячаму малюнку, больш увагі творчасьці дзяцей. Настаўнік-краязнаўца адгукнецца на гэты заклік, а гэтую мэту наш артыкул і мае.

---

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Т. П. Кулакоў.

## Экономічны стан Азарыцкага раёну, Мазырскай Акругі.

*(Кароткі нарыс).*

Азарыцкі раён знаходзіцца ў поўночна-ўсходняй частцы Мазыршчыны. Раён склаўся пры раёнаваньні БССР у 1924 г. з даўняй Азарыцкай воласьці, часткі Рудабельскае б. Бабруйскага павету і частак валасьцей: Крукавіцкае, Карпавіцкае і Даманавіцкае Рэчыцкага павету. У 1927 годзе да раёну далучана яшчэ тры вёскі: Курын, Пухічын і Гаток ад Бабруйскае акругі. Мяжуецца раён з Бабруйскаю акругаю на поўначы і захадзе, з Каленкавіцкім раёнам — на ўсходзе і поўдні і з Капаткевіцкім раёнам — на паўднёвым захадзе. Тэрыторыя раёну займае прастору ў 1012 кв. вёрст. Раскідана тэрыторыя вакол свайго цэнтру м. Азарыч нераўнамерна: бліжэйшая мяжа да Каленкавіцкага раёну знаходзіцца ад цэнтру — на адлегласьці 12—14 вёрст у ўсходным кірунку, а ўсе астатнія межы — на адлегласьці 28—30 вёрст. Сярэдняя адлегласьць паселішч ад цэнтру раёну — 19—21 вяр. У адміністрацыйных адносінах раён падзяляецца на 13 сельсаветаў, якія маюць наступную сярэднюю адлегласьць ад цэнтру раёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Азарыцкі бел. | сельсавет | 0 вёрст. | ад м. Азарыч. |
| 2. Азарыцкі яўр. | " | " | " |
| 3. Валосавіцкі | " | 12 | " |
| 4. Грабіеўскі | " | 22 | " |
| 5. Савіцкі | " | 15 | " |
| 6. Крукавіцкі | " | 5 | " |
| 7. Кабыльшчанскі | " | 15 | " |
| 8. Людзьвінаўскі | " | 23 | " |
| 9. Давыдаўскі | " | 24 | " |
| 10. Марцінаўскі | " | 12 | " |
| 11. Асташкаўскі | " | 28 | " |
| 12. Навасёлкаўскі | " | 10 | " |
| 13. Хаміцкі | " | 7 | " |

Па колькасьці гаспадарак і насельніцтва самымі большымі сельсаветамі зьяўляюцца: Асташкаўскі, Валосавіцкі, Людзьвінаўскі і Крукавіцкі, якія налічваюць ад 500 да 600 гаспадарак, а самыя меншыя

Азарыцкі і Давыдаўскі яўрэйскія сельсаветы, у першым 240 гасп., а ў другім—124. У сярэднім-жа на адзін сельсавет прыпадае 438 гаспадарак.

*Шляхі зносін і рынкі.* Праз усходнюю частку раёну праходзіць заходняя чыгунка з ст. Астанкавічы, але апошняя як станцыя абслугоўвае толькі Давыдаўскі, Людзьвінаўскі і Асташкаўскі сельсаветы, а астатняя частка раёну абслугоўваецца разьездам Холоднікі (Каленк. раён) тэй-жа чыгункі, на адлегласьці 23 вёр. ад м. Азарыч. Чыгунка дае заробак частцы насельніцтва раёну шляхам падвозкі дроў і іншых лесаматар'ялаў. З шляхоў акруговага значэньня трэба адзначыць: Кацярынінскі шлях, які праходзіць з Мазыра на Жлобін і дарогу, што злучае г. Мазыр і Бабруйск. Кацярынінскі шлях перасякае раён у ўсходня-паўночным кірунку. Масты і грэблі па дарогах акружнога значэньня знаходзяцца ў добрым становішчы. Дарогі мясцовага значэньня даюць магчымасьць зносіцца з цэнтрам раёну ўсім насялёным пунктам на працягу ўсяго году. Раньняю вясною і ўвосень дарогі бываюць гразкімі, а ў летні час дужа пяшчанымі. Водныя шляхі ў раёне адсутнічаюць.

Галоўнымі рынкамі для раёну да раёнаваньня 1924 году зьяўляліся г. Бабруйск і Каленкавічы, і толькі часткова м. Азарычы. З утварэньнем-жа ў м. Азарычы раённага цэнтру, м. Азарычы стала прыцягваць да сябе больш прадаўцоў і пакупцоў. Гэтаму садзейнічае значнае разьвіцьцё коопэрацыі, якая маецца ў м. Азарычах трох відаў: спажывецкая з 4 крамамі, сельска-гаспадарчая і саматужніцкая. Першыя дзьве вядуць загатавіцельныя опэрацыі ўсіх відаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Таксама ёсьць у м-ку загатавіцельны пункт Мазырскага аддзяленьня дзяржаўнага беларускага гандлю. Усё гэта спрыяе м. Азарычам стаць запраўдным экономічным цэнтрам раёну. Два разы ў год у м. Азарычы адбываюцца значныя кірмашы. Таксама кірмашы адбываюцца ў сьвяточныя дні і па нядзелях.

*Глебы і клімат раёну.* Пераважнымі відамі глебы ў раёне зьяўляюцца супяшчаныя ў паўночна-ўсходняй частцы раёну і суглінкавыя ў паўночна-заходняй частцы. Сустракаюцца падзольныя глебы і шмат пяскоў па раёне. Рэльеф раёну лёгка-хвалісты з значным паніжэньнем на поўдзень. Апошняе вызначаецца кірункам працякаючых праз раён рэчак: Уны, Вішы і Трэмлі, якія прарэзваюць раён з поўначы на поўдзень.

Клімат раёну дазваляе разводзіць усе тыповыя для Беларусі расьліны і дае магчымасьць ім дасьпяваць. Значных засух у раёне ня бывае. Здараюцца вымачкі на нізкіх глебах. Часам замаразкі вясновыя (у маі і чэрвені м-цах) шкодзяць гародніне і садовіне. Больш падрабязных вестак аб клімаце прывесьці немагчыма з тае прычыны, што досьледы іназіраньні па гэтай частцы яшчэ нязначныя.

*Насельніцтва і яго заняткі.* Усяго насельніцтва ў раёне на 1 студзеня 1928 году налічвалася 31036 чал., з якіх мужчын 14939 і жанчын 16097. Разьмешчана насельніцтва ў 195 паселішчах рознага тыпу.

Нацыянальны склад насельніцтва наступны:

| Беларусаў | Яўрэяў | Украінцаў | Расійцаў | Палякаў | Іншых | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 28841 | 1858 | 172 | 12 | 150 | 3 | 31036 |

Беларусы жывуць выключна ў вёсках. З агульнага ліку яўрэйскага насельніцтва 1858 чалавек, у мяст. Азарычы жыве 1150 ч., у Давыдаўцы (тып м-ка) 623 ч., а астатнія раскіданы адзіночнымі сем'ямі па вёсках. Палякі жывуць у паселішчах шляхецкага тыпу (засьценкі). Украінцы зьяўляюцца перасяленцамі з Кіеўшчыны і Валыншчыны.

Натуральны рух насельніцтва паводле сталых вестак загс'у РВК за тры гады характарызуецца наступнаю табліцаю:

| ГАДЫ | Лік насельніцтва | Нарадзілася | Памерла | Выехала з раёну | Прыехала ў раён | Адбылося | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Шлюбаў | Разводаў |
| 1925 | 30334 | 1329 | 515 | — | — | 218 | 24 |
| 1926 | 30948 | 1356 | 559 | 114 | — | 229 | 36 |
| 1927 | 31036 | 1401 | 516 | 174 | — | 248 | 30 |

З прыведзенай табліцы можна бачыць, што прырост насельніцтва ў год на 1000 ч. дае 44 чал., а сьмяротнасьць 17 чалавек. У апошнія гады нараджаемасьць зьмяншаецца, дзякуючы пашырэньню абортаў, якія практыкуюць і вясковыя жанчыны. Так паводле даных Азарыцкай райбольніцы абортаў зроблена ў 1925 г.—26, у 1926 г.—39, у 1927 г.—53 і за 9 м-цаў 1928 г.—67, трэба дадаць яшчэ аборты „саматужным парадкам". Сярод паміраючых шмат малых дзяцей, якія гінуць ад дрэннага догляду.

Да выехаўшых з раёну адносяцца перасяленцы ў Крым і Сібір. Перасяленьне выклікана недахопам зямлі і нізкаю якасьцю яе для сялянства і скарачэньнем прыватнага гандлю сярод яўрэйскай часткі насельніцтва.

Асноўным відам заняткаў насельніцтва раёну зьяўляецца земляробства з ухілам да жывёлагадоўлі. Толькі яўрэйская частка насельніцтва ў вялікай большасьці займаецца промысламі, рамёсламі і гандлем, але апошні від занятнаў прышоў да поўнага заняпаду, і гандляры часткаю пакінулі раён, а часткаю падшукалі іншую працу.

З тае прычыны, што земляробства пры тэй пастаноўцы, у якой знаходзіцца ў сучасны момант, ня можа задаволіць усіх патрэб гаспадаркі, частка з іх шукае падсобных відаў заняткаў. Такімі лічацца: заработкі ў лесе: рубка, рэзка і возка дроў і іншых лесаматар'ялаў. На гэтую працу, пачынаючы з глыбокай восені і на працягу ўсёй зімы, шмат людзей адпраўляецца за межы раёну ў лясныя мясцовасьці. Саматужная прамысловасьць разьвіта слаба і мае характар абслугоўваючы і то часткаю патрэбы насельніцтва. Вядзецца яна прымітыўным спосабам. Найбольш пашыранымі саматужнымі промысламі зьяўляюцца: сталярныя, бандарныя, кавальства, выраб цэглы, калёсныя рамёствы, чоска воўны, шавецтва, кравецтва, пячкурства і інш.

*Сельская гаспадарка.* Уся зямельная плошча раёну налічвае 97856 дзесяцін і разьмяркоўваецца па ўгодзьдзях так:

| У год | Сяліба | Ральля | Сенажаць | Лес і хмызьняк | Выган і інш. | Пяскі і неразьмерк. | Усяго ўдобнай | Няўдобнай | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзес. . . . | 1604 | 15790 | 12800 | 25723 | 12394 | 29545 | 86137 | 1179 | Мат. Земаддзелу |

З разгляду гэтых лічбаў відаць, што пры наяўнасьці ў раёне 31036 чал. насельніцтва, разьмяркованых у 5700 гаспадарках усяе зя-

мельнае плошчы, прыходзіцца на 1 чал.—3,15 дз., на 1 гаспадарку—17,17 дз.; ральлі на 1 чал.—0,50 дз., на 1 гасп.—2,77 дз. і сенажаці 0,41 дз. на 1 чал. і 2,24 дз. на 1 гаспадарку. Такім чынам, забясьпечаньне зямельнаю плошчаю гаспадарак у некаторай меры можна лічыць здавальняючым, але, маючы на ўвазе нізкую якасьць глебы, нерацыянальнае выкарыстаньне зямельных угодзьдзяў і наогул адсталае вядзеньне паляводзтва, трэба сказаць, што неадкладна вымагаецца прыняцьце мер да рацыянальнага выкарыстоўваньня закінутых частак зямельнае плошчы. Сенажаці ў раёне займаюць 15% усяе зямельнае плошчы. Па якасьці сенажаці ў пераважнай большасьці балотныя, заліўных лугоў зусім няма. Догляду за імі ніякага. Мэліарацыйная справа ў раёне пачала разьвівацца толькі з 1926 году і вынікі яе пакуль што нязначныя.

Усяго гаспадарак па раёне на 1 студзеня 1928 году налічвалася 5700, якія паводле соцыяльнага складу разьмяркоўваюцца так:

| Кулацкіх | Заможных | Вышэй серадняцкіх | Бядняцкіх | Батрацкіх | Саматужных | Колектыўных | Гандлёвых | Серадняцкіх | Іншых | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 48 | 274 | 2597 | 39 | 185 | 1 | 58 | 2299 | 198 | 5700 | Матар'ялы РВК. |

Забясьпечаньне зямлёю гаспадарак наступнае: безьзямельных—257, маючых да 1 дз.—408, да 3-х дз.—2738, да 5 дз.—1610, да 10 дз.—645 і звыш 10 дз.—42. Зямлякарыстаньне ў раёне мае наступны малюнак: цераспалосных гаспадарак—3970, хутарскіх—1609, пасёлкавых—120 і колектыўных—1. Пераважнаю формаю зямлякарыстаньня, як відаць з паказаных лічбаў, зьяўляецца падворна-вучастковая, цераспалосная. Дальнязямельле ў такіх гаспадарак дасягае ад 3 да 5 вёрст. Сыстэма паляводзтва застаецца ў большасьці трохпольнаю, але ня ў чыстым відзе. Земляробы, пашыраючы пасяўную плошчу, пачынаюць больш выкарыстоўваць папаравыя кліны пад засеў лубіну і сэрадэлы. Шматпольле пачынае прабіваць сабе дарогу галоўным чынам у пасёлкавых гаспадарках, так у 1925 годзе на шматпольле пераведзена 7 гасп., у 1926 г.—10, у 1927—9 і намечана ў 1928 годзе 21 гасп. Нельга сказаць, што пераведзеныя гаспадаркі на шматпольле поўнасьцю замацоўваюць севазварот. Травы сеюць, але пасеў мае выгляд вуглавога травасеяньня. Тлумачыцца гэта малазямельлем, нізкаю якасьцю глебы, якія ня могуць задаволіць правільнага чаргаваньня культур. Пасяўная плошча з 12662,4 дз. у 1926 годзе дасягнула ў 1927 г. 14982,27 дз.,—павялічылася на 18,3%.

Разьмеркаваньне пахатнай плошчы пад асобныя культуры за 1927 год мае ў % такі малюнак:

| Назва культур | % | Назва культур | % | |
|---|---|---|---|---|
| Жыта | 52 | Гарох | 0,2 | Матар'ялы аграпункту. |
| Бульба | 12,2 | Лён | 4,9 | |
| Пшаніца | 3,6 | Чачавіца | 0,3 | |
| Авёс | 5 | Травы розн. | 0,9 | |
| Ячмень | 4,4 | Лубін | 0,5 | |
| Грэчка | 11,4 | | | |
| Проса | 4,6 | Усяго | 100 | |

Засеў кармовых траў і зялёнага ўгнаеньня, якія да рэволюцыі ў сялянскіх гаспадарках раёну не высяваліся, пачынаючы з 1925 году ў параўнаньні з 1927 годам даюць такі рост:

| Назва | 1925 | 1926 | 1927 | |
|---|---|---|---|---|
| Канюшына . | 7,40 | 14,5 | 30 | Паказаны ў дзесяцінах. Матар'ялы аграпункту. |
| Віка . . . | 3,60 | 17,3 | 50 | |
| Сэрадэла . | 2,7 | 19 | 80 | |
| Лубін . . | 2,39 | 27 | 80 | |

Пераважнымі культурамі застаюцца зернавыя і найбольшы % займаюць такія культуры, як жыта—52% і грэчка—11,4%; гэта тлумачыцца тым, што яны могуць расьці на больш лёгкіх пяшчаных глебах і не патрабуюць сьвежага ўгнаеньня (жыта). Ураджай культур паводле даных аграномічнага пункту ў раёне за 4 гады быў наступны:

| Гады | Жыта | Авёс | Грэчка | Пшаніца | Ячмень | Бульба | Лён | Проса | Канюшына | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 | 36 | 15 | 12 | 25 | 12 | 400 | 30 | — | — | Паказаны з 1 дз. у пудох. Матар'ялы аграпункту. |
| 1925 | 45 | 40 | 35 | 40 | 35 | 600 | 20 | — | — | |
| 1926 | 38 | 45 | 25 | 40 | 42 | 700 | 40 | 60 | 200 | |
| 1927 | 60 | 50 | 20 | 35 | 70 | 700 | 40 | 45 | 225 | |

*Тэхніка палявое гаспадаркі і апрацоўка зямлі.* У цераспалосных гаспадарках звычайна ўгнойваюцца кавалкі зямлі бліжэйшыя да сялібы і на іх высяваюцца больш каштоўныя культуры. Хутарскія і пасёлкавыя гаспадаркі разьмяркоўваюць угнаеньне больш роўнамерна на ўвесь вучастак зямлі. Недахоп гною ў гаспадарках вымагае скарыстоўваць яго пад культуры, патрабуючыя толькі сьвежага ўгнаеньня як напр.: ячмень, авёс, пшаніца, гароднiна і бульба. Жыта сеюць пасьля яравых і на аддаленых землях. Папаравы клін выкарыстоўваецца пад выпас быдла, часткаю засяваецца травамі і потым ідзе пад жыта.

Гной кладуць на той самы кавалак праз 3-4 гады. Зялёнае ўгнаеньне паступова пашыраецца, а штучнае „праў грамадзянства" не атрымала. Праводзяцца покуль што вопыты на дасьледчых палях аграноміяй.

Апрацоўка глебы прымітыўная: аднаконным і двухконным плугам, апошні ў больш моцных гаспадарках. Працоўная сіла: коні і валы, апошніх ужо мала, на 100 гасп.—26 пар. Бораны жалезныя і нязначная частка драўляных. Узворваецца глеба ад $2^1/_2$ да 3 вяршкоў. Скародзяць пахаць у сярэднім да 3 сьлядоў. Апрацоўка глебы пад азіміну пачынаецца з 20—25 ліпня. Уздым папару ў сярэдзіне жніўня. На зімовы папар аруць кавалкі прызначаныя для пасеву бульбы і лёну. Пад ярыну пачынаюць араць спачатку красавіка. Сяўба ўсіх культур праводзіцца ручным спосабам з каробкі. Звычайна сеюць як яравыя, так і азімыя культуры ў 2 тэрміны: раньні і праз $2\text{-}2^1/_2$ тыдні—позьні. Збор ўсіх відаў ураджаю толькі ручным спосабам. Малацьба

цэпам у бяднейшых гаспадарак, а ў моцных ужываецца малатарня. Машынізацыя сельскае гаспадаркі раёну ў сучасны момант абмяжоўваецца наступным: Трэяраў—3, малатарань—252, веялак—67, сячкарак—105. Трактара ў раёне ня бачылі. Наогул трэба сказаць, што машынізацыя гаспадаркі досыць слабая.

*Жывёлагадоўля.* У раёне пашыраны такія віды жывёлы: коні, быдла, сьвіньні і авечкі. Коні і валы, як адзначана вышэй, зьяўляюцца працоўнаю сілаю ў гаспадарцы. Каровы і дробнае быдла трымаюцца як для малака, а галоўнае для гною. Забясьпечанасьць гаспадарак жывёлаю, паводле справаздачы РВК на 1927 год, мае такі малюнак: на 100 гаспадарак прыпадае:

1. Коняй працоўных . 70
2. „ маладняка . 19
3. Жарабят . . . . 6
4. Валоў працоўных . 26 пар
5. Быкоў . . . . . 11 „
6. Кароў . . . . . 155
7. Нецеляй . . . . 43
8. Цялят . . . . . 32
9. Сьвіней дар. . . . 123
10. Подсьвінкаў . . . 81
11. Парасят . . . . 170
12. Авец . . . . . 225
13. Ягнят . . . . . 95

Значнае скарачэньне ўсіх відаў жывёлы за час імпэрыял. і грамадзянскай вайны ўжо можна лічыць адноўленым за кошт маладняка, як гэта відаць з наступнай табліцы:

| Гады | Коняй | | | Валоў | | Кароў | | | Сьвіней | | Авец | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Працоўных | Маладн. | Жараб. | Прац. | Маладн. | Дойных | Нецеляй | Малад. | Даросл. | Малад. | Даросл. | Малад. | |
| 1925 | 3618 | 554 | 292 | 3173 | 650 | 7930 | 2042 | 1089 | 5446 | 5315 | 16619 | 5078 | Матар. агран. і земаддзелу. |
| 1926 | 4019 | 653 | 330 | 2576 | 1089 | 8874 | 2532 | 1025 | 6165 | 5423 | 13516 | 5757 | |
| 1927 | 4037 | 731 | 502 | 2875 | 2234 | 11660 | 2643 | 1790 | 7003 | 4653 | 13874 | 5670 | |

Пераходзім да разгляду асобных парод жывёлы. Коні пераважна мясцовай пароды. З палепшаных парод—мэтысаў ёсьць 7 жарабцоў і 31 кабыла. Мясцовая парода больш падыходзіць для гаспадаркі тым, што патрабуе мала ўходу за сабою, задавальняецца мясцовымі грубымі кармамі і выносьліва да працы. Каня, як галоўную працоўную сілу, даглядаюць лепш, чым іншую жывёлу і трымаюць яго ў больш цёплым хляве. Даглядае за канём сам гаспадар. Кормяць сенам, вобмешкаю з коласу з бульбаю, а часамі і з мукою. Авёс даюць пры цяжкіх працах. Вясною і летам пасуць і падкармліваюць толькі ў час працы.

Быдла разводзяць пераважна мясцовай дробнай чырвонарабай пароды. Звычайная карова важыць у сярэднім 13—17 пудоў, гадавы ўдой—35—45 вядзёр малака ў сэзон. Запускаюцца каровы перад ацёлам ад 3 да 5 м-цаў. З палепшанай мешанай пароды ёсьць у раёне 13 быкоў (бугаі) і да 50 кароў, галоўным чынам у шляхты. Догляд за быдлам патрабуе неадкладнага паляпшэньня: трымаюць у халодных хлявох, якія вясною часта раскрыты, бо салому зьдзіраюць на харчы. Кормяць быдла пачынаючы з паловы лістапада да паловы красавіка, а

астатнюю частку году трымаюць на выпасе. Даюць трушанку—60% саломы і 40% сена, салому аўсяную, прасяную, грачанку і ячменіцу даюць бяз сена. Сена звычайна балотнае, бо мурожнае застаўляецца каню і авечкам. Рэдка ў якіх гаспадарках каровам і толькі дойным даюць бульбу да 5 фун. у дзень. Кармушак у хлявох няма, харч кідаецца ў вугал. Праўда, дзякуючы прасоўваньню аграномічных ведаў у гушчы сялянства, ёсьць у малой колькасьці гаспадарак больш перадавых (пасёлкавыя), у якіх больш-менш здавальняючы догляд за быдлам, але гэта покуль што адзінкі.

Дрэнны догляд за быдлам тлумачыцца, у сенсе харчаваньня, галоўным чынам, недахопам сенажаці і нізкаю якасьцю гэтых сенажацяй.

Месцам збыту быдла зьяўляюцца коопэратывы, якія скупляюць быдла ў вялікай колькасьці, як для ўнутранога ўжытку раёну, а таксама для адпраўкі ў гарады. Продаж быдла пачынаецца з весені, прадаюцца звычайна старыя галавы і падросткі - бычкі.

Сьвіньні ў раёне гадуюцца таксама мясцовой доўгалыгай пароды, малапродукцыйныя. Сьвінагадоўля выключна абслугоўвае патрэбы мясцовага насельніцтва. Вывазу продуктаў сьвінагадоўлі, за выключэньнем хіба шчаціны, не назіраецца. Харчаваньне сьвіней: надворных кормяць мякінаю з падмешкаю бульбы, на сала пачынаюць адкармліваць ад 1 да 2 год. Кормніка харчуюць у хаце тры разы ў дзень. Даюць бульбу з мукою. Адкорм цягнецца ад 4 да 6 месяцаў. Сярэдняя вага ўбойнае сьвіньні 4—7 пудоў.

Гадоўля авечь носіць выключна спажывецкі характар: мяса, скура і воўна ідуць для хатніх патрэб.

Вельмі нязначная колькасьць авец збываецца на рынак.

Птушніцтва. З свойскіх птушак разводзяць выключна курэй.Гусі, качкі і індыкі сустракаюцца вельмі рэдка. Звычайна ў кожнай гаспадарцы можна знайсьці ад 7 да 12 курыц. Яйкі збываюцца праз коопэрацыю. Цэны на яйкі ўвясну 25—30 коп., а пад восень—да 50 кап. дзесятак. Догляд за курамі дрэнны. Летам іх зусім ня кормяць. Зімою трымаюць у хаце пад печкаю. Кормяць грэчкаю і ячменем. Даход ад курыцы ў год 40—45 яек.

*Пчалярства.* У раёне пчалярства носіць аматарскі характар. Кожная вёска налічвае 3—5 пчалаводаў, якія маюць па 10—15 калод на дрэвах пры сялібе і ў лесе. Пчалярству шмат шкоды прынесла польская окупацыя. Амаль усе пчолы былі тады зьнішчаны. Адраджэньне пчалярскае справы пачынаецца з 1923/24 году. У сучасны момант пчалярства налічвае 968 сямей, з іх у рамачных вульлёх 57 сямей. У 1927 годзе організавана раённае пчалярскае таварыства, якое аб‘яднае 36 пчалаводаў і распачала працу па пашырэньні і наладжваньні пчалярскае справы ў раёне.

*Гароднiцтва.* Гародніцтва ў раёне мае выключна спажывецкі характар. Кожная гаспадарка мае невялічкі гарод, які выкарыстоўваецца ў напрамку задавальненьня сваіх патрэб. Выгляд большасьці сялянскіх гародаў дрэнны і часамі ня можа задаволіць спажывецтва самой гаспадарскай сям‘і. Галоўнымі гароднымі культурамі сялянскіх гародаў зьяўляюцца: капуста, буракі, гуркі, цыбуля, моркаў, часнок і інш. Лепш удаецца—буракі, цыбуля, капуста, горш—гуркі і моркаў.

Лепшымі гародамі лічацца гароды ў шляхты і пасёлкаўцаў на былых нетрудавых землях. Гэтая частка гаспадароў збывае частку гародніны на ўнутраны раённы рынак. Дрэннае становішча гародні-

цтва тлумачыцца няўмелым доглядам, позьняю пасадкаю і дрэннымі сартамі насеньня. Скардзіцца на няўгноеннасьць гародаў падстаў няма, бо гной на гароды падкладаецца штогодна і добрай якасьці.

*Садоўніцтва.* Агульная плошча, занятая садамі, выражаецца ў 82,75 дзес., з якіх пад дзяржаўнымі—38,75 дз. і ў сялян 44 дз. Дзяржаўнымі садамі зьяўляюцца ранейшыя памешчыцкія сады, усе яны зараз знаходзяцца ў арэндзе. Сады гэтыя раней у памешчыкаў насілі характар не прамысловых, а больш зьяўляліся аматарскімі. У іх няма сталага падбору асортымэнту пладовых дрэў. Значнае месца ў садох адведзена дэкарацыйным дрэвам: ліпе, топалю, бэзу і розным ягадным кустом. Сялянскія сады ў дарэвалюцыйны час прадстаўлялі садзікі ад 10 да 15 дрэў. Плошча іх па раёне з 1917 па 1927 год узрасла з 28,5 да 44 дзесяцін. Пашырэньню садовае плошчы спрыяе: добрыя кліматычныя ўмовы, зацікаўленасьць з боку насельніцтва, крэдытныя ўмовы набыцьця сажанцаў праз сельска-гаспадарчую коопэрацыю і адпаведная дапамога аграпункту. Сучаснае становішча садоў у раёне носіць выключна спажывецкі характар. Дзяржаўныя сады задаваляюць у першую чаргу патрэбы мясцовага рынку і ў вельмі мізэрнай колькасьці адпраўляюць садавіну за межы раёну. Даход у раённы бюджэт ад садоўніцтва ў 1927 годзе даў 1315 руб. 45 кап.

*Коопэрацыя і гандаль.* У дарэволюцыйныя часы ўвесь гандаль знаходзіўся ў прыватных руках. Коопэрацыя пачала зьяўляцца з 1918 г., але грамадзянская вайна, окупацыя немцамі і палякамі прыпынілі організацыю коопэрацыі аж да 1923 году. Пачынаючы з 1923/24 году справа коопэрацыі пачала посоўвацца наперад. У сучасны момант у раёне ёсьць сельска-гаспадарчых таварыстваў з крэдытнымі функцыямі—2, спажывецкіх таварыстваў—3 з 6 аддзяленьнямі і 1 саматужніцка-прамысловае т-ва ў м. Азарычы. Праца ўсіх відаў коопэрацыі характарызуецца наступным:

| Назва таварыстваў | Пайшчыкаў | Паявагока-піталу | Сярэдні пай | Лік крам | Звароты за 1927/28 год | Увага: |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Азарыцкае спаж. т-ва . . | 1318 | 9058,30 | 6,95 | 5 | 150548,90 | На 1/X 1928 г. |
| Карпавіцкае „ „ . . | 826 | 4870,07 | 5,90 | 3 | 72315,40 | |
| Ламавіцкае „ „ . . | 802 | 4662 | 5,81 | 3 | 76000,0 | |
| Азарыцкае с.-гасп. т-ва . | 1433 | 10763,70 | 7,51 | 2 | 150850,32 | |
| Давыдаўскае „ „ . | 433 | 3360,01 | 7,70 | 2 | 53729,25 | |
| Азарыцкае прам. сам. . | 164 | 1182,38 | 7,20 | 1 | 30096,31 | |
| Усяго . . . . | 4976 | 33896,46 | 41,07 | 16 | 533540,18 | |

Усяго коопэравана па лініі спажывецкай—51% насельніцтва і па сельска-гаспадарчай 32% насельніцтва. Спажывецкія і сельска-гаспадарчыя т-вы разгарнулі шпаркую працу па загатоўках збожжа-сыравіны. Што тычыцца прыватнага гандлю, дык ён ў раёне сваю ролю згубіў і прадстаўляе дробныя крамкі да 8 штук у раёне і да 35—40

карабейнікаў, якія працуюць па ўмовах з коопэрацыйнымі організацыямі.

*Прамысловасьць.* Буйнае дзяржаўнае прамысловасьці ў раёне няма. Прамысловасьць мясцовага раённага значэньня складаецца з 1 паравога млына, які знаходзіцца ў карыстаньні Давыдаўскай сельска-гаспадарчай арцелі, 1 смалакуранага заводу (пабудаваны ў 1927 г.) 1 цагельнага заводу (адрамантаваны капітальна ў 1927 г.). Умовы для разьвіцьця смалакуранага і цагельнага заводу досыць спрыяючыя і пабудову іх трэба лічыць сваечасовай. У бягучым годзе Азарыцкае сельска-гаспадарчае т-ва адчыніла маслабойны завод і чарапічна-бэтонны завод.

Прыватная прамысловасьць носіць дробны саматужніцкі характар і складаецца: з 6 паравых млыноў, 72 ветракоў, 1 вадз. млыну з сукнавальняю, ваўначосак 21 (3 конных), крупарушак 45 (конных з іх 18), маслабоек 9 (цяпер зачынены), гарбарань 8 (зачынены) і 1 смалакураны завод. Паказаныя прадпрыемствы абслугоўваюць выключна мясцовае насельніцтва. Памольны збор ад усіх млыноў раёну здаецца ў коопэратыве, чакаецца паступленьне ад яго да 12-13 тысяч рознага збожжа—у бягучым годзе.

Саматужнікаў разных прафэсій налічваецца на раёне: краўцоў—70, шаўцоў—107, будаўнікоў—60, кавалёў—61, калесьнікаў—50, сьлесароў—5, шапачнікаў—4, пячкуроў—52, бандароў—129, загатоўшчыкаў—5, токараў—2, каменьшчыкаў—1, аўчыньнікаў—6; значная частка саматужнікаў раскідана па раёне, а добрая частка жыве ў м. Азарычы, дзе ёсьць саматужніцка-прам. т-ва, якое дапамагае саматужнікам у сэнсе задавальненьня іх неабходнымі матар'яламі і прыладамі.

З мінэральных выкапняў у раёне ёсьць: залежы чырвонае, блакітна-зялёнае гліны, торпу і жалезнае руды; праўда, сталых досьледаў гэтых мінэральных багацьцяў яшчэ не праводзілася. Падрабязна аб іх можна прагледзець матар'ялы, сабраныя краязнаўчым таварыствам і апублікаваныя ў „Нашым Краі“ артыкул: Жалезная руда на Мазыршчыне, А. Крукоўскага ў № 8-9—1926 г. і № 1—1928 г. яго-ж артыкул „Карысныя выкапкі“ (на Мазыршчыне) (Н. Кр. № 8-9. 1928 г.).

---

**Аркадзь Хазанаў.**

# Г. Гарадок Віцебскае акр.

Г. Гарадок—адзін з раённых цэнтраў Віцебскае акругі ляжыць пад 55°28′ паўдн. шырыні і 47°41′ усходняй даўжыні, на абодвух берагох р. Гаражанкі, якая ўваходзіць у вадазбор Заходняй Дзьвіны, на адлегласьці 36 кл. ад Віцебску, 552 кл. ад Ленінграду і 560 кл. ад Масквы.

### Гісторыя.

Покуль што няма пэўных вестак калі заснаваўся г. Гарадок. Арцыбашаў у сваёй працы „Павествование о России“ лічыць, што Гарадок ёсьць тое самае, што і Гарадзец—удзел Полацкага князя Валадара Глебавіча, аб чым гаворыцца ў летапісу пад 1161 г. Але гэтае тлумачэньне іншыя гісторыкі лічаць няправільным. Першыя верагодныя весткі аб Гарадку мы маем у 1650 г., калі ён ужо быў у складзе

Польшчы. З прывілею, які даў кароль Ян Казімер праваслаўным жыхаром на падставе Збароўскага дагавору, мы можам бачыць, што тады ў Гарадку была Ільлінская царква, якую захапілі вуніяты і якую трэба было вярнуць праваслаўным.

Гістарычнае жыцьцё Гарадка было цесна зьвязана з лёсам Езярышча (таксама Віц. акр.), якое было важным умацаваньнем Польшчы, яе аванпостам на мяжы з Масквой. Езярышча некалькі раз разбуралася. Першы раз яго разбурыў Іван Грозны ў часе Лівонскай вайны, але яно было адбудавана. Другі раз яго разбурыў і на гэты раз канчаткова цар Аляксей Міхайлавіч. Польскі ўрад, кіруючыся нейкімі стратэгічнымі меркаваньнямі, перанёс умацаваньне на месца сучаснага Гарадка і пабудаваў яго на ўзвышаным беразе р. Гаражанкі. Да нашых дзён захаваліся руіны гэтага ўмацаваньня. Каля ўмацаваньня і формаваўся гарадзкі цэнтр.

У 1772 г. пры разьдзеле Польшчы Гарадок, як належачы да ўсходняй Беларусі, быў далучаны да Расійскай імпэрыі. Тады, як відаць, і было расформавана ўмацаваньне. З гэтага часу ён знаходзіўся ў складзе Расіі. У 1777 г. Гарадок, як павятовы горад, увайшоў у склад Полацкай губ.,—пазьней намесьніцтва. У 1796 г., калі была створана Беларуская губ., ён застаўся павятовым горадам. У 1802 г. Гарадок стаў павятовым горадам Віцебскай губ.

Па афіцыйных вестках 1780 г. у горадзе было 400 жыхароў (з іх 146 беларусаў, 194 яўрэі) і гандлёвы зварот яго быў 10000 руб. Гарадоцкія купцы гандлявалі з Рыгай. З 1781 г. Гарадок меў гэрб.

Трэба падкрэсьліць такія факты з гісторыі Гарадка за XIX ст.: у 1831 г. была халера, з ліку 123 хварэўшых памерла 15; у 1841 г. быў зацьверджаны плян гораду (копія пляну ад 1863 г. знаходзіцца ў раённым краязнаўчым музэі); 15 траўня 1863 г. Гарадок і яго павет былі абвешчаны на ваенным становішчы з прычыны паўстаньня.

Падзеі 1905 г. адбіліся і ў Гарадку: было наладжана некалькі мітынгаў і пачалі працаваць падпольныя гурткі.

Рэволюцыя 1917 г. ускалыхнула грамадзкасьць: зьявіліся політычныя партыі, з якіх найбольш уплыву меў „Бунд". Пачала выдавацца газэта „Известия Городокского Совета"—усяго вышла 6 №№. Кастрычнікавая рэволюцыя прайшла без перашкод. Толькі 2/VI—1918 г. у горадзе ўспыхнула контррэволюцыйнае паўстаньне. Повадам яго быў дэкрэт аб адлучэньні царквы ад дзяржавы.

4/II—1924 г. Гарадок, згодна пастановы ЦВК РСФСР быў далучаны да БССР.

## Насяленьне.

Паводле перапісу 17/XII—26 г. у Гарадку налічвалася 5516 чалавек, з іх 2592 м. і 2911 ж. Рух насяленьня за шэраг гадоў можна бачыць з наступных лічбаў: 1780 г.—400 чал., 1864 г.—4500, 1897 г.—5023, 1920 г.—6553, 1923 г.—6454 і 1926 г.—5516. Нацыянальны склад насяленьня: яўрэяў 3082 (55,8%), беларусаў 2054 (37,2%), расійцаў 207 (3%), палякаў 75 (1,1%), літоўцаў 57 (1,05%) і іншых 28 (0,5%). Такім чынам, большасьць насяленьня—яўрэі, першая грамада якіх стварылася ў II палове XVIII ст. (Аб гэтым гл. „Всемирную историю евреев" т. XI).

Соцыяльны склад насяленьня згодна перапісу 1926 г. наступны (з агульнага ліку 1507 сямей): сяброў профсаюзаў 840, земляробаў 255,

саматужнікаў 170, гандляроў 164, іншых 78. Такім чынам мы маем 83,9% працоўных сямей.

## Дабрабыт гораду.

Ня гледзячы на малы лік насяленьня, горад мае некаторы дабрабыт. Палова вуліц, ня лічачы перавулкаў, забрукавана. Вуліцы з большага абсаджаны дрэвамі, шмат садоў і гародаў, што робіць горад вельмі прыгожым. У цэнтры гораду ёсьць Гарадзкі сад імя К. Маркса, у ім ёсьць адчыненая сцэна. У горадзе дзьве плошчы— —Чырвоная і пляц Волі. Ёсьць яшчэ брукаваная рыначная плошча і на ёй „Дом Селяніна“. У пажарных адносінах горад таксама абаронены, ёсьць старэйшае ў акрузе Дабравольнае пажарнае т-ва і профэсыянальная каманда. Колькасьць пажараў за апошні час: 1926 г.—13 пажараў і страты 1500 руб.; у 1927 г.—4 пажары і страты 150 руб.

Увесь горад асьветлены электрычнасьцю—з 1918 г. Да гэтага часу ў некаторых мясцох гораду электрычнасьць існавала з 1913 г.

У 1924 г. на р. Гаражанцы была пабудавана новая гідроэлектростанцыя імя Чарвякова ў 50 сіл 220 V. Існуе тэлефонная станцыя з 32 абонэнтамі. Станцыя пабудавана ў 1920 г. Колькасьць кватэр у горадзе 1182. Усяго ўладаньняў 1017. Рост уладаньняў за апошнія гады: 1920 г.—813, 1923 г.—901, 1926 г.—1017. Такім чынам пры зьмяншэньні насяленьня павялічваецца рост уладаньняў, што асабліва прыкметна ў ваколіцах гораду. Комунальных будоў у горадзе 31. У 1926-27 г. г. па бюджэту Гарадзкога Савету на дабрабыт гораду выдаткавана 6489 руб.

## Прамысловасьць.

Буйных прадпрыемстваў няма. Мясцовая прамысловасьць аб‘яднана ў трэст комунальных прадпрыемстваў, які злучае прадпрыемствы: млыноў 2, вальцовы млын 1, лесазавод 1, сукнавальню 1, фарбоўню 1, электростанцыю 1, бойню і кішзавод 1 і лазьню 1. На пералічаных прадпрыемствах працуе 31 рабочы. Прадпрыемствы Комунтрэсту працуюць як на мясцовым, так і на ўвозным сырцу. Вытворчасьць гэтых прадпрыемстваў за 1926-27 г. выявілася ў суме 125513 р. 13 к.

Куды больш за дзяржаўную ў Гарадку мае разьвіцьцё саматужная прамысловасьць. На ўсіх саматужных прадпрыемствах у 1927 г. працавала 258 рабочых. Саматужныя прадпрыемствы разьмяркоўваюцца такім чынам: баранкачных 8, булачных 2, воўначосных 4, вяровачных 1, ганчарных 7, бляшаных і сьлясарных 4, загатоўшчыцкіх 3, цагельных 3, скураных 4, каўбасных 8, калёснай мазі 1, цукерачных 1, кавальскіх 22, мылаварных 2, мукамольных 1, пераплётных 1, плужных 2, кравецкіх 19, рыбалоўных 4, шавецкіх 26, цясьлярных 2, фотографных 1, пачынкі гадзіньнікаў 3, фруктовай вады 1, шклярных 2, шорных 2 і саматужна-прамысловых арцеляй 4.

За апошні час наглядаецца цяга да колектывізацыі, чаму дапамагае Гарадоцкае Крэдытна-прамысловае Т-ва. Цяпер ёсьць такія колектывы: шапачнікаў 8 чалавек, шаўцоў 18, вязальшчыц 13, шорнікаў 5 і швэйнікаў 7 (лічбы на 1/VIII-1928 г.). Увесь зварот колектывізаванай саматужнай прамысловасьці за тэрмін з 1/X-27 г. па 1/VIII—1928 г. быў 57114 р. Саматужныя прадпрыемствы працуюць галоўным чынам на мясцовы рынак.

Прамысловае разьвіцьцё затрымліваецца блізкай адлегласьцю Віцебску, дзе сконцэнтравана ўся буйная прамысловасьць акругі. Між тым каля Гарадку ёсьць значныя заляганьні торфу.

## Гандаль. Коопэрацыя.

Прыватны гандаль, дзякуючы разьвіцьцю сеткі коопэрацыйных крам, скарачаецца. Зварот Гарадоцкага Спажывецкага Т-ва за 1927 г. быў 530535 р. 36 к. Т-ва мае ў горадзе 5 магазынаў і 1 ларок. Усяго пайнікаў 2004, з якіх па горадзе 811 чалавек. Прыватных буйных гандлёвых прадпрыемстваў няма. У горадзе таксама знаходзіцца с.-г. Крэдытнае Т-ва „Земляроб", якое мае па горадзе 99 пайнікаў.

Гандаль ажыўляецца на кірмашох, якія бываюць 4 разы ў год: Мікольскі 19/XII, Красны торг—апошні тыдзень перад калядамі, Зборны кірмаш — канец лютага і Дзевятуха — дзевяты тыдзень пасьля Пасхі. У часе кірмашоў саматужнікі збываюць продукты свае вытворчасьці. У Гарадку ёсьць склад Белгандлю і базісны склад Віцебскага Спажывецкага Саюзу, які забясьпечвае некалькі раёнаў. У гандлёвых адносінах да Гарадку маюць прыцягненьне Межанскі і Езярышчанскі.

## Сельская гаспадарка.

У горадзе ёсьць значная колькасьць земляробаў — 255 сямей. У карыстаньні земляробаў знаходзілася 740,74 дз. ральлі і 547,5 дз. сенажаці. Забясьпечанасьць жывым с.-гаспадарчым інвэнтаром наступная:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| А. | гаспадарак | з 1 канём | у | 1927 г. | 167 |
| | „ | „ 2 „ | „ | „ | 12 |
| | „ | „ без каня | „ | „ | 80 |
| Б. | „ | „ 1 каровай | „ | „ | 167 |
| | „ | „ 2 „ | „ | „ | 55 |
| | „ | „ 3 „ | „ | „ | 5 |
| | „ | без каровы | | „ | 23 |

Параўнальна з 1926 г. плошча ральлі павялічылася на 48,41 дз. У горадзе ёсьць 10 гародных гаспадарак і 11 садаводных, якія продукцыю збываюць і на мясцовы рынак і на вываз. У 1927 г. гарадзкія земляробы заплацілі 3840 р. 78 к. сельска-гаспадарчага падатку. Культурных гаспадарак у горадзе няма і гаспадарка ў большасьці выпадкаў вядзецца вельмі прымітыўна.

## Культурны стан.

Да рэволюцыі ў Гарадку была значная колькасьць інтэлігенцыі, якая вяла культурную працу. Тады тут было „высшее начальное училище" і некалькі пачатковых школ, у якіх вучылася каля 300 чалавек. Пасьля лютаўскай рэволюцыі была заснавана „Общественная Гимназия" і працавала настаўніцкая сэмінарыя, якая пераехала з Дзьвінску. Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ў справе народнай асьветы можна заўважыць рашучы і вялікі пералом. Было заснавана 4 школы 2-ступені, з якіх больш доўгі час праіснавалі 3 школы і Народны Унівэрсытэт, які працаваў пад кіраўніцтвам проф. С. О. Грузэнбэрга. У ліку лектароў быў і пісьменьнік Патапенка. Але гэта ўстанова, якая

зьявілася ў часе рэволюцыйнага ўздыму, існавала кароткі час, ня даўшы ніякіх рэальных вынікаў.

Настаўніцкая сэмінарыя была пасьля рэорганізавана ў двохгадовыя пэдагогічныя курсы, потым у Тэхнікум (1922 г.) і пасьля з прычыны адсутнасьці сродкаў быў зачынены. Перад утварэньнем Гарадоцкага раёну ў горадзе было 2 школы 2-й ступені, у якіх вучылася каля 300 і 5 школ 1-й ступені. Была яшчэ профтэхшкола, заснаваная яшчэ ў 1908 г.

У 1928 г. было 3 школы сямігодкі (з іх адна яўрэйская) і 2 школы прымітыўкі. Усяго вучняў 1175 чал.— 679 хл. і 496 дз. Сямігодкі знаходзяцца на раённым бюджэце, а прымітыўкі на гарадзкім. На апошнія ў 1927-28 г. было выдаткавана 6932 р. Апрача гэтых школ у горадзе існуе і профтэхшкола мэталістых, добра абсталяваная. У гэтай школе 120 вучняў. У Гарадку працуе таксама вячэрняя школа для дарослых і стацыянарная школа палітграматы.

Да рэволюцыі ў горадзе быў так званы „Гражданский клуб“, куды ўваход шырокім масам быў зачынены. У 1918 г. мясцовай організацыяй Бунд быў заснаваны рабочы клюб імя Шалюціна, мясцовага рэволюцыянэра, які памёр у ссылцы. У першыя гады рэволюцыі існаваў клюб Чырвонаармейцаў і клюб моладзі. Цяпер у Гарадку ёсьць 1) рабочы клюб імя Комінтэрну, 2) клюб транспортнікаў, 3) клюб саматужнікаў імя Фрунзэ. Лепш абсталяваны рабочы клюб. Усяго сяброў клюбаў каля 300 чалавек. У Горадзе ёсьць яшчэ Нардом— заля на 500 чалавек — і кіно-тэатр. Першае кіно было адчынена ў 1913 г.

У Гарадоцкай цэнтральнай бібліотэцы ёсьць 4000 кніжак і перасовачны фонд у 1150 кн.— Падпішчыкаў 800 чалаек. Радыё-ўстановак у Гарадку 15.

У горадзе існуе дзіцячы сад (3 групы — дзьве яўрэйскія і адна беларуская) і дзіцячы дом. Пры „доме селяніна“ ёсьць консультацыйнае бюро. „Дом селяніна“ працуе ў контакце з агропунктам і вэтамбуляторыяй. У горадзе актыўна працуюць і дабрахвотныя т-вы — Краязнаўчае т-ва, АСА і Авіяхэм, МТДР, ПН, ТПР, АЗЭТ і іншыя.

## Ахова здароўя.

У Гарадку ёсьць раённая больніца на 25 ложкаў, амбуляторыя пры ёй і рабочая амбуляторыя, што абслугоўвае застрахаваных і аптэка. Амбуляторыя для застрахаваных у 1927 г. абслужыла 3700 чалавек. Пошасных хвароб за апошні час ня было, што тлумачыцца добрым санітарным станам гораду.

## Профсаюзы.

Членаў профсаюзаў у горадзе налічваецца 810 чалавек, якія па саюзах так разьмяркоўваюцца: працзямлі і лесу 151, чыгуначнікаў 131, саўгандльслужачых 119, будаўнікоў 90, працасьветы 78, мэталістых 63, харчавікоў 50, швэйпром 30, гарбароў 34, сувязі 30, нархарч 30, працаўнікоў комунальнай гаспадаркі 23, працмастацтва 14, транспортнікаў 10, мэдсанпрацы 40. Як бачым, адсутнасьць разьвітой прамысловасьці мае ўплыў на склад профсаюзаў і гэтым тлумачыцца малы лік індустрыяльных саюзаў, як напр. мэталістых і інш. і перавага нявытворчых саюзаў.

**Партыйная і комсамольская арганізацыя.**

Парторганізацыя вядзе сваё існаваньне з 1917 г. Цяпер у горадзе ёсьць 3 партыйных ячэйкі з лікам членаў да 80 чалавек. Комсамольская арганізацыя існуе з 1918 г. і мае 4 ячэйкі і адзін колектыў. Усяго членаў ЛКСМБ у горадзе да 80 чалавек.

**Шляхі зносін.**

Праз Гарадок праходзіць Паўночна-Заходняя чыгунка і шаша Ленінград—Кіеў. Ад ст. Гарадок адходзіць лесавозная каляіна даўжынёю ў 17 кіл. на лесазавод Смолаўку. Адпраўленьне кладзі ў Віцебск і назад адбываецца гужовым транспартам па шашы.

---

**І. Мірскі.**

# Лютаўская рэволюцыя ў Магілеве.

Перад Лютаўскай рэволюцыяй 1917 г. Магілеў з яго 100-тысячным насяленьнем зьяўляўся цэнтрам царызму. З восені 1915 г. (8 жніўня) тут была царская стаўка, знаходзілася ўся зграя царскіх генэралаў на чале з ген. Аляксеевым; тут былі ўсе чужаземныя паслы і аташэ, усе вялікія князі, княгіні, іх фрэйліны, міністры і, наогул, добрая палова ўсяе прыдворнае арыстократыі, якая амаль штодзень зьяжджалася сюды на нарады; тут былі раскватараваны ўсе роды войска, „царская ахранка“, падвойны штаб паліцыі і вялікія плоймы „гороховых пальто“. Вось Магілеў таго часу.

Да поўнага малюнку трэба дадаць: частага гасьця стаўкі—Распуціна з царыцай Алісай і фрэйлінай Вырубавай, колёрытную фігуру начальніка дварцовай варты—генэрала Ваейкава, аўтара проекту—абгаленьня Менскага фронту і падаўленьня рэволюцыі пры дапамозе немцаў (гэты плян нават быў уключаны ў абвестку нарады ўсіх выкліканых у Магілеў камандуючых франтамі).

---

Магілеў таго часу быў нэрвам усяе шматмільённае рускае арміі і зьяўляўся цэнтрам увагі тагочаснай Расіі. Тут концэнтравалася ўся перапіска стаўкі з усімі органамі ўлады аб рэволюцыйным руху таго часу, перагаворы па гэтым пытаньні з чужаземнымі пасламі і камандуючымі арміямі, перагаворы з Думой і г. д. Усё гэта абавязвае дакладна ад‘явіць багатую Магілеўскую старонку Кастрычнікавай рэволюцыі.

Мы абмяжуемся пакуль што кароткай экскурсіяй у Магілеў эпохі люты—сакавік 1917 г.

---

У першых лічбах лютага 1917 г., прайшоўшы цэлы шэраг застаў, трайную варту салдат, уваходжу я ў апаратамэнты царадворцаў—чыноўнікаў стаўкі (цяпер будынак Акрвыканкому) і пападаю ў габінэт генэрала Хабалава.

Мэта мая—газэтнае інтэрвю.

Генэрал сказаў мне: „У нас хопіць сіл і магчымасьцяй для адпору... Гэтыя нездаровыя праявы рэволюцыі будуць намі ліквіда-

ваны ў мінімальна кароткі час. Пецярбург будзе ачышчаны ад рэвалюцыйнай муці!“

Гэтыя словы былі сказаны для апублікаваньня ў друку. Моцна была ўпэўненасьць стаўкі ў сваіх сілах. Стаўка акопвалася, адседжвалася ад рэвалюцыі. У Магілеў сьцягваліся лепшыя войскі для адпору рэвалюцыйнай сталіцы, для паходу на яе.

---

Магілеў быў адрэзаным ад жыцьця сталіцы. У дзень 2 сакавіка, калі сталічны гарнізон ужо перайшоў на бок рэвалюцыі і ў Таўрычным палацы засядаў новы ўрад, у Магілеўскім катадрале служылі панахвіду па „убиенном императоре Александре“...

Чыноўнікі стаўкі супакойна шпацыравалі па вуліцах гораду, „гороховыя пальто“ ўважліва абмацвалі вачыма кожнага чалавека, дварцовая варта стаяла на сваіх пастох—чаго-ж болей?

І раптам чутка: „Цар паехаў з „гэоргіеўцамі“ „усмирять рабочых“.

І праўды „георгіеўцы“, якія кватаравалі ў Магілеве і пасьля былі самымі вернымі абаронцамі ўраду Керанскага, у ноч з 28 лютага на 1 сакавіка былі пасаджаны ў вагоны і пад кіраўніцтвам генэрала Іванова накіраваны ў Петраград. З імі быў і Мікалай II. Пад сталіцай георгіеўцы павінны былі злучыцца з іншымі вайсковымі часткамі, якія былі сунуты з фронту паводле загаду стаўкі. Але на станцыі Дно чыгуначнікі затрымалі ўвесь эшалён. Георгіеўцы вярнуліся ў Магілеў. Вайсковыя часткі фронту затрымаліся недзе між Псковам і Магілевам. І рэвалюцыя пачала набліжацца да Магілеву.

Аб „пасажы“ на ст. Дно ў Магілеве гаварылі шэптам, з аглядкай, бо па вуліцах шпацыравалі ў поўным баявым адзеньні царскія ахраньнікі, у горадзе адбывалася концэнтрацыя варожых рэвалюцыі сіл, бязупынна вяліся па тэлефону перагаворы і г. д.

---

4 сакавіка, раніцою, урэшце прышла вестка з Петраграду аб адмаўленьні Мікалая II ад трону. Вайсковая цэнзура затрымала тэлеграму аб гэтым і тэлеграма была выпушчана толькі тады, калі ў Магілеў прышлі сталічныя газэты. Пасьля 4-х дзён маўчанкі з Магілевам загаварыла і Петраградзкае тэлеграфнае Агэнцтва. Яно прыслала ў мясцовую газэту шмат інформацыйных матар'ялаў.

4 сакавіка вечарам адбылося першае пасьлярэвалюцыйнае пасяджэньне Гарадзкой Думы, скліканае для абмеркаваньня палітычнага моманту і пляну чыннасьці ў сувязі з дзяржаўным пераваротам. Думцам-цэнзавіком з прычыны таго, што цара скінулі і стаўку на палавіну абясшкодзілі, няцяжка было правесьці гэтае пасяджэньне пад знакам гарачага спачуваньня рэвалюцыі. Было шмат выступленьняў, якія падкрэсьлівалі вялікі лік ахвяр рэвалюцыі, былі ўшанаваньні памяці загінуўшых рэвалюцыянэраў і г. д.

---

Стаўка ўсё-ж такі была ўпэўнена ў адданасьці ёй вайсковых частак Магілеву. Але рэчавістасьць уверх дном перавярнула ўсе пляны і меркаваньні ўплывовай часткі стаўкі.

Дзень 5 сакавіка быў для Магілеву днём крызісу, калі Магілеўскі гарнізон далучыўся да рэвалюцыі і вышаў на вуліцу з чырвонымі сьцягамі.

На гэтым дні трэба спыніцца падрабязна. Гэты дзень быў нядзеля.

Гарадзкія вуліцы і плошчы былі перапоўнены народам. Настрой насяленьня быў трывожны, ня гледзячы на тое, што Гарадзкая Дума перад гэтым зрабіла шэраг мерапрыемстваў па ахове ў горадзе парадку—было вылучана некалькі сэкцый з надзвычайнымі паўнамоцтвамі. Насяленьне ня мела пэўнасьці ў новым парадку, бо ня ведала настрою баявых частак Магілеву. Трывожныя чуткі насіліся па Магілеву, абываталі выдумлялі недарэчныя факты. „Войска за стаўку! факт!“ гаварылі адны з іх. „І бязумоўна выступяць супроць рэволюцыі!“—гаварылі злосна другія, многазначнаківаючы ў бок яўрэяў, якія баязьліва ціснуліся каля дзьвярэй зачыненых у той дзень крам.

„Ці ёсьць у вас гарантыя, што ў другі раз не паўторыцца 1905 год з усімі яго жахамі?“ пытае нехта на вуліцы. Яму адказваюць: „Канешне, гэта можа ў другі раз быць!“

І раптам... На вуліцах грыміць марсэльеза, узьвіваюцца чырвоныя сьцягі—войска дэмонструе сваё далучэньне да рэволюцыі. Георгіеўцы, бранявыя часьці і іншыя вайсковыя організацыі ідуць па Дняпроўскім проспэкце ў кірунку Сянной плошчы, дзе павінен адбыцца першы мітынг, у кірунку да турмы, дзе сядзяць палітычныя вязьні—салдаты, якія ня вытрымалі царскай муштры і былі засуджаны за аслушэнства. Маніфэстацыя была вельмі магутная. Цэлы лес сьцягаў! Чырвоныя стужачкі на штыхох, чырвонымі палотнамі задрапіраваны бранявікі... За бранявікамі плыве безьліч аўтомобіляў, таксама ўпрыгожаных чырваньню, а за імі шмат гарадзкога насяленьня з радаснымі, усхваляванымі тварамі. Крыкі „ура“...

---

Войска з народам... Гэта выклікала на вуліцу дзесяткі тысяч людзей. Вайсковыя часьці павольна ідуць і часта спыняюцца. Тады ўзьлезшы на дрэвы ці на іншыя імпровізаваныя трыбуны кажуць прамовы аратары. У адказ гулкае „ура“, марсэльеза, абяцаньні салдат абараняць рэволюцыю...

---

Супакоіўся горад. А праз некалькі дзён у Магілеў прыехалі ўпаўнаважаныя Дзяржаўнай Думы Бублікаў і інш. і арыштавалі Мікалая.

---

**І. Сяржанін.**

# Аб рэдкай саве ў Любаньскім раёне Бабруйскай акругі.

20 сьнежня 1928 г. у аднэй з ваколічных вёсак недалёка ад м. Любані мы набылі жывы экзэмпляр вельмі цікавай і рэдкай савы (Strix flammea L.)[1]). Гэтая сава, ня ў прыклад іншых нашых соў, вельмі зграбна, прыгожа пер‘ем і мае своеасаблівы дыск твару. Гэтым дыскам яе лёгка распазнаць і адрозьніць ад іншых відаў соў нават мала сьвядомаму ў орнітолёгіі даследьчыку. Да гэтага часу саву Strix flammea не ўдавалася знайсьці ў нашым краі і аб ёй прыходзілася гаварыць толькі гадальна, ведаючы, што ў прымежных з Беларусьсю краінах — Польшы і Украіне гэтая сава больш-менш сустракаецца. Так, напр., праф.

---

[1]) Гэтая сава перададзена мною ў Зоолёгічны Музэй Беларускае Акадэміі Навук і цяпер яшчэ жыве.

А. В. Фядзюшын у сваёй працы „Материалы к изучению птиц восточной Белоруссии“ на стар. 52 кажа: „сава гэта (сипуха) можа быць адшукана ў межах Рэчыцкай акругі пры больш энэргічных досьледах, бо ў суседняй Украіне, у (губ. Чарнігаўскай і Кіеўскай яна больш-менш звычайна“. В. Н. Шнітнікаў у працы „Птицы Минской губ. 1913 г.“ прыводзіць нават выпадак кладкі савы ў б. Пінскім павеце. Проф. М. А. Мензбір лічыць яе звычайнай для Польшчы і нават лічыць магчымым гнедзаваньне яе ў былой Курляндыі, але не далей на поўнач. Такое паўночнае распаўсюджаньне гэтай савы ў цэнтральнай Эўропе Мензбір тлумачыць цёплай плыньню Гольф‘штрому, які вельмі моцна ўплывае на клімат Эўропы, робячы яго мяккім і роўным, даючы гэтым магчымасьць для савы ўзьнімацца да такой шырыні, як Літва. Наогул-жа сава, трэба сказаць, птушка трапічная, любіць месцы з роўным кліматам і паўсюды лічыцца бязумоўна аселай птушкай. Размнажэньне гэтай савы бывае ў красавіку месяцы. Яна кладзе ад 4 да 7 штук белых яечак. Спэцыяльнага гнязда вельмі часта і ня робіць, а часта кладзе дзе-небудзь на зломаным пні, на дошках ці камнях, у карнізах дахаў, званіц і г. д. Каб яечкі ня падалі, яна абкладае іх пагадкамі[2]). Праз два тыдні выходзяць птушаняты. Вельмі часта ў адным гнязьдзе можна знайсьці яйкі рознай ступені наседжанасьці. Так орнітолёгом Зібам у адным гнязьдзе былі знойдзены зусім сьвежыя яйкі, толькі што вылупленыя птушаняткі і птушаты, якія маглі лятаць. Тлумачыцца гэта тым, што наседжваньне ў гэтай савы адбываецца з самага пачатку кладкі. Сваіх птушанят гэтыя совы кормяць ды і самі кормяцца living рознымі жукамі, пацукамі, мышамі. Гомэйер, напрыклад, каля аднаго гнязда савы знайшоў каля паўгарца мёртвых мышаў, а Альтум, дасьледуючы 700 штук пагадак, знайшоў у іх рэштк 16 пацукоў, 2513 мышаў, 1 крата і 22 птушак. Сярод птушак больш усяго было вераб‘ёў. Сваю здабычу совы ловяць вельмі лоўка, што відаць з факту знаходкі адным орнітолёгам каля гнязда савы 20 толькі што злоўленых пацукоў.

У няволі сава жыве добра і хутка звыкаецца з акаляючымі ўмовамі. Так, напрыклад, набытая мною сава, калі я пасадзіў яе ў клетку, першы час моцна білася; карміць яе прыходзілася гвалтам. На другі дзень яна ўжо сама брала ежу з дна клеткі, а яшэ праз дзень вольна брала мяса з рук і толькі выяўляла некаторы непакой у начны час, будучы негалоднай. Цікава яшчэ падкрэсьліць адну рысу характару савы—гэта яе адносіны да некаторых хатніх жывёл. На працягу сямідзённага прабываньня ў мяне я паказваў ёй альбо сабаку альбо ката. У першым выпадку яна ціснулася ў куток клеткі, альбо зусім не звярочвала ніякай ўвагі на сабаку. Пабачыўшы ката, яна нават на далёкай адлегласьці (7—10 крокаў) пачынала сіпець, спушчала крыльля і шчоўкаючы дзюбай, варочала галавой з шырока адчыненымі вачыма то ў адзін, то ў другі бок.

Калі-ж ката падносілі да самай клеткі, такія паводзіны савы значна ўзмацняліся і яна кідалася на сьценку клеткі, хочучы ўдарыць ката, альбо клалася на сьпіну, думаючы такім чынам ляпнуць ката лапамі. Усякае зьяўленьне ката настолькі раздражняла саву, што яшчэ доўга пасьля яго адыходу яна не магла ніяк супакоіцца і сіпела, выробляючы розныя крыўлянньні. Такія розныя адносіны да гэтых жывёл

---

[2]) Пагадкамі называюць нестрававаныя рэшткі кузурак, птушынага пер‘я воўны і інш. якія час ад часу адрыгваюцца праз рот вон.

тлумачацца, як відаць, тым, што на такіх жывёл як кот, сава яшчэ можа нападаць.

Абагульняючы ўсё сказанае, неабходна падкрэсьліць, што знайшоўшы саву ў Бабруйшчыне, мы папоўнілі наш орнітолёгічны сьпіс яшчэ адным новым для Бабруйшчыны відам савы. Неабходна падкрэсьліц і тое, што сава ў нас вельмі рэдкая птушка і корміцца жукамі, пацукамі, мышамі і інш. шкоднікамі сельскай і лясной гаспадаркі. Яна прыносіць нам, такім чынам, карысьць і заслугоўвае не прасьледваньня, а поўнай ахове і ўвагі.

---

**Сьпіс выкарыстанай літаратуры.**

1. Проф. А. В. Федюшин. Материалы к изучению птиц восточной Белоруссии.
2. В. Н. Шнитников. Птицы Минской губ. 1913 г.
3. Н. А. Холодковский и А. А. Силантьев. Птицы Европы.
4. Проф. М. А. Мензбир. Птицы 1904—1909 г.
5. Проф. А. В. Федюшин. Конспект лекций по фауне Белоруссии, читанных на естественном отделении педфака БГУ. 1928 г.

---

В. Самцэвіч.

# Рысы новага быту ў сучаснай народнай поэзіі в. Забашавічы Барысаўск. р.

Забашавічы—вялікая вёска з беднымі, пахіленымі ад старасьці хатамі. Ляжыць яна ў далёкім паўднёвым кутку Барысаўскага раёну ў адлегласьці 27 клм. ад г. Барысава. Насельніцтва займаецца амаль выключна земляробствам, зімой займаецца лесараспрацоўкамі, возкай ляснога матар'ялу. Слаба ўгноеная зямля родзіць дрэнна. Гаспадары жывуць бедна, свайго хлеба не хапае. Але, ня гледзячы на ўсю сваю беднасьць насельніцтва вёскі мае вялікае імкненьне да асьветы, культуры. У вёсцы ёсьць школа-сямігодка, праўда, яшчэ няпоўная (5 гр.), дзіцячы сад. Сямігодка ў вёсцы адчынілася ў значнай меры пад напорам саміх сялян. Ёсьць у вёсцы сел.-гаспадарчая і спажывецкая копэрацыя, радыё; працуюць грамадзкія організацыі. З значным аўторытэтам сярод сялян і культурных працаўнікоў вядзе сваю працу ячэйка КПБ. Праца ячэйкі, комсамольцаў, настаўнікаў і перадавой часткі насельніцтва на працягу некалькіх год падрад вялася дружна, энэргічна. Сумесна, часамі ў глыбокія ночы, распрацоўваліся пытаньні сельсавету, коопэрацыі, культасьветай працы. Часта ставіліся спэктаклі для насельніцтва ня толькі сваёй вёскі, а і для ваколічных вёсак, нават у Барысаве. Быў драматычны гурток, які працаваў пад кіраўніцтвам і пры шчырым удзеле мясцовых настаўнікаў т. т. Маслоўскага і Пашкевіча. Быў добры школьны і па-зашкольны хор, які досыць добрым выконваньнем папулярызаваў на Барысаўшчыне беларускую песьню, калі ў іншых мясцох, нават у Барысаве, беларускую песьню (да 1925 г.) можна было пачуць толькі выпадкова.

Цяпер у Забашавічах маецца, здаецца, толькі школьны хор. І зусім ня дзіва, што ў Забашавічах вясковая моладзь любіць сьпяваць рэволюцыйныя, бытавыя песьні, прыпеўкі. І ня толькі сьпявае прыпеўкі, а і складае іх, адбіваючы ў гэтых кароткіх слоўна-сьпеўных творах насла-

еньні новых форм жыцьця і быту. Новае жыцьцё нясупынна ідзе ўперад, ламае і крышыць стары быт, устанаўлівае новыя ўзаемаадносіны сярод самае моладзі, між старым і новым пакаленьнем, між членамі сям'і. Патос новага жыцьця, бадзёрага, сьветлага і радаснага, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці будаўніцтва новага ладу, захапляе моладзь, якая свае настроі і погляды і выказвае ў форме прыпевак-частушак [1]).

Комсамол—перадавы атрад рабоча-сялянскай моладзі. Ён арганізуе і вядзе рабоча-сялянскую працоўную моладзь на змаганьне за лепшую будучыну. І зусім зразумела, што ідэалы сучаснай вясковай моладзі сьвядома ці падсьвядома зьвязваюцца з задачамі комсамолу. Гэта адбіваецца ў вясковых частушках. Адчынены сход вясковай комсамольскай ячэйкі зацягнуўся. Ноч. Радасна сустрэў чырвона-бляды месяц моладзь, калі яна вышла з хаты-чытальні. Бадзёры настрой беспартыйнай дзяўчыны выліваецца ў частушку.

Ах, ты, лунушка, луна,
Сьвяці лунушка дыа-ньня,—
Камсамольскыая ячэйка
Скора будзя мне рыадня [2]).

Аб уступленьні ў комсамол мараць дзяўчаты і ў час хатняй працы:

Я сядзела ныа канапеі,
Ткала тонкі пыаясок;
Запішуся ў камсамолкі,
Дадуць ленінскі значок.

Моладзь цягнецца да навукі, вучыцца ў школах, „грызе“ навуку, але гэтага мала, мала аднае вучобы,—моладзі патрэбны яшчэ комсамольскія сходы, дзе закранаюцца і абгаварваюцца жыцьцёва-практычныя пытаньні, дзе зьбіраюцца энэргічныя, а таму і дарагія, блізкія сэрцу таварышы:

Скон'чу, скон'чу я вучыцца,
Буду камсамолыачка;
Я паеду на сабраньне,
Дзе працуе (мой) Вовыачка.

Бацькі яшчэ скосу і недаверліва паглядаюць на комсамольцаў і часамі ня рады сяброўству сваіх дзяцей з комсамольцамі, але моладзь і ў вёсцы ўжо стараецца вырвацца з-пад апекі бацькоў і сама стараецца выбіраць сабе сяброў. Бацькі крывяцца, але змушаны ўступаць настойлівым „просьбам“ дзяцей:

Ныадаела мне страданьне,
Пайду польку тыанцаваць.
Разрыашы-ка мне, мамаша,
З кыамсамольцамі гуляць.

---

[1]) Ніжэй паданыя частушкі запісаны ў 1927 і 1928 г. па маёй просьбе вучаніцамі Барысаўскіх агульна-адукац. курсаў *М. Дунаевай* і *А. Дзямідчык* (з в. Забашавічы) у час самых сьпеваў частушак вясковай моладзьдзю.

Запісы рабіліся, па магчымасьці, паводле мясцовай фонэтыкі.

[2]) Азначэньне галосных гукаў знакамі: ыа, яе, еі паказвае нявыразнасьць вымаўленьня гэтых гукаў; у жывой мове яны вымаўляюцца як нейкі сярэдні гук між а-ы, я-е, е-і.

Так, сябраваць лепш і прыямней з комсамольцамі — найбольш энэргічнай, жыцьцярадаснай і бадзёрай моладзьдзю,—але вось, калі паўстае пытаньне аб выхадзе замуж, вясковыя дзяўчаты задумваюцца і вырашаюць пытаньне парознаму. Адна радуецца:

На дварэ стаіць каліна,
А ў лясу сасоныачка,
Мой муж—кыамсамол,
А я кыамсамолыачка.

Такая жанчына робіць свой выбар сьмела і рашуча. Ёй патрэбен чалавек, які мае пэўныя задачы і пляны ў грамадзкім жыцьці; на багацьце яна ня галіцца, і таму на ўсякія ўгаворы аб выгадах багатага жыцьця, аб прыемнасьці мець хату з корыдорам, хадзіць у пекным убраньні і інш. яна рашуча адкажа больш багатаму прэтэндэнту:

Ні хадзі па калідоры,
Ні стучы падборамі,—
Нія й ньцірыасуюсь я табою
Твайімі разгаворамі.

Але ёсьць і такія, якія для сваіх карысных выгад думаюць хаця на тры гады прывабіць якога-небудзь паважнага комуніста. Для гэтага трэба добра адзявацца ды і не забываць пра чырвоны бант.

Я надзену бела плацьця,
Красны баньцік прычаплю,—
Хоць якога камуніста
На тры годы заўляку.

Такія прывабы часамі ўдаюцца, і комуністы робяць памылкі. Агледзеўшыся, стараюцца выправіць іх, бяруць развод і інш. Мяшчанка-прывабніца абураецца:

Дайцея наганчын, дайцея пулю,
Дайцея пулю медную,—
Я застрэлю свайго мілога
За любоў няверную.

Рэлігійныя забабоны сярод моладзі зжываюцца пад уплывам комсамолу. Моладзь рашуча парывае з царквой, ня гледзячы на протэсты (часамі досыць пасыўныя, для віду) з боку бацькоў, і ўступаюць у комсамол. Дзяўчына заяўляе матцы:

Ні пайду, мамаша, ў цэркву,
Я ні быагамолыачка;
Пыадам заяву я ў ячэйку,
Буду кыамсамолыачка.

Адгукнулася вёска частушкай і на лёзунг культурнай рэволюцыі.

Эй, далоў безграматнасьць,
Даёш ліквідацыю,—
Пра саветы мы узнаім,
Дальш пра капірацыю.

Зафіксавана частушкай і ўстаноўка ў вёсцы радыё:

На дварэ йдзе дождж,
Вазьму парасонік,
А ў Забашвічы прыявялі
Радзіёпрыёмнік.

Пашырэньне тэхнікі, сувязь гораду з вёскай—зьявы, бязумоўна, вельмі цікавыя для вёскі. Аб дасягненьнях тэхнікі вёска ня толькі чуе, але яна гэтыя дасягненьні і бачыць сваімі вачамі, яна ўжо імі карыстаецца. Пашырэньне тэхнікі зьвязваецца з буйнымі прамысловымі савецкімі цэнтрамі, як, напр. Масква:

Каб ды *ні* было зямлі,
Ні был*о*-б і глобуса,
Каб ды *ні* было Масквы,
Ні был*о*-б аўтобуса.

Недахопы ў працы мясцовых савецкіх і культурных працаўнікоў таксама знаходзяць крытыку ў частушках, напр.:

Аграном, аграном,
Як табе ня стыдна:
Усе яблыкі пакралі,
А цябе ня відна.

Шпарка ідзе ўперад па шляху культурнага і гаспадарчага будаўніцтва наша беларуская вёска пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі і Савецкай улады. Ідзе пасьпяховае змаганьне новых форм жыцьця і быту з старымі звычаямі. Гэтае новае своеасабліва ўпрыймаецца вёскай, пераважна моладзьдзю, і знаходзіць сваё выяўленьне ў частушках і іншых відах слоўнай народнай творчасьці. Вывучэньне сучаснай слоўнай творчасьці народу ня менш патрэбна, чым і творчасьці мінулых часоў. Яе трэба сабраць і запісаць.

## ПАПРАЎКА.

У № 3 (42) „Нашага Краю“ ў артыкуле „м. Койданава“ стар. 42 радок 7 зьверху трэба чытаць не „Даўнары Міхась, Іван, Казімір“, а „Даўнары Франак, Іван і Казімір“.

# ХРОНІКА.

## Бабруйская Акруговая Краязнаўчая Нарада.

5 і 6 красавіка 1929 году ў Бабруйску адбылася акруговая краязнаўчая нарада. У працы нарады прымала ўдзел 16 чал., пераважна дэлегатаў ад раённых таварыстваў краязнаўства. Былі абмеркаваны даклады: „Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства за апошнія два гады“ — М. І. Касьпяровіча, „Справаздача Праўленьня Акруговага Таварыства Краязнаўства“—Таўкачова, „Чарговыя задачы краязнаўства на акрузе“ — яго-ж. З дакладаў і спрэчак высьветлілася, што краязнаўчая праца ў некаторых раёнах (Слуцкім, Рагачэўскім) значна вырасла, а ў некаторых (Клічаўскім) заняпала, як і ў самым Бабруйску. У спрэчках выказаліся ўсе дэлегаты, зрабіўшы разам інформацыю аб працы сваіх організацый. Такім чынам былі заслуханы і як-бы даклады з месц.

У выніку працы была прынята наступная рэзолюцыя па ўсіх дакладах:

І. Заслухаўшы даклад аб дзейнасьці ЦБК, Акрпраўленьня, Рагачэўскага Раённага Т-ва і Слуцкага, Бабруйская Акруговая Нарада адзначае: а) разам з ростам гаспадарчых і культурных дасягненьняў у справе соцыялістычнага будаўніцтва беларускі краязнаўчы рух на працягу апошніх двух год значна пашырыўся організацыйна, узмацніўся ў галіне апанаваньня мэтодыкай краязнаўства і дасягнуў прыметных вынікаў у справе непасрэднага дасьледваньня паасобных раёнаў БССР, якое ў большасьці скарыстана гаспадарчымі і культурна-навуковымі ўстановамі ў сваёй бягучай працы. б) Пры гэтым побач з узорнай працаю некаторых акруговых і раённых краязнаўчых організацый наглядаецца неўмацованасьць і нават адсутнасьць краязнаўчай працы ў некаторых раёнах БССР. в) Прыватна ў Бабруйшчыне амаль ува ўсіх раёнах к часу нарады Краязнаўчыя Т-вы організацыйна аформіліся, а Рагачэўскае і Слуцкае Раённыя Т-вы К-ва дасягнулі цалкам здавальняючага ўзроўню ў справе разгортваньня масавай краязнаўчай працы, Асіпавіцкае Раённае Т-ва К-ва ў справе тэматычнага дасьледваньня раёну і апублікаваньня яго вынікаў, а Праўленьне Акруговага Т-ва К-ва пасьля часовага заняпаду, выкліканага неорганізаваным выездам адказных працаўнікоў Праўленьня, распачало далейшае пляніраваньне далейшай працай па акрузе.

ІІ. Для ліквідаваньня недахопаў сучаснага стану к-ва на акрузе і зьнішчэньня перашкод для далейшага разьвіцьця яе Нарада прапануе: а) Організацыйна ўмацаваць рабочую частку Прэзыдыуму Праўленьня коопатаваньньнем патрэбных работнікаў. б) Пашырыць і паглыбіць сувязь Праўленьня Акруговага Т-ва К-ва з акруговымі савецкімі ўстановамі і організацыямі (АВК, Статбюро, Акрпрофсавет, Акрплян, Саюз П. З. і Лесу і г. д.), асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на заснаваньне сталай сувязі з Акрпраўленьнем Саюзу Працасьветы, якое да гэтага часу не зварочвала ніякае ўвагі на разгортваньне краязнаўчай справы, як база вытворчай працы асьветаўцаў. в) Распачаць сталую працу ў справе заснаваньня належнай грамадзкай думкі навокал краязнаўчай справы ў горадзе і акрузе, а таксама ўзмацніць краязнаўчыя організацыі ў горадзе і на раёнах марксысцкімі сіламі. г) Зьнішчыць адарванасьць акруговага музэю ад Праўленьня Т-ва К-ва і прыцягнуць Заг. музэю да сталай актыўнай працы ў складзе Прэзыдыуму. д) Дамагчыся ад АВК грашовай дапамогі для працы Праўленьня ў бягучым акадэмічным годзе і сталага каштарысу з наступнага бюджэтнага году, а таксама дапамагчы Раённым Т-вам атрымаць грашовую дапамогу ад РВК. е) Правесьці перападлік Членаў краязнаўчых організацый, у якіх ён яшчэ не праведзены, разам з гэтым зьнішчаючы запазычанасьць членскіх адлікаў, а таксама ўзмацніць сувязь раённых організацый з Акрпраўленьнем. э) Акрпраўленьню і Раённым Т-вам К-ва распачаць сталае папулярызаваньне сваіх дасягненьняў праз газэту „Камуніст“; побач з гэтым ставіць даклады аб краязнаўчай справе ў савецкіх установах і організацыях. ё) Акрпраўленьню і Раённым Т-вам К-ва распачаць выкананьне сваіх плянаў, уласна-краязнаўча-дасьледчай працы. ж) Узмацніць кіраўніцтва гурткамі пры навучальных установах, а таксама працу Сэкцый гарадзкіх

організацый. дж) Слуцкаму і Рагачэўскаму Раённым Т-вам К-ва апублікаваць свае працы, а Акруговаму Праўленьню сабраць усе матар'ялы для зборніка „Бабруйшчына“, зрэдагаваць іх і апублікаваць у гэтым бюджэтным годзе. з) Дамагчыся задавальненьня ўсіх культасьветных устаноў мэтодычна-краязнаўчай літаратурай і ў першую чаргу зборнікам „Бабруйшчына“, шляхам закупкі яе па бюджэтах РВК. дз) Узмацніць кампанію па зборы падпіскі на часопіс „Наш Край“, узяўшы напрамак хаця-б на кожнае падраённае настаўніцкае аб'яднаньне. і) Практыкаваць агульнагарадзкія краязнаўчыя конфэрэнцыі з членаў краязнаўчых організацый і мас нагул. й) Для разгортваньня краязнаўчай справы сярод школьнай моладзі практыкаваць вучнёўскія краязнаўчыя конфэрэнцыі. к) У восень склікаць чарговую Акруговую Краязнаўчую Конфэрэнцыю, прычым паклапаціца стварэньнем у горадзе шырокага краязнаўчага актыву, не адмаўляючыся ад вылучэньня ў Акруговае Т-ва выявіўшых сябе краязнаўцаў на раёнах пры дапамозе пераводу іх Акрінспэктарыятам на працу ў горад. л) Асаблівую ўвагу зьвярцуць у сваёй дасьледчай працы на вывучэньне фактараў падняцьця ўраджайнасьці і пачаткаў у справе колектывізацыі на раёнах. м) Даручыць Акрпраўленьню выпрацаваць плян працы, унёсшы 2-3 заданьні ўдарнага значэньня на бліжэйшы час. н) Даручыць Акрпраўленьню прыняць актыўны ўдзел у васеньняй конфэрэнцыі Інспэктароў Асьветы і Загадчыкаў сямігодак. о) ЦБК паклапаціцца аб задавальненьні краязнаўчых організацый фото-прыладамі.

Неабходна адзначыць, што нарада ня была популярызавана нават праз мясцовую газэту. Прыкрае ўражаньне ўтварае поўная адарванасьць Бабруйскага краёвага музэю ад працы таварыства краязнаўства. Да таго музэй сам не вядзе краязнаўчай працы і як краязнаўчы мае вельмі шмат буйных недахопаў.

## Дробныя навіны.

### У аддзеле прыроды і гаспадаркі БАН.

Надрукаваны І т. „Запісак Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі (18¼ друк. аркушоў), у якім зьмешчаны артыкулы: проф. Афанасьсева Я.—Да пытаньня аб акрыцьцёвых пародах зах. часткі СССР; проф. Ф. В. Люнгерсгаўзэна — Кароткая справаздача аб маршрутных геолёгічных дасьледваньнях паўн. Беларусі ў 1925 г.; проф. Б. К. Тэрлецкага — апісаньне адкладаў крэйдавае сыстэмы ў Менскай акрузе; проф. Скандракова—Вэгетацыйныя досьледы з беларускімі фосфарытамі ў 1926 і 1927 г.; М. Савіцкага—Вынікі палёвых досьледаў з угнаеньнямі на Меншчыне; проф. А. Шчапоцьцева—першая беларуская плянктонная эспэдыцыя; проф. Л. П. Розанаў — Да фізыолёгіі дражджавога бушаваньня; проф. А. Фядзюшын. — Заметка аб летняй орнітофаўне воз. „Князь“; П. В. Трамповіч.—Папярэдняя справаздача партыі для дасьледваньня курортных мясцовасьцяй Беларусі; рэфэраты і бібліографія.

Заканчваецца друкаваньне ІІ т. „Запісак Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі“, у якім надрукаваны артыкулы: проф. Л. П. Розанава—Электрамэтрычны і індыкаторны мэтоды вывучэньня концэнтрацыі вадародных іонаў; І. К. Ярашэвіча і У. М. Пілько—Аб глебах Койданаўскага, Узьдзенскага, паўд. часткі Заслаўскага і зах. часткі Самахвалаўскага раёнаў Менск. акр.; А. А. Поллана.—Аб расьлінах-альбіносах у Беларусі; А. Дзямідовіч-Засьмечанасьць палеў Самахвалаўскага раёну; П. В. Трамповіча—Да пытаньня аб асяродзьдзі мязгавых органаў у норме і пры атручваньні наркотычнымі матэрыямі; Е. С. Руткоўскага—Шляхі разьвіцьця саматужнага ткацтва ў БССР; Р. П. Рак—Народнае ткацтва Бабруйскай акругі; В. Я. Вяршук—Прыродныя фарбы Беларусі; рэфэраты, хроніка.

Падрыхтавана і распачата друкаваньне ІІІ т. „Запісак Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі“, дзе будуць зьмешчаны матар'ялы па гэльмінтолёгіі, антраполёгіі, прамысловасьці і г. д.

Надрукаваны ІІ т. „Матар'ялаў да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі“ ($10^3/_4$ арк.), у якім зьмешчаны матар'ялы: А. Фядзюшына—Да біолёгі і распаўсюджанасьці бабра ў БССР.; М. Дабратворскага — Матар'ялы да пазнаньня фаўны чмялёў Беларусі; В. І Пералешынай—Матар'ялы да пазнаньня фаўны павукоў Беларусі; О. Полянская — Аб географічным разьмяшчэньні расьліннасьці Беларусі; О. Полянская — Расьліннасьць Калінінскае акругі; О. Палянская—Расьліннасьць Віцебскае акругі; Н. Савіч—Папярэдняя справаздача аб геоботанічным абсьледваньні Менскай акругі ўлетку 1928 г.; М. Прахін – Папярэдняя справаздача аб геоботанічных дасьледваньнях у Аршанскай акрузе ўлетку 1927 г.; Н. Савіч—Папярэдняя справаздача аб геоботанічных дасьледваньнях у Рэчыцкай акрузе ўлетку 1927 г.; проф. А. Фядзюшын--Справаздача аб экспэдыцыі для вывучэньня фаўны ўсх. часткі БССР улетку 1925 г.; А. Фядзюшын—Справаздача аб фаўністычных дасьледваньнях на р. Прыпяці і воз. Князь улетку 1926 г.; І. Аучыньнікаў — Матар'ялы да пазнаньня малякофаўны Мазырскай акругі; Б. І. Федарака—Вынікі фаўністычнай экскурсіі на поўдзень Бельск. павету, Смаленск. губ.; С. В. Кірыкаў—Ardeola ralloides Scop. у Смаленскай губ.

Выходзіць з друку ІІІ т. „Матар'ялаў да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі“, у якім надрукавана праца Н. Савіч—Вынікі геоботанічных дасьледваньняў у Магілеўскай акрузе ўлетку 1925 г. Зданы ў друк IV т. „Матар'ялаў да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі“.

Вышаў з друку І т. „Матар'ялаў да географіі і статыстыкі Беларусі“ ($13^1/_2$ арк.), у якім надрукаваны артыкулы: Г. Гарэцкага—Межых. За Беларусі ў Польшчы; Арк. Бы-

кава—Грашовы балянс сялянскай гаспадаркі Беларусі; М. Азбукіна—Паселішчы гарадзкога тыпу ў БССР. Падрыхтаваны матар'ял да II т. „Матар'ялаў да географіі і статыстыкі Беларусі" і хутка будзе здадзены ў друк.

— *Катэдра Глебазнаўства* падрыхтоўвае да друку нарысы глеб Аршанскай, б. Барысаўскай, Менскай акруг (проф. Афанасьсеў, П. Рагавы, П. Кучынскі) з глебавымі картамі. Проф. Афанасьсеў рыхтуе да друку артыкул „Основные черты почвенного лика земли" з дадаткам „Место Белоруссии в общей системе почвенных зон земного шара" з малюнкамі і картамі.

— *Катэдра географіі* супольна з Навукова-Дасьледчым Інстытутам імя Леніна апрацоўвае матар'ялы да дробнага сел.-гаспадарчага раёнаваньня БССР.

Проф. А. Смоліч заканчвае ўкладаньні дэзымэтрычнай карты БССР.

Катэдра падрыхтоўвае матар'ялы да выданьня Географічнага слоўніка Беларусі; сабрана вялікая колькасьць матар'ялу, зроблены выпіскі з пяці тамоў Польск. Географ. слоўніка, з „Нашага Краю" і г. д.

У чэрвені месяцы Катэдра мае склікаць Географічную конфэрэнцыю з удзелам выкладчыкаў географіі ў школах сярэдняга і вышэйшага тыпу для абгаварэньня пытаньняў выкладаньня географіі ў школе і азнаямленьня з апошнімі дасягненьнямі ў галіне географіі.

— Катэдра Антрополёгіі праводзіць антрополёгічнае дасьледваньне чырвонаармейцаў тэрчасьцей г. Менску, а таксама будзе працягваць дасьледваньне студэнцтва БДУ.

— Цэнтральная Хэмічная лябораторыя вывучае прыродныя фарбы Беларусі. Значныя матар'ялы ў гэтай галіне надасланы мясцовымі краязнаўчымі організацыямі.

*Кляса Гісторыі БАН.* У бягучым акадэмічным годзе на пасяджэньнях Калясы заслуханы наступныя даклады: А. М. Ясінскага —Сярэднявечныя зямельныя надзелы чэскіх сялян, Даклады на конгрэсе ў Осла па пытаньнях мэтоду і сярэднявечнай гісторыі агульнай і літоўска-беларускай. Аб неабходнасьці выданьня Літоўскай Мэтрыкі. Два словы аб волатах. Белая Русь—папярэдняя нататка аб тым, калі ўзьнікла і што азначае гэтая назва.

У. У. Пічэты: Беларуская гісторыяграфія за апошнія 10 гадоў,

В. Д. Дружчыца: Кіраўніцтва на Беларусі мест з майдэборскім правам,

Д. І. Даўгялы: Магілеўскі купецкі дом у 1681—1685 годзе,

А. В. Бурдзейкі: Прыказ вялікага княства Літоўскага,

Н. М. Нікольскага: Аб пахаджэньні юбілейнага году,

А. І. Цьвікевіча: Спроба характарыстыкі становішча Беларусі ў 80-х—90-х гадох XIX ст.,

*Катэдры Археолёгіі:* Аб археолёгічнай дзейнасьці на Беларусі за апошнія 10 гадоў.

Даклады, якія заслуханы на пасяджэньнях Клясы і паасобных камісіях у бягучым акад. годзе і надрукованы ў запісках клясы, якія рыхтуюцца да выпуску:

Любаўскі М.—Літва і славяне ў іх узаемаадносінах у XI—XIII стагодзьдзі,

Таўсталес А.—Права сямейнае паводле Літоўскіх статутаў. (Нарыс да гісторыі старажытнага Беларуска-Літоўскага грамадзянскага права.),

Гембіцкі Я.—Да пытаньня аб соцыяльна-экономічным стане беларускіх татар у сярэднявечча,

Ясінскі А.—Пісар Б. Кн. Казіміра Васіль Паўлавіч Любіч, як прадстаўнік буйнога земляўладаньня XV стагодзьдзя. (Нарыс да гісторыі буйное земляўласнасьці на Беларусі),

Забела Т. — Места Берасьцейскае ў XVI стагодзьдзі. (Соцыяльна-экономічны нарыс).

Кернажыцкі К.—Брожаскі ключ 1639—1810 г. (Соцыяльна-экономічны нарыс з гісторыі Бабруйшчыны).

*Латыская Камісія БАН* рыхтуе ніжэйпададзеныя працы па дасьледваньні латыскіх колёній у БССР.

Для гістарычнага зборніка БАН рыхтуецца гістарычны нарыс на тэму: „Перасяленьне латышоў у БССР і сумежныя ёй губэрній". У гэтым нарысе будуць высьветлены прычыны перасяленьня латышоў і процэс утварэньня латыскіх колёній. Аутар нарысу— —К. Шкільтар.

Рыхтуецца кніга на латыскай мове: „Сельска-гаспадарчая экономіка і аграрныя адносіны ў латыскіх колёніях". Тут будзе высьветлена аграрнае пытаньне ў Латвіі ў другой палове XIX стагодзьдзя, які выклікаў перасяленчы рух і аграрныя адносіны пасьля перасяленьня ў новых мясцох. Крызіс цяперашняй хутарскай гаспадаркі і пераход да колектыўных форм сельскай гаспадаркі. Аўтар гэтай працы К. Шкільтар.

Латкамісія паднімае пытаньне ў прэзыдыўме БАН аб дазволе наладзіць першую навуковую экспэдыцыю ў латыскія колёніі Віцебскай акругі для дэталёвага вывучэньня экономічных і ідэолёгічных процэсаў у гэтых колёніях. Вядзецца падрыхтоўчая праца, і экспэдыцыя мае адбыцца ў канцы чэрвеня г. г.

Латкамісія разам з націнспэктарам Наркамасьветы распрацоўвае краязнаўчую програму для латыскіх школ, згодна якой у кожнай школе павінен будзе організавацца краязнаўчы гурток для вывучэньня данай колёніі.

— **Польскі Сэктар БАН** у сучасны момант працуе ў наступных напрамках:

1) *Гістарычная камісія* ў апошнія часы вывучала падзеі 60-ых гг. на Беларусі ў сувязі з „Зямлёй і Воляй". Праца гэта ўжо закончана т. Віткоўскім, які гэтае пытаньне распрацоўваў, і здаецца ў друк монографія г. з. „Зямля і Воля" 1860 гг., яе сувязь з паўстаньнем 1863 г. і паўстанчымі

організацыямі на Віцебшчыне". Асьпірант пры гэтай камісіі т. Соруль, які цяпер знаходзіцца ў экспэдыцыі, распрацоўвае галоўным чынам пытаньне аб экономічным становішчы польскага сельсавету Рудня-Шлягінская ў Гомельшчыне.

2. *Камісія мовы і літаратуры* ўкладае польска-беларускі слоўнік (т.т. Я. Гэльтман, Друскоўскі і Даўкша) слоўнік польскіх провінцыяналізмаў (тт. Я. Гэльтман і Дамброўскі), распрацоўвае галіну польскае песьні на Беларусі (т. Даўкша), мову і творчасьць філёматаў (ён-жа), а таксама польскую пролетарскую літаратуру (Друскоўскі). Апрача таго пачаліся працы па рэформе польскага правапісу (тт. Даўкша і Дамброўскі).

3) *Этнографічная камісія* працягвае стацыянарныя досьледы польскага насельніцтва Гомельшчыны па сельсавеце Рудня-Шлягінская і пачала вывучэньне сельсавету Рудня Стаўбунская і інш. На падставе гэтых досьледаў рыхтуецца да друку моногр. праца аб польскім сельсавеце Рудня-Шлягінская (т. Ляндзбэрг). Апрача таго камісія пачала зьбіраньне матар'ялаў аб паходжэньні польскага насельніцтва на Беларусі.

— *У Слоўнікавай Камісіі БАН* выканаяы або знаходзяцца ў стадыі выкананьня наступныя працы:

— Мазырскім краяведам Ал. Крукоўскім укладзены на падставе карткавага матар'ялу, сабранага Мазырскім Акруг. Т-вам Краязнаўства, Мазырскі Краёвы слоўнік (да 10.000 слоў). Рэдакцыя гэтага слоўніка праводзіцца проф. П. Ал. Бузуком.

— Знаходзіцца ў друку Чэрвенскі Краёвы слоўнік, укладзены М. Шатэрнікам пад рэдакцыяй М. Я. Байкова і Бр. Б. Эпімах-Шыпілы. У гэтым акад. годзе друк будзе скончаны.

— Ян Бялькевічам укладаецца на падставе картк. матар'ялу Калінінскі Краёвы слоўнік.

— М. Як. Байковым апрацаваны проект укладаньня акад. слоўніка жывой бел. мовы. Асноўныя прынцыпы ўкладаньня ўжо разгледжаны Слоўн. Камісіяй. Проект будзе выдрукаваны разам з узорам слоўніка і паступіць на разгляд Рады Аддзелу Гуман. Навук БАН і адпаведных спэцыялістых.

— Камісіяй для вывучэньня Заходняй Беларусі разам з Слоўнікавай Камісіяй робяцца крокі для організацыі слоўн. працы ў Заходняй Беларусі.

*У Інстытуце Навуковае Мовы БАН.* У апошні час вышлі з друку:

1. Слоўнік Сельска-Гаспадарчае тэрмінолёгіі ў ліку 1674 тэрмінаў. Стар. 76. Цана 80 кап.

2. Слоўнік хэмічнае тэрмінолёгіі (Агульная хэмія) у ліку 2552 тэрмінаў. Стар. 177. Цана 2 руб. 25 кап.

3. Nomina anatomica (Нэўралёгія, органы пачуцьцяў, агульнае пакрыцьцё і дзедзіны чалавечага цела) у ліку 4750 тэрмінаў. Стар. 112.

Перагледжаны і падрыхтоўваюцца да друку:

1. Фізычная тэрмінолёгія.
2. Тэрмінолёгія агульнае расьлінагадоўлі.
3. Дэндролёгічная тэрмінолёгія.

Знаходзяцца ў апрацоўцы:

1. Тэрмінолёгія выяўленчага мастацтва.
2. „ тэатральнага мастацтва.
3. Археолёгічная тэрмінолёгія.
4. Праўная тэрмінолёгія (пашыраная).
5. Пэдагагічная тэрміналёгія.
6. Тэрмінолёгія політычнае экономіі.
7. Тэрмінлоёгія аналітычнае хэміі.
8. Тэрмінолёгія жывёлагадоўлі.
9. Тэрмінолёгія сельска-гаспадарчае экономікі.
10. Тэрмінолёгія ботанікі і фізыолёгіі расьлін.
11. Зоолёгічная тэрмінолёгія.
12. Тэрмінолёгія садоўніцтва.
13. Мэліорацыйная тэрмінолёгія.
14. Тэрмінолёгія фізыкі і матэматыкі.
15. Тэхнічна-каморніцкая тэрмінолёгія.
16. Тэрмінолёгія машыназнаўства.
17. Тэрмінолёгія органічнае хэміі.
18. Тэрмінолёгія калёіднае, фізыч нае аграномічнае хэміі.
19. Тэхнічная тэрмінолёгія (паравыя катлы, паравыя саўгачныя машыны, паравыя турбіны і рухавікі нутранога згараньня).
20. Вэтэрынарная тэрмінолёгія.
21. Тэрмінолёгія хатніх рамёстваў.
22. Чыгуначная тэрмінолёгія.
23. Гістолёгічная тэрмінолёгія.
24. Тэрміналёгія тэорэтычнае мэханікі.
25. Мэтэоролёгічная тэрміналёгія.
26. Тэрміналёгія клінічнае мэдыцыны.
27. Астраномічная тэрміналёгія.

*Па катэдры этнографіі* за мінулыя 3 месяцы праведзены наступныя працы:

1. Разгледжаны матар'ялы, сабраныя краязнаўцамі ў бягучым годзе—989 народных песень, 138 казак, 656 загадак, 211 абрадаў і загавораў, 365 павер'яў і прымет, 12 легенд і забабонаў, 956 прыказак і пагаворак, 5 апавяданьняў, 3058 прыпевак, 6 забаў і гульняў, 19 вершаў і 5 эмітацый жывёл і птушак.

2. Разгледжаны і зачытаны на сходах Катэдры працы, вызначаныя для друку:

а) Анцаў М. „Калядныя песьні".
б) Ластоўскі В. „Этнографічная экспэдыцыя ў Мазыршчыну і Полаччыну".
в) Ён-жа. „Беларуская разьба па дрэву".
г) Касьпяровіч І. „Аб волатах".
д) Красьнянскі І. „Дамовы быт на Магілеўшчыне і Віцебшчыне, паводле актаў XVI—XVIII ст."
е) Нікольскі М. „Мітолёгія і абраднасьць валачобных песень".
ж) Сербаў І. „Прычоска і галаўныя ўборы беларуса".
з) Ён-жа. „Этнографічная экспэдыцыя ў паўночную частку этнографічнай Беларусі".

3. На сходах катэдры заслуханы даклады:

а) Анцаў М. „Беларускія народныя песьні з мэлёдыямі", па запісах М. Ігнатоўскага.

б) Ён-жа. „Беларускія народныя песьні з мэлёдыямі", па запісах Р. Шырмы, з Віленскага раёну.

в) Балкавец Л. „Лекавыя расьліны і кветкі ў народнай мэдыцыне".

4. Зложаны правілы выдачы ўзнагарод за сабраныя краязнаўцамі этнографічныя матар'ялы.

— У Музтэхнікуме амаль штодзень рыхтуюцца да пастаноўкі опэры „Русалка," якая адбылася 2-га траўня.

— Музкамісія па разгляду твораў для Дзяржаўнага В-цтва ўхваліла 4 рамансы М. Аладава і 3 сьпевы Р. Пукста, якія будуць надрукованы ў хуткім часе.

— Дырыжор Яўрэйскай Дзяржаўнай Капэлы С. В. Полонскі ўтварыў 30 дзіцячых песень для яўрэйскіх школ на адзін голас з ср.-п. Гэты зборнік ужо разгледжаны Музкамісіяй і пасьля некаторых рэдакцыйных паправок аўтарам, пэўна, будзе надрукаваны ў Менску.

У лютым месяцы 1929 году заснаваўся ў Менску пры БДМузэі гурток для вывучэньня выяўленчага мастацтва. У склад гуртка ўвайшлі: Ів. Цьвікевіч, Шчакаціхін, Дыла, Касьпяровіч, Красінскі, Грамыка, Ластоўскі, Дашкевіч.

Гурток вызначыў сабе наступныя мэты 1) вывучаць усе формы выяўленчага мастацтва, 2) шукаць і дапамагаць выяўленьню форм сучаснага беларускага мастацтва. 3) популярызаваць беларускае мастацтва, 4) працаваць у галіне выяўленьня проблем беларускага мастацтва.

Дагэтуль адбылося шэсьць пасяджэньняў, з якіх два былі прысьвечаны організацыйным пытаньням, а на чатырох былі заслуханы даклады: 1) Ластоўскага—Беларуская народная орнамэнтыка, 2) Ів. Цьвікевіча—Аб выданьні лубка на Беларусі, 3) Дашкевіча—Аб шляхох пашырэньня мастацтва ў шырокія гушчы, 4) Кашталянскага—Аб шляхох беларускага мастацтва.

Пасяджэньні гуртка ахвотна наведваюць менскія мастакі бяз розьніцы кірункаў.

У Прэзыдыум гуртка абраны: Ів. Цьвікевіч (старшыня) і Красінскі (сакратар).

*Беларускі Дзяржаўны Культурна-Гістарычны Музэй у Менску.* Адчынены Аддзел Сучаснага Беларускага Мастацтва. Да гэтага аддзелу выдадзены праводнік з уступнымі артыкуламі Ластоўскага і Шчакаціхіна, з рэестрам, у якім пададзены жыцьцяпісы мастакоў.

З трэцяй Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі Наркамасьветай для Музэю набыта 26 карцін мастакоў: Капроўскага, Ахрэмчыка, Эйдэльмана, Мільчына, Вало, Астаповіча, Эндэ, Філіповіча, Гулычова, Розанава, Тайца, Салавейчыка, Тарасікава, Аксельрода, Горшмана і Руцая.

За бягучы год у Музэй паступіла ўсяго экспонатаў больш 4.000 штук (старыя грошы, мэталёвыя вырабы мясцовых майстроў XVI—XVIII ст., карціны, археолёгічныя рэчы і інш.).

Падрыхтоўваецца да выданьня зборнік „Стары Менск".

— Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка друкуе сыстэматычны паказьнік артыкулаў беларускіх часопісаў за пэрыод 1917—1927 г., адначасна друкуецца бібліографія беларусазнаўства, якая ахапляе гэты-ж час. Падрыхтаваны паказьнік за 1928 год.

— Мастак *Іван Пятровіч Станюта* працуе над сэрыяй карцін з Менскага будаўніцтва. Прыватна цяпер піша „Бэтоншчыкаў", „Кладчыкаў" і інш. об'екты і моманты працы будаваньня Унівэрсытэцкага гарадка.

— Скончана друкам выданьне цэнтральнага Бюро Краязнаўства пад назваю: „Краязнаўства. Зборнік програм і інструкцый краязнаўчай працы. Выпуск I", у які ўвайшлі ўсе статуты краязнаўчых організацый, пляны працы і ўсе програмы краязнаўчых прац, якія ўнесены, як асноўныя, у пляны працы ўсіх раённых таварыстваў краязнаўства.

— Усім акруговым і раённым таварыствам краязнаўства разасланы карткі для падліку экскурсійных об'ектаў. Карткі павінны быць запоўнены на кожнае буйнае паселішча і яго выдатнасьці. Яны складуць картотэку турыстычных об'ектаў БССР.

— На Бабруйскай акруговай краязнаўчай нарадзе 5-6 красавіка 1929 г. *т. Касьпяровічам М. І.* прачытаны даклад: „Дзейнасьць Цэнтральнага Бюро Краязнаўства 1927—1929 г. і чарговыя задачы краязнаўства". Ім-жа 9 красавіка 1929 г. на аб'яднаным сходзе гурткоў краязнаўства г. Асіпавіч, Бабруйскай акругі, прачытана лекцыя: „Беларуская навука 1917—1929 г. і чарговыя задачы краязнаўчага руху".

— *Беларускі Дзяржаўны Мастацкі Тэхнікум* у Віцебску пазнаёміў сваіх студэнтаў у парадку пазашкольнай працы з задачамі краязнаўства і справаю вывучэньня краёвага мастацтва. На лета студэнтам маюць быць дадзены заданьні рабіць зарысоўкі і наогул зьбіраць краязнаўчыя матар'ялы ў галіне мастацтва, а ўвосень мае адбыцца выстаўка апошніх. Тэхнікум мяркуе заснаваць краязнаўча-мастацкі музэй. Шмат увагі краязнаўству аддае новы дырэктар Тэхнікуму—*Вольскі.*

— Вышла з друку вельмі каштоўная для краязнаўцаў кніжка проф. *А. В. Фядзюшына* „Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР" у выданьні „Паляўнічага Беларусі" (Менск, Савецкая, 71). Кніжка асабліва цікава мэтодам аўтара апрацоўваць матар'ялы; яго мэтодычныя прыёмы павінны пераняць нашы краязнаўцы-прыродазнаўцы.

## Краязнаўства ў Бел. Дзярж. Мастацкім Тэхнікуме.

Беларускі Дзяржаўны Мастацкі Тэхнікум у Віцебску пачынае зараз разгортваць краязнаўчую працу. Для студэнта-мастака краязнаўства мае вялікае значэньне. Гэта відавочна. Студэнт можа многа карыснага прынесьці краязнаўчай справе сваімі мастацкімі зарысоўкамі, распрацоўкай краязнаўчых тэм у сваіх мастацкіх працах, але ў той-жа час практычная краязнаўчая дзейнасьць значна дапаможа яму ў справе вывучэньня гісторыі беларускага мастацтва, народнага орнамэнту і г. д. Краязнаўства павінна, па нашай думцы, мець адпаведнае месца ў акадэмічным жыцьці тэхнікуму. Яно павінна быць шчыльна зьвязана з выкладаньнем гісторыі бел. мастацтва і распрацоўкай нацыянальнага стылю. У зьвязку з гэтым мы мяркуем увесьці краязнаўства, як самастойную дысцыпліну ў вучэбны плян тэхнікуму на наступны год. На жаль да гэтага часу нічога ў гэтай галіне не рабілася. У мінулым годзе была спроба стварыць гурток, але з гэтага нічога не атрымалася, бо ніякай працы не вялося. Зараз-жа краязнаўчая праца ў тэхнікуме пастаўлена на дзелавы грунт. 18 красавіка праведзены арганізацыйны сход. У склад арганізаванага гуртка ўвайшло 35 студэнтаў і 6 выкладчыкаў. Прынята пастанова, паводле якое кожны член гуртка павінен зрабіць да восені 2 зарысоўкі, альбо 2 фото-здымкі, якія паступяць ва ўласнасьць гуртка, для стварэньня пры тэхнікуме краязн. музэю. Устаноўлена сталая сувязь з акр. праўленьнем. Выпрацоўваецца плян працы на летні час, які будзе выдадзены студэнтам на рукі. Краязн. праца ўвязваецца з працаю Віцебскага Філіалу ОМАХР, катэдраю гісторыі мастацтва і фотогуртком, які таксама організаваўся гэтымі днямі пры тэхнікуме. Дырэкцыяй тэхнікуму набыта ўся неабходная літаратура па краязнаўстве і выпісан „Наш Край“ на 1929 г. Абсталявана фото-ляборатория. Восеньню будзе арганізавана мастацка-краязнаўчая выстаўка. Асноўным зьместам гэтай выстаўкі будзе беларускі краявід ў мастацкіх працах вучняў і выкладчыкаў і вынікі летніх зарысовак (архітэктуры, помнікаў народнага і гіст. мастацтва, маст. вырабніцтва, узораў тканіны і г. д.) і збору матар'ялаў. З экспонатаў гэтай выстаўкі будзе ў сваю чаргу пашыраны Краязн. Музэй пры Тэхнікуме.

23 красавіка адбылася лекцыя т. Даркевіча аб мэтодах і мэтах краязн. працы ў галіне мастацтва.

7 мая адбылася пры ўдзеле ўсіх мастакоў лекцыя маст. Воўкава аб „Прынцыпах краязн. зарысоўкі“. У далейшым мяркуецца яшчэ адна лекцыя на тэму: „На што трэба зьвяртаць увагу, каб зарысоўка была-б каштоўнай“.

Калі НК Асьветы дасьць літары для праезду па чыгунцы, будзе організавана краязн. экскрусія, але асноўная ўвага гуртка будзе нікіравана не на экскурсію, а на працу пасобнага члена, куды-б ён у мясцох БССР ні паехаў. Зацікаўленасьць у краязнаўчай працы сярод студэнтаў і выкладчыкаў Тэхнікуму ёсьць, і мы маем падставы спадзявацца, што дзейнасьць гуртка дасьць у бліжэйшыя часы станоўчыя вынікі.

В. Вольскі.

# Адказы краязнаўцам.

### 9. Вывучэньне бабруйскай краёвай літаратуры.

*Б. Мікулічу, Бабруйск, Менская, 55.* У пачатку свае працы раім вызначыць культурны стан Бабруйшчыны ў момант зараджэньня ў Бабруйшчыне сучаснай беларускай літаратуры і пазьней. (Стан асьветы. Заснаваньне акруговага таварыства краязнаўства і яго чыннасьць. Музэй і г. д.). Сам агляд літаратуры павінен уключаць, паміж іншым, і наступныя моманты: Заснаваньне філіі „Маладняка“, яе гісторыя і вынікі існаваньня. Літсаронкі ў „Комунісьце“, „Вясна“ і „Ўздым“, іх надворная гісторыя, рэдактары-супрацоўнікі, чытачы. Рукапісныя часопісы. Літаратурны (і краязнаўчы) зьмест; вершаваны фэльетон. Літаратурнае жыцьцё Случчыны абмяркоўваецца іншым таварышом, але бабруйскія літаратары родам са Слуцку павінны ўвайсьці ў Ваш агляд. Наогул трэба вывучаць: а) тых, хто паходзіць з Бабруйшчыны і тварыў і творыць у Бабруйшчыне, б) тых, хто паходзіць з іншых краёў, але творыць у Бабруйшчыне і в) тых, хто паходзіць з Бабруйшчыны, але творыць у іншых краёх. Адпаведна гэтаму цікава-б было вызначыць: а) як Бабруйшчына адлюстравана ў бабруйскай літаратуры, б) што з бабруйскага паказана ў агульна-беларускай літаратуры і в) што прынесена ў бабруйскую літаратуру з жыцьця іншых краін.

Памер агляду—каля 16 балонак; можна далучыць 2-3 ілюстрацыі.

### 10. Значэньне краязнаўчага стажу пры паступленьні ў тэхнікумы і вышэйшыя школы.

*Ан. Бялькевічу. Старобін, Бабруйск. акр.*

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства лічыць, што стаж краязнаўчай працы, даведзены адпаведнымі документамі, павінен мець выдатнае значэньне пры паступленьні ў вышэйшыя школы, улічваючыся як вельмі каштоўны від грамадзкай працы, які, разам з тым, сьведчыць аб падрыхтоўцы краязнаўцы. ЦБК зьвярнулася ў Народны Камісарыят Асьветы

Праўленьні Унівэрсытэту, Сельска-Гаспадарчай Акадэміі і Вэтэрынарнага Інстытуту з просьбаю вырашыць гэтае пытаньне ў станоўчым сэнсе і вызначыць, якія докумэнты павінны прадстаўляцца аб краязнаўчым стажы ў прыёмныя камісіі.

**11. Менск як сталічны асяродак беларускай культуры.**

*Таварыству Краязнаўства пры БДзУ. Менск.* Пры распрацоўцы гэтай тэмы трэба зьвярнуць увагу на наступныя моманты, якія могуць быць самастойнымі тэмамі дзякуючы сваёй актуальнасьці і велічыні:

Вышэйшая школа (Пэдагогічны інстытут, Політэхнічны інстытут, Унівэрсытэт, Сельска-гаспадарчы інстытут) і яе роля ў галіне асьветы і навукі. Неадменны рэктар Унівэрсытэту, заслужаны профэсар У. І. Пічэта, акадэмічны пэрсональ, студэнты. Роля Унівэрсытэту ў справе культурнага ўздыму паасобных раёнаў БССР.

Народны Камісарыят Асьветы.

Беларуская Акадэмія Навук. Навукова-дасьледчы Інстытут Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя У. І. Леніна. Навуковае Таварыства пры Унівэрсытэце. Музэі. Роля ўсіх гэтых устаноў, як у справе будаўніцтва агульна-беларускай навукі, так і ў справе культурнага росту паасобных раёнаў БССР.

Друк 1917—1920 г. Надворная гісторыя выданьняў. Іх рэдактары, супрацоўнікі і чытачы. Іх грамадзка-палітычныя програмы. Цэнзурныя ўмовы. Беларусазнаўчы, краязнаўчы і літаратурны матар'ял, месца ў шэрагу сучасных яму небеларускіх выданьнях. Друк 1920—1929 г. і яго падрабязны ўсебаковы агляд.

Концэнтрацыя старых літаратурных сіл у Менску 1917—1920 г. Прыход у менскую літаратуру новых провінцыялаў. Заснаваньне „Маладняка", „Узвышша", „Пробліска", „Літаратурнай Комуны" і „Полымя". Літаратурна-мастацкая продукцыя аб'яднаных і неаб'яднаных у групоўкі пісьменьнікаў і поэтаў. Соцыяльны склад апошніх і месца паходжаньня (карта), а таксама пачатку літаратурнага разьвіцьця (карта) кожнага. Што яны ўносяць у агульнабеларускую літаратуру з месца свайго паходжаньня і пачатку літаратурна-мастацкай чыннасьці. Роля Менску ў справе ўтварэньня беларускай сталічнай літаратуры, а таксама ў справе сьцягваньня літаратараў у Менск з месц. Роля Менску ў справе разьвіцьця літаратуры ў мясцовых краёвых гнёздах.

Першае таварыства беларускай драмы і комэдыі. Беларуская хатка. Першы дзяржаўны акадэмічны тэатр. Другі дзяржаўны акадэмічны тэатр. Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр (Галубка). „Наш тэатр". Вандроўны тэатр саюзу работнікаў зямлі і лесу. Роля тэатру ў агульнабеларускай культуры і ў справе культурнага росту насяленьня акруговых гарадоў і раёнаў.

Менская мастацкая выстаўка. Першая другая і трэцяя ўсебеларускія мастацкія выстаўкі. Усебеларускае аб'яднаньне мастакоў. Мастацкае таварыства „Прамень". Мастацкае згуртаваньне „РОМБ". Задачы сталічнага мастацтва ў справе абслугоўваньня раёнаў і дапамогі разьвіцьцю мастацтва краёвых культурных гнёздаў.

Менскі музычны тэхнікум. Антыбеларускія настроі ў ім і ліквідаваньне іх. Кляса народных інструмэнтаў. Чарговыя задачы тэхнікуму. Першыя музычныя творы з Менску, Масквы, Магілеву, Віцебску, Бабруйску. Іх лёс. Падрыхтоўка опэры. Капэля. Адсутнасьць вывучэньня беларускай музыкі. Задачы ў справе разьвіцьця беларускай музыкі і яе ўплыву на разьвіцьцё музыкі ў краёвых культурных гнёздах.

Чарговыя задачы Менску, як культурнай сталіцы".

Зразумела, такая праца можа быць выканана толькі некалькімі асобамі, чаму і раім Вам разьмеркаваць яе паміж членамі розных сэкцый таварыства, якім і даручыць узаемна ўзгадняць сваю працу. Апрача літаратуры, паказанай у адказе шостым, раім пазнаёміцца з наступнымі працамі: Н. Н. Фатов. О краеведческом изучении литературы. „Родной язык в школе", 1926 г. № 9, ст. 21—26. М. П. Сокольников. Литература Иваново-Вознесенского края (введение в изучение местной литературы), „Труды Иваново-Вознесенского Губернского Научного Общества Краеведения", вып. 3, Ив.-Вознесенск, 1925, ст. 182—219.

**12. Практычнае значэньне этнографічнага вывучэньня краю.**

*П. Хрысанфаву, Чашнікі, Віцебскай акругі.* Вывучэньне этнографіі мясцовага краю мае надзвычайна вялікае практычнае значэньне, якога часта пакуль што не ўяўляюць сабе нават мясцовыя этнографы. Папершае, толькі яно можа дапамагчы ў справе вызначэньня неабходнасьці ўтварэньня мясцовых нацыянальных сельсаветаў, школ, судоў і д. т. п., бо ні мовазнаўчыя, ні антраполёгічныя, ні, тым больш, гістарычныя досьледы ня могуць быць выстарчальнымі. Сталае ўсебаковае вывучэньне ўсіх асаблівасьцяй мясцовага быту, такім чынам, дае найбагацейшы матар'ял для мерапрыемстваў у галіне нацыянальнай політыкі. Падругое, вывучэньне, так званай, матар'яльнай культуры краю: жытла, адзежы, ежы і пітва і сельска-гаспадарчых і прамысловых прыладаў дае найбагацейшы матар'ял для мерапрыемстаў у справе мэдычнай профіляктыкі, зьмяншэньня сьмяротнасьці, патаненьня і стандартызацыі будаўніцтва, скарыстаньня няведамых раней мясцовых матар'ялаў для харчаваньня, удасканаленьня адзежы, падвышэньня ўраджайнасьці, прасоўваньня тавараў у мясцовы край і г. д., бо толькі на падставе падліку мясцовых асаблівасьцяй быту і рэсурсаў мясцовага краю магчыма з

пасьпехам зьмяняць матар'яльную культуру працоўнага насельніка і з посьпехам прадаваць тавар з улюбёнымі тут узорамі і гэтым выцясьняць нявыгадную мясцовую хатнюю продукцыю, прасоўваць патрэбныя тут адменьнікі прылад, організаваць грамадзкае харчаваньне з разьлікам на мясцовыя прывычкі і г. д. Патрэцьцяе, вывучэньне вераваньняў мясцовага насяленьня, яго забабонаў і чараўніцтва, вывучэньне народнай мэдыцыны, мясцовага звычаёвага права, дзяцінага быту і г. д. дае каштоўныя даныя для антырэлігійнай пропаганды, скарыстаньня мясцовых лекавых расьлін, змаганьня са злычынствамі, выхаваўчай школьнай і пазашкольнай працы і д. т. п. Урэшце, вывучэньне мясцовай вуснай народнай творчасьці дапамагае скарыстаньню мясцовай мовы для ўмацаваньня сувязі гораду з вёскай, уразуменьня сьветапогляду мясцовага насельніка і карацейшых шляхоў да зьмены яго і інш. Зразумела, што вялікае практычнае значэньне мясцовай этнографіі і ў тым, што яна ня толькі апісвае мясцовую культуру і быт, але і тлумачыць іх, ды вызначае магчымыя лініі палепшаньня іх, дапамагаючы посьпехам новага быту ў справе змаганьня яго са старым. Таму краязнаўца-этнограф павінен цікавіцца колькасным і тэрыторыяльным пашырэньнем зьяваў, сувязьзю іх з экономікай краю і г. д. ды ставіць пытаньне аб чарговых задачах у справе скарыстаньня гэтых зьяваў для палепшаньня жыцьця працоўнага насельніка мясцовага краю або зьнішчэньня іх, калі яны шкодныя: этнограф-краязнаўца вывучае забабоны, напрыклад, для таго, каб дапамагчы хутчэйшаму зьнішчэньню іх, а ня ўмацаваньню. Малое разуменьне практычнасьці этнографічнага вывучэньня краю залежыць ад чыйго-колечы няўменьня скарыстоўваць мясцовую навуковую працу для сваёй чыннасьці ў справе соцыялістычнага будаўніцтва (гаспадарчага і культурнага). З далейшым пашырэньнем краязнаўчага руху і паглыбленьнем яго дзейнасьці гэтае няўменьне будзе пераможана і тады нават папярэдняя этнографічная праца будзе з пасьпехам скарыстана.

### Зьбіраньне дзяцінага фольклёру.

*В. Сяргейчыку. Горкі, Чэрвенскага р.* Як Вам вядома, пад дзяціным фольклёрам разумеюць увесь збор вусных твораў, якія вядомы дзецям і не ўваходзяць у склад народнай творчасьці дарослых. Падобна апошняй, творы дзяцей часта адпавядаюць дзяцінаму каляндару, г. зн. пэўным момантам або порам году. Другая частка дзяцінага фольклёру не прымацавана да каляндарнага бегу часу. Наогул дзяціны фольклёр складаецца з каляндарных і некаляндарных песьняў, вершаў, заклінаньняў, дразьнілак, лічылак, частагаворак, загадак, задач, прозьвішчаў, кпін, прымет, павер'яў, замоваў, казак і д. т. п., а таксама—з пэўнай часткі вусных твораў дарослых, ды перайманьняў з кніжак. Для выкананьня ўзятай Вамі на сябе задачы зьбіраньня дзяцінага фольклёру Вы павінны: а) сабраць усе тэксты вуснай дзяцінай творчасьці свайго сяла з паказаньнем мясцовай дзяцінай назвы твору, ад каго, дзе, калі і кім запісаны твор; б) падрабязна апісаць, у якіх умовах, калі, з якой прычыны і г. д. даны твор пяецца, дэклямуецца, гаворыцца, ці выклікае ён якія новыя дзеяньні і інш.; в) высьветліць на колькі магчыма, калі і пры якіх абставінах запісаныя творы зьявіліся ў Вашым сяле; г) пералічыць найбольш выдатных выканаўцаў, іх якасьці, спасаб выкананьня, рэагаваньне слухачоў і г. д. і д) вызначыць колькаснае і тэрыторыяльнае распаўсюджаньне тэкстаў. Правілы запісу тэкстаў тыя самыя, што і пры запісу фольклёру дарослых

---

# Бібліографія.

**Наш раён.** *Часопіс краязнаўчага гуртка пры Асіпавіцкай чыгуначнай сямігодцы. № 4, студзень 1929 году; folio, пісаны рукой, 1 паасобнік, 18 старонак тэксту, з фотографіямі, малюнкамі, картамі, плянамі і дыяграмамі. Рэдколегія не паказана.*

Пад кіраўніцтвам выдатнага мясцовага краязнаўцы А. Немцава ў Асіпавічах вырастае цэлая школа краязнаўцаў. Працуе раённае таварыства краязнаўства, гурток краязнаўства пры чыгуначнай сямігодцы ды гурток краязнаўства пры гарадзкой сямігодцы. Найбольш актыўнай зьяўляецца моладзь. Вось маладыя энтузіясты - краязнаўцы з гуртка краязнаўства чыгуначнай сямігодкі, дзе служыць і сам А. Немцаў, выдаюць свой часопіс, чацьверты нумар якога і названы вышэй.

Першым артыкулам у гэтым нумары зьмешчана „Санітарна-бытавое абсьледваньне в. Восава, Дзераўцоўскага сельсавету“, М. Сідаровіча, якое складаецца з: а) „уступу“, б) „гістарычных вестак“, в) „насельніцтва“, г) „заняткаў“, д) „двара“, е) апісаньня санітарнага быту вёскі і э) заключэньня аб патрэбных мерапрыемствах для палепшаньня апошняга. Артыкул на 14 старонках даволі грунтоўна і дакладна высьвятляе паказаныя пытаньні, прычым асаблівую перераканаўчасьць маюць фотоздымкі, пляны, дыяграмы і д. т. п., якіх у артыкуле налічваецца 19.

Другім зьмешчаны канец артыкулу „Пятилетний хозяйственный план м. Осиповичы“, уласна разьдзел „По линии местной промышленности“, лічбы якога адыгрываюць асабліва важную ролю ў справе прапрацоўкі комплексаў у мясцовых школах. Апрача таго,

артыкул мае вялізнае значэньне для папулярызаваньня мясцовага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Далей зьмешчаны запіс аднэй жніўнай песьні з мэлёдыяй і 14 прыпевак з паказаньнем дзе, ад каго і кім яны запісаны.

Вокладка нумару зроблена са звычайнага картону; на ёй прыгожымі і чытэльнымі літарамі напісана назва часопісу паміж застаўкай і канцоўкай ды наклеена ўдалая фотографія. На першай старонцы (тытульнай) наўскос прыгожы надпіс „Наш раён" і ў дольным правым рагу — „№ 4". Артыкулы і запісы фольклёру пачаты застаўкамі. Тэкст пісаны з аднаго боку. Фотоздымкі, пляны на кавалках звычайнай паперы і на мілімэтроўцы ўдала наклеены ў тэксьце. Памылак амаль няма.

Часопіс мае не адно выхаваўчае і популярызацыйнае значэньне, але і навуковакраязнаўчае, толькі трэба больш вытрымліваць фонэтычны прынцып запісу фольклёру.

Асабліва трэба вітаць тое, што часопіс ня спыніўся на 1-2 нумары, як у некаторых іншых краязнаўчых організацыях, а ўпарта і ўважліва ідзе да новых дасягненьняў сваімі чарговамі нумарамі.

М. І. Касьпяровіч.

**Родны кут.** *Часопіс краязнаўчага гуртка пры Асіпавіцкай сямігадовай школе № 1, 1 студзеня 1929 году. Пісаны рукой, folio, 20 старонак тэксту, з фотоздымкамі, малюнкамі, дыяграмамі і д. т. п., 1 паасобнік. Рэдколегія не паказана.*

Падобна гуртку краязнаўства пры Асіпавіцкай чыгуначнай сямігодцы, пры Асіпавіцкай-жа гарадзкой сямігодцы гурток краязнаўства пад кіраўніцтвам здольнай настаўніцы гэтай школы пачаў выдаваць свой часопіс пад паказанай назвай. Зроблены з асаблівым замілаваньнем гэты нумар „Роднага кута" зьмяшчае наступныя матар'ялы: а) „Вёска Осава (санітарна-бытавы нарыс)" і б) запісы песень, прыпеваў, замоў і забабонаў.

Нарыс зьяўляецца вынікам экспэдыцыі гэтага гуртка разам з гуртком краязнаўства чыгуначнай школы ў в. Восава для дасьледаваньня яе санітарна-бытавога стану і ўмоў яго палепшаньня. Адзінаццаць фотоздымкаў, плянаў, дыяграм і д. т. п. дапаўняюць і падмацоўваюць сабой пэўныя месцы артыкулу.

Нажаль, ня пры ўсіх запісах тэкстаў народнай творчасьці паказана дзе, ад каго і кім яны запісаны. Таксама трэба клапаціцца аб большай вытрыманасьці фонэтычнасьці запісаў. У нарысе спатыкаюцца ортографічныя памылкі.

На вокладцы з картону сярод цікавых орнамэнтальных аздобаў чытэльная назва часопісу і фотоздымак. На тытульнай старонцы наўскос назва часопісу чырвоным атрамэнтам і справа па ёй — „№ 1" тушшу. Фотоздымкі, пляны і інш. на звычайнай паперы і мілімэтроўцы наклеены сярод тэксту, які пісаны на абедзьвюх балонах. Нарыс скончаны канцоўкай.

Зьмест часопісу мае і навукова-краязнаўчае значэньне. Наогул часопіс робіць вельмі прыемнае ўражаньне і заслугоўвае перайманьня. Нажаль, ён ня можа выдавацца ў вялікім ліку паасонбікаў, бо няма сродкаў на фотоздымкі.

М. І. Касьпяровіч.

**Школьная праца.** *Часопіс Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі. Дзьвінск. 1929 г., № 12 (люты-сакавік), прысьвечаны народнай творчасьці латгальскага беларуса, пісаны рукой і адціснуты на шклопісе ў ліку 150 паасобнікаў, фоліо 24 стар., аздоблены застаўкамі і канцоўкамі, цана 50 сантымаў (25 латвійскіх руб.).*

Часопіс „Школьная праца" выдаваўся раней як орган Беларускай гімназіі, і таму адначасна адлюстроўваў і некаторыя моманты беларускага культурна-нацыянальнага руху ў Латвіі. Пасьля гадовага перапынку часопіс стаў выдавацца як краязнаўчы. Прычыны гэтага сама рэдакцыя тлумачыць так: „Наш часопіс „Школьная праца" ўжо год як не змог выпусьціць свайго чарговага нумару, дзякуючы адсутнасьці матар'яльных сродкаў на яго друкаваньне. За гэты год вучні гімназіі задавальнялі сваё імкненьне ў літаратурнай творчасьці выданьнем ў працягу году цэлага шэрагу рукапісных часопісаў як напр. „Альманах", „Шлях з цьмы", „Пралеска", „Зорка", „Наш шлях з цьмы" і г. д. І гэты добры шлях для вучняў застаецца і на далейшы час. Калі-ж набярэцца з гэтых рукапісных часопісаў шмат цікавага матар'ялу, дык лепшыя з іх творы, ёсьць думка, выпусьціць друкаваным спосабам, як калісь-та быў выданы „Ластаўка" — часопіс Люцынскай Беларускай Дзяржаўнай гімназіі. Зараз-жа рэдакцыя бліжэйшыя нумары свайго часопісу „Школьная праца" вырашыла прысьвяціць народнай творчасьці. І вось чаму. Вучням гімназіі і на лекцыях беларускай мовы і ў прыватных з імі гутарках заўсёды прапанавалася бліжэй прыглядацца да народнага жыцьця, да быту беларускага селяніна, з якога яны самі паходзяць, і запісваць усё цікавае, што яны пачуюць ці пабачаць. І вось больш сьвядомыя вучні сур'ёзна аднесьліся да гэтай справы і сабралі шмат этнографічнага матар'ялу, як то: песьні, казкі, байкі, прыказкі і г. д. Зьявілася думка надрукаваць паступова ўвесь гэты матар'ял на шпальтах „школьнай працы" і з гэтаю мэтаю пэдагогічная рада пастанавіла выдаць адпаведную дапамогу на выданьне чарговага нумару „Школьнай працы".

Згодна думцы рэдакцыі этрографічнае вывучэньне латвійскіх беларусаў можа мець вялікае практычнае значэньне ў справе змаганьня супроць асыміляцыі: „З другога-ж боку рэдакцыя „Школьнай працы" лічыць вельмі важнай справай друкаваньне этногра-

фічнага матар'ялу, сабранага сярод беларускага жыхарства Латгаліі. Вядома, што быт латгальскага беларуса мала ці зусім яшчэ не дасьледваны. Між тым гэтая недасьледаванасьць твору латгальскага беларуса вельмі кепска адбіваецца на агульных інтарэсах беларускай нацыянальнай меншасьці ў Латвіі. Кожны стараецца перацягнуць беларуса на свой бок, а больш адважныя проста кажуць, што беларусаў у Латвіі зусім няма. Гэта казалі некаторыя дэпутаты ў Латвійскім сойме, а некаторыя сьцьвярджаюць гэта і ў друку. Яскравым прыкладам апошняга зьяўляецца кніга, выпушчаная ў сьвет у 1923 годзе інспэктарам пачатковых школ Люцынскага павету О. Свэнне пад назвай „Veca un Sáuna Latgale in vinasipašibas", дзе ён проста зазначае, што беларусаў у Латгаліі няма (стар. 35—37)".

Адсюль зусім слушны замер рэдакцыі друкаваць усе сабраныя ёю матар'ялы: „Адным з лепшых доказаў супроць гэтай хуткасьпелай думкі інспэктара О. Свэнне і зьявіцца гэты і чарговыя нумары „Школьнай працы", дзе будуць зьмешчаны: песьні, казкі і г. д. латгальскага беларуса з паказаньнем у якіх паветах і валасьцёх яны запісаны. Пры гэтым мы будзем зьмяшчаць увесь сабраны нашымі супрацоўнікамі матар'ял, незалежна ад таго, ці быў ён раней дзе-небудзь надрукаваны".

Разам з тым рэдакцыя правільна лічыць, што адным вывучэньнем быту і вуснай народнай творчасьці абмежавацца нельга: „Раўналежна з этнографічным матар'ялам, рэдакцыя будзе зьмяшчаць гістарычныя зацемкі аб курганох, цікавых мясцовасьцях Латгаліі, а таксама і аб сучасным жыцьці селяніна-беларуса. На колькі гэтыя мэты будуць дапяты рэдакцыяй, будзе залежаць ад надсыланага ёй супрацоўнікамі матар'ялу. А таму рэдакцыя горача заклікае вучняў беларускай гімназіі, курсантаў Рыскіх настаўніцкіх курсаў, беларускае вучыцельства і ўсіх сьвядомых беларусаў Латвіі прысылаць нам адпаведныя матар'ялы, фотографічныя здымкі і замалёўкі алоўкам ці фарбамі малюнкаў народнага жыцьця латгальскага беларуса".

Аб конкрэтных задачах мясцовай краязнаўчай працы рэдакцыя зьбіраецца выдаваць мэтодычныя матар'ялы: „Што для рэдакцыі цікава атрымаць будзе і як зьбіраць этнографічны матар'ял мы будзем друкаваць апросныя лісткі, програмы для зьбіраньня і наагул даваць свае паказаньні".

Сваё новае пачынаньне рэдакцыя робіць з бадзёрым настроем: „Маем цьвёрдую надзею, што новы кірунак нашай часопіс і спаткае беларускае грамадзянства Латвіі дображадана і выкажа ёй сваю моцную актыўную падтрымку".

Зараз-жа за артыкулам „Ад рэдакцыі" зьмешчаны правілы „як трэба запісваць" фольклёр.

Далей у часопісу зьмешчаны запісы народных песьняў з паказаньнем ад каго, дзе і кім зроблены запіс. Рэдакцыя зьмясьціла нават тры адменьнікі аднэй песьні з наступнай заўвагай: „Рэдакцыя зьмясьціла тры варыянты купальскай песьні „Ляцеў, хадзіў чыжык", каб паказаць, як адна найбольш любімая песьня латгальскага беларуса варыруецца ў розных паветах (Люцынскім і Дзьвінскім) і нават у сумежных валасьцёх (Істрэнскай і Расінскай). Гэта лішні доказ жывучасьці і рознабаковасьці беларускай народнай творчасьці ў Латгаліі".

Пасьля запісаў песьняў ідуць запісы народных апавяданьняў з тымі-ж адзнакамі месца запісу і д. т. п., усьлед за якімі зьмешчана яшчэ адна народная песьня. Усяго пададзена звыш 15 тэкстаў.

Урэшце зьменшчана кроніка гімназіі. З апошняй варта адзначыць наступныя даклады ў гімназіі: а) „Беларуская культура і яе разьвіцьцё"—Ст. Рацына, б) „Становішча Заходняй Беларусі"—Т. Шайтра, в) „Калядныя сьвяткі ў беларусаў"—У. Меншыкава, г) „Этапы разьвіцьця беларускай літаратуры"—С. Сахарава, д) „Гістарычны шлях Беларусі"—С. Сахарава, е) „Экономічны стан Латвіі—П. Жэрдзі і інш., ды пастаноўкі: а) „На Полацкім замчышчы"—О. Сахаравай, б) „Раскіданае гняздо"—Я. Купалы, в) „Калядны дзед"—У. Меншыкава, г) „Паўлінка"—Я. Купалы, ды сьвяткаваньне юбілею Ц. Гартнага.

Часопіс канчаецца заклікам да ўсіх беларусаў у Латвіі аб зьбіраньні краязнаўчых матар'ялаў, зьмешчаны на апошняй старонцы вокладкі.

Аздобы ў відзе заставак і канцовак робяць прыемнае ўражаньне.

Неабходна ў запісах фольклёру прытрымлівацца фонэтычнага прынцыпу запісваньня, ды пашырыць кола сваёй дзейнасьці і на вывучэньне экономікі латвійскіх беларусаў і прыроды Латгаліі, дзе беларусы жывуць компактнай масай.

М. І. Касьпяровіч.

# Краёвая бібліографія.

### I. Бібліографічныя паказчыкі.

А. Ш. Інструкцыйна-краязнаўчая літаратура, выданая Ц. Б. Краязнаўства. Наш Край. 927. № 10. с. 75—80.

Выданьні Акруговых Краязнаўчых Таварыстваў і сьпіс з паказаньнем рэцэнзій. Наш Край. 927. № 6-7. с. 118-119.

Касьпяровіч, М. Организаванае вывучэньне краю і школы. (Бібліографічны паказчык). Асьвета. 926. № 1. с. 124—130.

Касьпяровіч, М. Организаванае вывучэньне Беларусі. Бібліографічны паказчык. Наш Край. 928. № 1. с. 61—63; № 3. с. 62-63; № 4. с. 63—67; № 6-7. с. 94—96; № 5. с. 64—66.

Летапіс беларускага друку. Бібліографічны бюлетэнь Бел. Кніжнай Палаты. Выходзіць раз у месяц. Менск 1925 год, № 1-6; 926 г. №№ 1—12; 927 г. №№ 1—12; 928 г. № 1—12.

Матар'ялы да беларускай бібліографіі. Т. IV Этнографія. Менск 1927 г., ст. XII+90 ст.

Палеес, А. Д. Матар'ялы да бібліографіі па вывучэньні яўрэйскага насельніцтва мястэчак Беларусі. Наш Край. 928. № 2. с. 61—64.

Пракулевіч, Ул. Бібліографія па экономіцы і савецкім будаўніцтве БССР. (Па матар'ялах Бібліографічнага Бюро Бел. Дзярж. Бібліотэкі). Сав. Буд-ва. 928. №№ 2—12.

Пракулевіч, У. Сыстэматычны сьпіс навуковых прац аб прыродзе Беларусі за 1926 і 1927 г. Зап. Аддз. Прыроды і Гасп. І. Б. К. т. I. с. 253—292.

Соловьев, П. проф. Список литературы по фауне Белоруссии. Зап. Бел. Акад. С.-Г. 928. № 7. с. 175—177.

Шашалевіч, А. Краязнаўчы друк БССР к 10 гадавіне Кастрычніка. Наш Край. 927. № 10. с. 72—74.

### II. Агульны разьдзел.

Аврамчик, А. Социальный состав грузохозяев [Минск, Витебск, Бобруйск]. Сав. Буд-ва. 928. № 8-9. с. 167-168.

Агурский, Самуил. Очерки по истории революционного движэния в Белоруссии (1863—1917). Минск. 928. с. 346. 2.

Адамайтис, И. А. Сельское хозяйство Белоруссии. Нар. хоз-во Бел. 924. № 1. с. 17—24; № 2-3, с. 58—69.

[... Административно-организационная работа Витебского и Могилевского горсоветов. Бюл. СНК. БССР. 926. № 3. с. 35—105.

Алексеев, М. Орша, Могилев, Гомель и Минск не подготовились к полевым пробам (гончык). Паляўнічы Бел. 928. № 6 (11). с. 23-24.

Архангельский, Е. Д. Южные уезды Псковской губ. и БССР. Отд. оттиск из журн. „Савецкае Будаўніцтва" № 10. Изд. Р. И. О. Госплана БССР. 926. 28 стр.

Байкоў, Мік. Слоўнікавая праца на мясцох у БССР за 3 гады (1925—1928 г.). Наш Край. 928. № 12, с. 47—56.

Байкоў, М. Сучасны стан і пэрспэктывы слоўнікавай працы на мясцох БССР. Асьвета. 927. № 2. с. 121—126.

Байкоў, М. Што зроблена ў справе зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу на мясцох за 1926 г.? Наш Край. 927. № 1. с. 36 - 39.

Баркоўскі, С. Першае мая на Беларусі. Менск. 927. С. 58—3.

[... Белорусская Советская Социалистическая Республика. Минск. 927. Изд. СНК БССР —VIII+528 ст.+5 карт.

Брахман, А. Общее и политическое состояние педтехникумов в губернии [Гомель, Новозыбков, Могилев, Рогачев]. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923, № 43. с. 24—26.

Ванцкевіч. Грамадзка-карысная праца школ М. Б. Б. чыгункі М. Асьвета. 927. № 1. с. 69—72.

Васілеўскі, Д. Краязнаўчая праца на ўсходзе Беларусі. Аршаншчына. 926. ч. I. с. 2—8.

√Васілеўскі, Д. Сялянства Віцебскай і Магілеўскай губэрніі ў паўстаньні 1863 г. Полымя. 928. № 6. с. 148—161.

Вся Белоруссия. Справачная кніга. Минск. Г. Изд-во Бел. на 1923, 1925, 1926 і 1927 годы.

Государственное страхование в сельских местностях БССР в 1925-926 г. Минск. 925. 11 стр.

Грамыка, М. З падарожных запісаў. Па ўсходніх раёнах БССР. Наш Край. 926. № 4-5 (7-8) с. 55 - 63.

Г-скі, Н. Беларуская культурная праца на Ўсходзе [Масква, Гомельшчына, Віцебшчына, Смаленшчына, Адэса]. Вестн. Нар. Ком. Просв. ССРБ. 922. № 3-4 (5-6) с. 16—20. Бел. аддз.

Диаконенко, С. В., ветврач. Минско-Слуцкое коневодство (Белоруссии). Бел. Ветеринария 927, № 4. с. 9—15.

Дубах, А. Проблема регулирования водного режима в Полесье Западной Области. Материалы Запомо. 922. № 1. с. 3—14. 6 черт.

Дуброўскі, М. А. Сялянскія заработкі па Мазырскай, Калінінскай і Аршанскай акругах паводле даных ЦСУБ за 1924-25 г. Праца Навук. Т-ва па выв. Бел. 927. т. II. с. 132—151. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Жарынаў, Д. Праца мэтодычных камісій пры акруговых АПА БССР за красавік-чэрвень б. г. Асьвета. 926. № 5. с. 131—135.

Жарынаў, Д. Мэтодычная праца па акругах. (За жнівень-кастрычнік). Асьвета. 926. № 7. с. 98—103.

Жарынаў, Д. Мэтодычная праца акругаў ад 1-га студзеня да 1-га красавіка 1926 г. Асьвета. 926. № 3. с. 157—161.

Кайгародаў, Аляксей. Кліматычны атляс Беларусі. Менск. (Беларускі Навук.-Дасьледчы Інстытут Сел. і Лясн. Гаспадаркі). 927. с. 13, 76 карт.

Касьпяровіч, М. І. Зарысоўка мясцовага краю. Чырвоны Сейбіт. 927. № 14. с. 10—13.

Касьпяровіч, М. Краязнаўства ў сучаснай графіцы. Наш Край. 926. № 12 (15). с. 35—42 з малюнкамі.

Каракулько, В. Сервитутный вопрос, как фактор сельского хозяйства и решение его комитетами Минской губернии 1902 г. Нар. хоз-во Бел. 924. № 1. с. 43—68.

К административной переписи населенных мест и хозяйств БССР на 11-1925 г. Минск. 925. 16 стр.

Кароткая справаздача аб рабоце органаў дзярж. страхаваньня ў сельскіх мясцовасьцях БССР у 1924-25. Менск. 925 г. 8 стар.

Контрольныя цифры потребкооперации БССР на 1928-29 год. Минск. 928. с. 134 [2].

Краткий отчет о работе органов Государствен. Страхов. в сельских местностях БССР в 1924-25 г.. Минск. 925. 8 стр.

Ляўданскі, А. Н. 1. Раскопкі і археолёгічныя разьведкі ў Барысаўскім павеце. 2. Сьляды нэолітычнае стаянкі і пазьнейшых культур каля м. Новага Быхава (Адбітак з навуковага зборніку І. Б. К., выд. 1925 г.). Менск. 1925 [1927]. Стар. 86—109. 12 стар. карт. і малюнкаў.

Май, Ул. Першая ўсебеларуская мастацкая выстаўка і арганізацыя мастацкіх сіл Беларусі. Маладняк. 926. № 11 (2). с. 158-159.

Малярэвіч, С. Месяц працы голёгічнай экспэдыцыі па Дняпры і Сожы. (Заметкі і ўражаньні). Чырв. Сьцяг. 925. № 3-4. с. 105—110.

Матар'ялы абсьледаваньня тэхнікі сялянскай гаспадаркі. Пад. рэд. проф. С. Скандракова. (Абітак з навук. зборніку І. Б. К. выд. 1925 г.). Менск. І. Б. К. 925 [927] с. 196—226.

Материалы по вопросу районирования Западн. Области Союза. Госплан БССР. Минск. 926—Выпуск I. Гомельск. губ. [6] 87 ст.

Мухніцкі, і Сапега. Праца па комплекснай сыстэме. [Даклады т.т. Мухніцкага і Сапегі аб працы Качынскай школы на пленуме мэтадычнай камісіі пры Менакрана 4/III-26 г.]. Асьвета. 926. № 2. с. 43—50.

Натансон, В. С. Лесохимическая промышленность Белоруссии и ее переспективы. Сав. Буд-ва. 926. № 3. с. 100—111.

Обзор работы органов социального страхования Белоруссии за период с 10/X-1924 по 1-X 1925 г. Минск, 925. 40 стр.

По округам [БССР Советское строительство] Сав. Буд-ва: 924; № 2, с. 142—150; 925, № 3-4. с. 152—166; № 5-6, с. 153—167; № 7-8. с. 160—183.

Па акругах. 1. Общественная деятельность Минского Окр. К-та Бел. О-ва красного креста. 2. Полацк. 3. Магілеў. 4. Ворша. 5. Клімавічы. 6. Барысаў. 7. Мазыр. Бюл. Бел. Т-ва Чырвон. Крыжу 926. № 2-3. с. 9—54.

Па акругах. Мазыр, Магілеў, Чэрвень. [Отделы О-ва Красного Креста]. Бюл. Бел. Т-ва Чырв. Крыжу. 926. № 1. с. 34—36.

Палікарповіч, К. М. Археолёгічная праца на Беларусі за 1919—1928 г.г. 2. Досьледы культур каменнага і бронзавага пэрыядаў у Ўсходняй Беларусі. Зап. Аддз. Губ. Навук ІБК 928. кн. 5. с. 263—274.

Пелехаў, Н. Н. проф. Сялянскае каняводзтва б. Магілеўскай, Менскай, Віцебскай і Віленскай губ. за час 1888—1912 г.г. (паводле даных вайскова-конскіх перапісаў). Праца Навук. Т-ва па вывуч. Бел. 927. т. II с. 1—34. 4 т. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Першы этап. Смаленск—Менск—Вільня—Менск—Смаленск. [КСМБ]. Маладняк. 924. № 2—3 с. 27—29.

Промышленность БССР. Итоги и перспективы. Минск. 928. с. 372. 4. 19 стран. фот., табл. и диаграмм.

Прохараў, А. Шлях вырашэньня праблемы ўраджайнасьці Менска-Слуцка-Барысаўскага раёну БССР. Сельск. і Лясн. Гасп. 928. кн. 7. № 5-6. с. 28—39.

Розэнгауз. Праца ў раенных Камітэтах Чырвонага Крыжу. [З вопыту працы] Бюл. Бел. Т-ва Чырв. крыжу. 926 № 1 с. 19—21.

Сведения Налогового Управления Народн. Комиссариата Финансов Белоруссии о поступлении местных налогов и сборов на территории Белоруссии. Нар. Хоз-во Бел. 923. № 2. с. 73—80; № 4 с. 126-127; № 7, с. 193—200, № 10-11. с. 170—176; № 12, с. 120—123. 924 г. № 2-3, с. 212—215.

Слупский, С. Механическое движение населения в окружных городах БССР за 1926 год. Сав. Буд-ва 927. № 7-8. с. 137—140.

[Слупский, С. Н.] Территория БССР. [Территория округов и население. Статистика] Статыстыка. 927. № 1. с. 36-37.

Смулевич, Болеслав Яковлевич. Заболеваемость и смертность населения городов и местечек БССР. С предисл. Нар. Ком. Здрав. БССР. М. И. Барсукова и Упр. ЦСУ.БССР. Л. Л. Преферансова. Минск. 928. С. X [2] 532.

Список абонентов Могилевской, Шкловской и Быховской телефонной сети и пригородн. телефон. сообщений на 1926 г. Могилев. изд. „Соха и Молот". 926. стр. 46. 2.

Старавойтаў, Ф. Трывалыя і даходныя гатункі яблынь на Віцебскай і Магілеўскай акругах. Плуг. 925. № 4 с. 21—22.

Статистический ежегодник. Минск. изд. ЦСУ БССР за 1923/24—1926 годы.

Сяргеява-Булаўка, З. З камандыроўкі ў Мазырскую Гомельскую, Полацкую і Віцебскую акругі. (Ст. Аховы Расьлін). Сельск. і Лясн. Гасп. 928. кн. 7. № 5-6. с. 272—274. хроніка.

Терлецки, Б. К. Залежи белых песков и белого пишущего мела в Бобруйском, Минском и Слуцком округах БССР. Зап. Бел. Дз. Ун-ту С.-Г. 925. сш. 9. с. 70—97.

Т у т к о в с к и й, Л. А. Геологические исследования в Минской губ. Изд. Госплана Белоруссии. Минск. 925. ч. II. стр. 362. библиография: Литература по геологии Минск. губ. 204 назв.

1905 год у Беларусі. Зборнік артыкулаў, успамінаў і матэрыялаў пад рэд. М. Шульмана. (Камісія ЦВК БССР па організацыі сьвяткаваньня 20-годзьдзя Рэволюцыі 1905 г. і Гістпарт аддзел ЦК КП(б)Б. Менск. 926, VII, 109 стар. 15 т.

1905 г. у Беларусі. Зборнік архіўных дакумэнтаў пад рэд. С. Агурскага, Б. Аршанскага і Ул. Барашкі. (ЦК ЦВК БССР па азначэньні 20-хгадовага Юбілею Рэволюцыі 1905 г. і Гістпарт ЦК КП(б)Б. Менск. 926. VIII. 256 стар.

Фізкультура ў гарадох Рэчыца, Барысаў, Бабруйск. Бюл. Бел. Т-ва Чырвон. Крыжу 927. № 3—6. с. 44

Ф р ы д м а н. Праца Акруговых Камітэтаў да 25 верасьня 1926 г. (З дакладу на II Пленуме ЦК. Беларуск. Т-ва Чырв. крыжу). Бюл. Бел. Т-ва Чырв. Крыжу, 926. № 2-3. 10—14.

Ф я д з ю ш ы н, А. Падарожжа на Птыч і матар'ялы для вывучэньня орнітофаўны Беларусі. Мат. да вывуч. флёры і фаўны Бел. т. 1 927 с. 40—92. [Рэзюмэ на нямецкай мове].

Ф я д з ю ш ы н, А. У. Справаздача аб экспэдыцыі для вывучэньня фаўны ўсходняй часткі БССР улетку 1925 г. Мат. да выв. флёры і фаўны Бел. т. 2 с. 79—102. 11 фот.

Х а ц к е в и ч, А. Итоги перевыборов сельских и местечковых советов БССР—Бюл. СНК БССР. 926. № 4. с. 79—84.

Хацкевич, А. И. Итоги перевыборов советов по БССР в 1927 г. Сав. Буд-ва. 927. № 7-8. с. 147—159.

Ш ч а к а ц і х і н, М. Матывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве(З вынікаў Усебеларускай выстаўкі).—Наш Край 926 № 2-3 (5-6) с. 15—25. [З малюнкамі].

Ш ч а к а ц і х і н, М. Спосабы зьбіраньня матар'ялаў з беларускага мастацтва. Наш Край. 926. № 2-3 (5-6). с. 62—69.

Э п ш т е й н, Б. Производительность труда и зарплата на госкожзаводах и обувных фабриках. [Минск, Витебск]. Проф. Рух. Бел. 926. № 11. с. 7-8.

Ю р к е в и ч, С. М. Комплексная сыстэма ў школах прымітывах Заходніх чыгунак—Асьвета. 926. № 2. с. 38—42. 2 табл.

### III. А р ш а н ш ч ы н а.

А. Б. Па школах Аршаншчыны. Асьвета. 926. № 5. с. 102—108.

А н і х о ў с к і, А.—Стан народнае асьветы ў Мсьціслаўскім раёне, Аршанскае акругі. Асьвета 928. № 2. с. 140—144.

А н д р э й ч ы к а ў, П. Групавыя сады Горацкага раёну Аршанскай акругі. Плуг. 927. № 12. с. 39-40.

Аршанскі Маладняк. Орган Аршанскай філіі „Маладняк". Ворша-Горкі 925, №№ 1-2; 926, №№ 1—3; 927, № 6. 928, № 7.

Аршаншчына. Зборнік. Выданьне газ. „Камуністычны Шлях". [(Аршанскае Акруговае Т-ва Краязнаўства)] Ворша. 926. ч. 1. 33 стар.

А с о т, Г. Даволі калечыць чытача! [Мова газ. „Камуністычны Шлях"]. Чырв. Сейбіт. 927. № 20-21. с. 28-29; 928. № 1, с. 28-29.

А с т а н ь к о в і ч, А. і Е р а ш э ў с к і, П. З. Кароткая справаздача аб дзейнасьці Дрыбінскага дасьледчага поля Горацкай с.-г. дасьледчай станыці. Сш. X. Асобны водціск з „Працы Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі" т. II. 1927 г. Горкі. 927. с. 129—142. (НКЗБ. Горацк. с.-г. Дасьледчая Станцыя. Аддз. агульнай палявой культуры).

Б а л а б а н о в, П. и Ф у р е м с, А. Осинстрой (к вопросу об экономическом обосновании Осиновской Электростанции). Сав. Буд-ва. 928. № 5. с. 29—44.

Б а р о ў с к і. Агляд дзейнасьці Аршанскага Камітэту Чырвонага Крыжу. Бюл. Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу. 927. № 7—9. с. 49—51.

Б а с к и н. Оргинизация жилтоварищества в Оршанщине. Праф. Рух Бел. 925. № 14. с. 9.

Бібліографія Аршанскае акругі. Прырода. [10 назваў]. Аршаншчына. 926. частка 1. с. 28-29.

Б р а г и н с к и й. Из недавнего прошлого [Последние дни немецкой оккупации в Унече]. Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 921. № 7-8. с. 60—62.

Будова Асінаўскай электрастанцыі (Паводле дакладаў т.т. Карпа і Алейнікава на 3 сэсіі ЦВК БССР VIII скліка},ньня, 19 верасьня 1928 г.). Наш Край. 928. № 10. с. 6—10.

Б у р ш т э й н, М. праф. Дасягненьні Горацкай садовай дасьледчай станцыі. Сельск. і Лясн. Гасп. 927. № 2. с. 24—29.

Б у р ш т е й н, М. Устойчивый ассортимент яблонь для района Гарецкой с.-х. опытной станции. Записки Горецк. С.-Х. Ин-та 925. т. II. ч. II. с. 44—50. [Тэзісы на нямецк. мове].

Важнейшыя моманты справаздачы Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі пры БДА С.-Г. у Горках. Інст. Бел. Культ. (Ад 15 сакавіка 1925 г. да 9 сакавіка 1926 г.). Праца Навук. Т-ва па вывуч. Бел. 926. т. 1. с. 183—186.

В а с і л е ў с к і, Д. З гісторыі Воршы. Наш Край. 926 № 2-3 (5-6). с. 53-54.

В а с і л е ў с к і, Д. З гісторыі Аршанскага друку. Наш Край 927. № 6-7. с. 76—80; № 8-9, с. 46—50.

В а с і л е ў с к і, Д. М. Кароткі нарыс гісторыі Горацкага раёну і г. Горак. Праца Нав. Т-ва Бел. пры Б. Д. А. С.-Г. 927. т. III. с. 149—154.

В а с і л е ў с к і, Д. З матар'ялаў да археолёгічнай карты Аршанскае акругі. Наш Край. 926. № 6-7. (9-10). с. 64—67.

В а с і л е ў с к і, Д. М. Друк на Аршаншчыне. Ворша. 927. с. 16.

В а с і л е ў с к і, Д. Помнікі старасьветчыны на Аршаншчыне. Наш Край. 927. № 2. с. 40—44.

Васілеўскі, Д. М. Народная асьвета ў Горацкім раёне. Праца Навук. Т-ва па выв. Бел. 927. т. III, 169—176.

Васілеўскі С. Д. Умовы працы і здароўе асьветніка Воршанчыны. Асьвета 928. № 2. с. 129—135.

Васількоў, У. Г. Матар'ялы да флёры Горацкага раёну. Праца Навук Т-ва Бел. пры Б. Д. А. С.-Г. 927. т. III. с. 35—73.

Веялко-Згерский, А. А. Описание Бортушевского сел.-хоз. мелиоративного товарищества. Материалы Запомо. 923. № 2. с. 57—60. 1 сх.

Влашынскі, А. Нашы сады. (Вынікі абсьледваньня садоў у Аршанскай акр). Плуг. 926. № 12. с. 23-24.

Высоцкі, М. М., доц. З рэзультатаў досьледаў на Стэбутаўскім дасьледчым полі ў 1924 г. [Гры-Горкі]. Зап. Бел. Дз. Акад. Сел. Гасп. 927. т. 5. с. 74—102. [Рэзалюцыя на нямецк. мове].

Гарэлікаў, А. Ў. і Загорскі К. С. Статыстычны абгляд Горацкага раёну. Праца Навук. Т-ва па вывуч. Бел. 927. т. III. с. 241—284.

Гладышевский М. Из работ Минской Опытной Лесной Станции. (Краткое предварительное сообщение). Нар. хоз-во Бел. 924. № 1. с. 73—77.

Глікін. Да дзесяцігодзьдзя існаваньня Аршанскага Цэрабкопа. Шлях Коопэрац. 928. № 8-9. с. 55—58.

Год працы Горацкага раённага Т-ва краязнаўства [з 1-XI-1925—1-XI- 1926 г.] Наш Край. 926. № 12 (15) с. 72-73. Хроніка.

Горецкое об-во „Долой неграмотность" Горки. 925 г. 10 стр.

Гуржы, Р. С. Некаторыя плады і ягады Горацкага раёну, як матар'ял для вінаробства, паводле досьледаў у лябораторыі пл.-ягадн. вінароб, Б. Д. Акадэміі ў 1927 г. Працы Навук. Т-ва па выв. Бел. 928. т. V. с. 185—192.

Гуржы Р. Выраб пладовага віна ў саўхозе Забалоцьце. (Аршанская акруга). Плуг. 926. № 10. с. 25.

Гурэвіч. Ч. Мінулае піанэр-руху (ў Воршы). Аршанскі Маладняк, 925. № 2. с. 29-30.

Гурэвіч Б. Як калёнія Напраснаўка арганізавала машыннае таварытва. (Аршанск., акруга). Плуг. 925. № 5. с. 43.

Даўгяла, Д. У. Аршанскія пячоры. Наш Край. 926. № 8-9. (11-12). с. 45—50. з малюнкамі і плянам.

Дзянісаў, З. М. Разьмяшчэньне відаў Sphagnum у мохавым насьціле імшары Горацкае лясное дачы. Працы Навук. Т-ва па выв. Бел. 928. т. V. с. 54—65. З плянам. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Дзяніскевіч і Кохам. Вопыт работы з беднатой (Аршанчына) Бальш. Бел. 927. № 3. с. 41—43.

Дубах, А. Рост мохового покрова, торфа и сосны на болоте в Горецкой лесной даче в элементарной обработке. Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та 926. т. III. с. 200—214. [Тэзісы на нямецк. мове].

Жарын, М. Праф. праца Аршанскага Акруговага бюро Вэтсэкцыі. (Па матар'ялах дасьледваньня Акрбюро 16—22 чэрвеня 1928 г.) Бел. Ветеринария. 928 № 9. с. 37—42.

Жураўскі, С. К. Асінторп і Асінбуд. (Кароткі географічны нарыс). Наш Край. 928. № 10, с. 10—14.

Журык, С. У. — Аналіз прадукцыйнасьці малочнага скатаводзтва фермы б. Горацкага С.-Г. Інстытуту. (Лябараторыя Агульнае Зоотэхнікі). Зап. Бел. Дз. Акад. С.-Г. 926. № 1. с. 44—67.

Журык, С. У. Матар'ялы да вывучэньня быдла на Беларусі. Быдла Горацкага раёну. Праца Навук. Т-ва па вывуч. Бел. 926. т. 1 с. 79—88. Рэзюмэ на нямецк. мове 1.

Захарыч, П. Праца Зембінскага крэдытнага таварыства. Плуг. 925. № 9. с. 39—41.

Жыцьце і праца Аршанскага Акруговага Тав-ва Краязнаўства. (Справаздача за 1925 г.) Аршаншчына. 926. ч. 1. с. 16—28.

Из материалов Первой Окружной Партконфэренции (25. XI. 1924 г.). Орша. 925. 37 стр. 1. к.

К. Опыт большого дерзания. Либретто оперы: „Освобождение труда". [Написано в 1921 г. в Мстиславле]. Трибуна Искусства. 925. № 9. с. 4-5.

Кавалёў Н. Е. Маргель і іншыя карысныя выкапні. (Каля в. Кляднявіч, Дрыбінскага раёну, Аршанскай акругі). Наш Край. 928. № 10. с. 28—36.

Кавалёў М. Е. Прырода-гістарычныя і экономічныя прадпасылкі забясьпечаньня вадою сялянскіх гаспадарак Горацкага раёну. Праца Навук. Т-ва па выв. Бел. 927 т. IV. с. 172—198. 5 т.

Казела, Р. Заканчэньне навуковага году ў вясковых школах Аршаншчыны. Асьвета. 926. № 4. с. 99—101.

Кайгородов, А. Температурный режим Горец. района. (Климатический этюд). Зап. Гор. С.-Х. Ин.-ту 924. № 1. ч. 2 с. 207—232. 5. т.

Кайгародаў, А. Сутачны рух націску ў Горках паводле запісаў бараграфа за пяць год (1921—25). Зап. Бел. Дз. Ак. С.-Г. 927. т. III с. 256—270; т. IV. с. 136—147.

Кайгародаў А. І., проф. Сутачны рух тэмпэратуры ў Горках паводле запісаў тэрмографа за пяць год (1921—1925). З запісак Бел. Дз. Акад. С.-Г. т. III. Горкі Бел. Дз. Ак. С.-Г. 927. С. 256—270.

Кайгародаў, А. І., проф. Сутачны рух націску ў Горках паводле запісаў барографа за пяць год (1921—1925) з Запісак Бел. Дзярж. Ак. С.-Г. т. IV. 1927. Горкі 927, С. 136—147.

Калф, аграном. Аб Рагайглаўскіх двухтыднёвых с.-г. курсах. Плуг. 926, № 5. с. 35.

Калінін Н. Вынікі IV-га Акруговага зьезду Профсаюзаў. (Аршаншчына). Проф. Рух. Бел. 928. № 11. с. 9-10.

Калінін Н. Пра работу сярод сэзоньнікаў. (Аршанчына). Бальш. Бел. 928. № 11. с. 87—90.

Кандрацюк, А. Вынікі Зембінскай раённай мэтодычнай конфэрэнцыі. Асьвета. 927. № 4. с. 143-144.

Каплан. К вопросу о постройке районной электростанции возле Орши. Сав. Буд-ва. 926. № 6. с. 74—78.

Кароткі нарыс гаспадарчага стану Аршанскае акругі. Ворша. 928. с. 52.

Кесарава, Е. У. Нарыс расьліннасьці Чапялінскага мохавага балота, Горацкага раёну. Праца Навук. Т-ва па выв. Бел. 926. т. I. с. 69—78. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Кіпрыянец К. Рэорганізацыя палявой гаспадаркі на Аршаншчыне. Сельск. і Лясн. Гасп. 927. № 2. с. 37—41.

Кіпрыянец К. Балотныя абшары Аршаншчыны. Аршаншчына. 926 ч. I. с. 29—31.

Ключароў, А., проф. Нарыс арганізацыі аддзелу спэцыяльнага расьлінаводзтва „Горацкай С.-Г. дасьледчай станцыі“ т. II. 1927 г. Горкі. (НКЗБ. Горацкая С.-Г. Дасьледчая Станцыя. Аддз. спэцыяльн. расьлінаводзтва). 927. 77—90.

---

**УВАГА:** У № 3 „Нашага Краю“, стар. 32, радкі 7—10 зьнізу трэба чытаць так: камісія была арганізавана як з эсэраў, так і з іншых але-ж яна цалкам знаходзілася пад іх уплывам. На чале камісіі Ів. Лапцэвіч увесь час яе працы не стаяў, эсэрам ён так сама ня быў, а знаходзіўся пад іх уплывам.

Рэдакцыя.

---

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.

Рэдактар З. Бядуля.

# ЗЬМЕСТ

Цана 50 к.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, програмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Вітkоўскі, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, С. К. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Мацьвяёнак, У. Мікіцінскі, М. Мялешка, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, В. Самцэвіч, П. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. У. Фядзюшын, Е. Цехановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| На паўгода 2 р. 25 к. | На 1 месяц — р. 50 к. |

Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „АСІПАВІЦКІ РАЁН“, выпуск II — узорнае краязнаўчае апісаньне сельсавету, мястэчка і вёскі. Кніжка патрэбная для працы кожнага краязнаўцы, настаўніка і політасьветпрацаўніка.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ў рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная, № 21, Ц. Б. Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1928 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 30% — за 10 руб.

Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:

„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р., другі выпуск — 80 к.
Краязнаўства. Зборнік. Цана 1 руб.
Краязнаўчым організацыям скідка 25%.